МІНІСТЭРСТВА ВЫШЭЙШАЙ І СЯРЭДНЯЙ СПЕЦЫЯЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ БССР

ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА І МОВАЗНАЎСТВА

Міжвузаўскі зборнік

*ВЫПУСК III*

Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна
Мінск 1975

# II. МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ*

## А

АБ *у прыназ.* Аб той час не гаварыў (Ухаў, Ветк.).

АБА́БАК I *м.* 1. ababак, падбярозавік. Знайшоў пад бярозаю абáбак (Дубраўка, Добр.); Абáбкі мы збіраем нароўні з баравікамі (Бабовічы, Гом.); 2. *перан.* ціхі чалавек. А ён ціхі, як абáбак (Дубраўка, Добр.).

АБА́БАК II *м.* укладка сена, збожжа на полі. Складзі сена ў абáбак, а то дождж пойдзе (Башыца, Б.-Каш.); Жыта ў абáбках дасохне (Кабанаўка, Жлоб.).

АБА́БАЧКА *ж. памянш. да* абáбак II. Жыта добрае ў мяне было: усё поле абáбачкамі абставіла (Каротка-вічы, Жлоб.).

АБАБРА́ЦЬ *зак.* 1. зняць. Я ўчора два раі абабрáў (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. абкрасці. Хтосьці хацеў абабрáць краму (Перароў, Жытк.); Злодзей аббярэ́, то хоць вуглы астануцца (Там жа).

АБА́ДВА *лічэбн.* абодва. А мае паразіты абáдва дранікаў не ядзяць (Крыўск., Б.-Каш.).

АБАКЕ́НКІ (абакóнкі, абакóніцы) *толькі мн.* аканіцы. Ой, бабы, сёння вецер аж абакéнкі ірвецъ (Крыўск, Б.-Каш.); Учора ўжэ і абакóнкі пакрасілі (Бабовічы, Гом.); Калі будзеце ставіць абакóніцы? (Бывалькі, Лоеўск.). *Парайн.* абыкóнкі, абыкóнчыны.

АБАЛО́Н *м.* ствол дрэва. У мене на гародзе абалóн стаяў, дак бурай зламіла (Холмеч, Рэч.).

АБАЛАЧО́К *м.* воблачка, хмурынка. Хоць абалачóк і невялікі, а дождж добра пакапаў (Заспа, Рэч.).

АБА́ПАЛАК *м.* аполак. Падай мне той абáпалак, ён на зямлі ляжыць (Халочча, Чач.).

АБАПНУ́ЦЦА *зак.* накрыцца хусткай. Трэба абапнýцца хусткаю, а то будзе холадна (Перароў, Жытк.); Канаплянкай абапнéшся і добра (Рафалаў, Браг.)/уху-

---

* Матэрыялы для слоўніка падрыхтавалі: Рудакоўская З. А., Янкова Т. С. (літару А), Мядзведзева В. І., Цэхановіч Л. В. (Б), Даўгяла Г. А., Ляшчынская В. А. (В), Горленка В. А., Лявончанка Д. А. (Г), Анічэнка Ул. В., Беліч Ул. Л. (Д).

таццца. А чаму не абапнуцца добра, гэта ж не на гулянку ідзеш (Пераро́ў, Жытк.).

АБА́РАЦ *м.* доўбня. Аба́рцам дзелаюць усё, што і малатком; ім усё забіць можна (Халочча, Чач.).

АБАСНАВА́ЦЬ *зак., спец.* аснаваць. Учора ужэ абаснава́лі хату (Суткоў, Лоеўск.).

АБАЧА́ЙКА (абеча́йка, абіча́йка, абяча́йка) *ж.* абечак *(у сіце)*. Абача́йка абы з якога дзерава — найбольш з смаловага (Холмеч. Рэч.)/абечак *(у жорнах)*. Ето, коб мука не вусупалася — абеча́йка (Заходы, Лельч.); Абеча́йка прыбіта з жалеза, бляшка ўкругавую, штоб не сыпалася зерно (Марозавічы, Б.-Каш.); Абіча́йка затрымлівала муку ў жорнах (Залессе, Чач.); Абяча́йкі парассыхаліся (Заспа, Рэч.). *Парайн.* абе́чак, абме́ціца.

АББІВА́ЛА *м.* лодар, гультай. І ў каго ты ўдаўся? Такі аббіва́ла (Салтанаўка, Б.-Каш.); Дакуда ты, аббіва́ла, ліжаць будзіш (Зялёныя Лукі, Гом.).

АББІВА́ЛКА *ж.* пранік для малацьбы. Аббіва́лка вон ляжыць, бяры да аббівай проса (Багданавічы, Карм.); Аббіва́лку з бярозы робяць (Там жа).

АББО́РКІ *толькі мн.* заканчэнне *(уборкі лёну)*. Сёння ўжэ аббо́ркі выбралі (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* абіркі.

АБВЕ́РЧАНКА *ж.* хустка *(сярэдняга памеру)*. Пойдзем у лес, вазьмі з сабой абве́рчанку (Стаўбун, Ветк.). *Парайн.* абвязка, апіналка, апіна́нка.

АБВІХНУ́ЦЬ *зак.* абвярнуць, абгарнуць. Абвіхну́ць яблыні нада на зіму, а то вымерзнуць (Грабаўка, Добр.).

АБВЯ́ЗАНКА *ж.* хуста *(цёплая)*. Вазьмі абвя́занку, бо холадна (Хвойнае, Хойн.). *Парайн.* абкрыва́ха, абмата́нка, абпіна́тка, абпінка.

АБВЯ́ЗКА *ж. тое, што* абве́рчанка. Вось гора, ніколі сваю абабвя́зку не завяжа, усё маю цягае (Бяляўка, Чач.).

АБВЯНЧА́ЦЬ *зак.* аббегаць. Цэлы дзень не була дома, мабуць абвенча́ла ўсе село (Махнавічы, Маз.).

АБГАРО́ДКА *ж.* загарадка. Пералезь праз абгаро́дку (Неглюбка, Ветк.).

АБГАЧКО́ЎВАЦЬ *незак.* матычыць. Дачка з маткай пайшлі бульбу абгачко́ўваць (Карма, Добр.).

АБДА́ЦЬ *зак.* абліць. Нас сёння дужа дождж абда́ў (Салтанаўка, Б.-Каш.).

АБДЗЕ́ЛКА *ж.* абшыўка. Каб не ўцепалась, зрабі абдзе́лку (Хойнікі). *Парайн.* абкла́дка, аблямо́ўка.

АБДЗЕ'РКІ *толькі мн.* кудзеля *(з дрэннага лёну)*. Прала абдзёркі (Махнавічы, Маз.). *Параўн.* абдзіркі *ў* 1 *знач.*

АБДЗЁРКІ шатроўка. У нашым ветраніку абдзёркі не дзелалі, у Злобін вазілі (Кароткавічы, Жлоб.).

АБДЗІРА'НЕЦ *м.* абадранец. Дзе не патрэбна цегаецца, абдзіра́нец (Крыўск, Б.-Каш.); Пасля смерці Гашкі ён стаў абдзіра́нцам (Шырокі, Б.-Каш.).

АБДЗІ'РАЧНЫ (абдзі́ркавы) *прым.* ніткі *(з дрэннай кудзелі)*. Абдзірачныя ніткі някрэпкія (Ст. Буда, Б.-Каш.); Аснову зраблю з абдзі́ркавых нітак (Дземяхі, Рэч.).

АБДЗІ'РКІ *толькі мн.* 1. адыходы *(з лёну)*. Калі лён труць, а потым чэшуць грабёнкай, на ёй астаецца кужаль, адпадаюць абдзі́ркі (Баравікі, Светл.); Абдзі́ркі абдзіраюць на грэбень (Палессе, Чач.) /*тое, што* абдзеркі. З паганага лёну дак і абдзі́ркі няважные (Грушаўка, Добр.); Сядзіць і прадзе абдзі́ркі (Перароў, Жытк.); Абдзі́ркі пасля часання прадуць на мяшкі (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. зрэб'е. Абдзі́ркі пойдуць на мешкі, на анучы (Прудок, Калінк.); 3. лупіны. Ты ж абдзі́ркі ад картопляў пакідай у кацёл і пастаў у печ, каб яны зварыліс на абед парасяці (Заспа, Рэч.).

АБДЗІРКО'ВЫ *прым.* зрэбны *(пра палатно)*. Абдзірко́вае палатно мы ткалі з Ганнай (Пагоннае, Хойн.).

АБ'Е'ДДЗЕ *толькі адз.* аб'едкі. Сена добрае, так аб'е́ддзя німа нісколькі (Грушаўка, Добр.).

АБЕ'ДНІК *м.* га̀ршчок. Абе́днік кашы наварыла, і ніхто не еў яе (Заспа, Рэч.); Наварыла абеднік супу (Ломыт, Хойн.).

АБЕ'ЧАК *м. тое, што* абача̀йка *ў* 2 *знач.* Абе́чак з дуба ці граба, штоб мол не вусупаўся (Іванаўка, Хойн.); Нізкі абе́чак у нашых жорнах: мука высыпаецца (Навінкі, Калінк.).

АБЕ'ЧКА *н.* 1. *тое, што* абача̀йка *ў* 1 *знач.* Рашотка ў мяне ёсць да вот абе́чка німа (Тульгавічы, Хойн.)/*тое, што* абача̀йка *ў* 2 *знач.* Абе́чка — ета дзераўяная часць мельніцы для таго, шоб мука не высыпалась (Маркавічы, Гом.); 2. века *(дзежкі)*. Абе́чка з дзежкі паламалася (Ломыш, Хойн.); Добрае абе́чка зрабіў мне Апанас, а то не было чым накрыць мне дзяжу з хлебам (Заспа, Рэч.).

АБЖЫ'НАК *м.* дажынкі. Абжы́нак дзелаюць на полі і хлеб звозяць (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* абжы́нкі.

АБЖЫ'НКІ *толькі мн. тое, што* абжы́нак. Абжы́нкі,

як і дажынкі: жаці канчаюць, жніво памінаюць, віном запіваюць (Касцюкоўка, Гом.); Закончым абжынкі і нясом дамоў пучочкі жыта (Крупец, Добр.).

АБЗО'Л *м.* абалона. У дрэве зразу відзен абзо́л (Неглюбка, Ветк.); Абзо́л лягчэй усяго зняць (Піркі, Браг.).

АБІ'РКІ *толькі мн. тое, што* абборкі. Абіркі ў нас, калі канчаем браць, а ета бывае ў аўгусці (Быч, Карм.); Калі лён ужэ абяруць, дык гуляюць абіркі (Касцюкоўка); Уся сям'я была на абірках (Багданавічы, Карм.).

АБІ'ЦІК *м.* гладыш. Абіцік — ета гладышка з адбітым рылам (Азяраны, Раг.); Злей верх у абіцік (Там жа).

АБКАЦІ'ЦЦА *зак.* ашчаніцца. Сучка абкацілася ў полі, а потым перанесла сабачанят (Баравікі, Светл.).

АБКЛА'ДКА *ж. тое, што* абдзелка. Цішэй кідай, а то абкладку ўсю заляпаеш (Бяляўка, Чач.).

АБКО'ПКІ *толькі мн.* дакопкі. Абко́пкі былі, толькі я іх не гуляла (Крупец. Калінк.); Хадзіце, бабы, на абко́пкі, па карзіні бульбы дадуць (Неглюбка, Ветк.).

АБКО'СКІ *толькі мн.* дакоскі. Сёння закончылі касьбу, абко́скі зрабілі (Неглюбка, Ветк.).

АБКРАЎЗА'ЦЬ *зак.* пакараціць. Анюта, ты троху абкраўза́й сваю сукенку (Глушкавічы, Маз.)/завузіць. Я дала пашыць каптанчык, так яна абкраўза́ла, глядзець не на што (Буйнавічы, Лельч.).

АБКРЫВА'ХА *ж. тое,* што абвязанка. У мяне добрая абкрыва́ха (Заходы, Лельч.); Абкрыва́хай накрыюся і пайду (Там жа).

АБКРЫ'ЦЬ *зак.* завязаць. На свята апкры́й прыгажэйшую хустку (Раманавічы, Гом.).

АБЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* палажыць. Дзе ж ета я свой ключ мог аблажы́ць (Быч, Карм.).

АБЛА'М *м.* аблава. Быў абла́м на ваўкоў (Неглюбка, Ветк.).

АБЛАТАШЫ'ЦЬ *зак.* 1. абарваць *(садавіну, гародніну).* Ганна, глядзі свой сад, бо ўчора хлопцы сабраліся аблаташы́ць (Антонаў, Ельск.); Хлопцы з пасёлка за ноч дзве яблыні аблаташы́лі (Асінаўка, Светл.); Так і глядзі, бо аблато́шаць грады ці сліўкі абарвуць (Зарэчча, Жлоб.); 2. абабраць, аграбіць. Ён жа аблато́шыў сваю жонку да ніткі і ўсё прапіў (К. Балсуны, Ветк.).

АБЛЕТАВА'НЫ пералетаваны *(пра дровы).* Ета ўжэ дровы аблетава́ныя: паліжалі ўсе лета, а ціпер мы іх палім (Палессе, Чач.).

АБЛЕ'ТАЎНІК (аблётнік) *м.* дровы *(пералетаваныя)*. Аблётаўнік добра гарыць (Хвойнае, Хойн.); У нас аблётнік тожа трохі ёсць (Быч, Карм.).

АБЛЁТ *м.* вылет *(пчол пасля зімы)*. Чагось позна быў аблёт пчол (Марозавічы, Б.-Каш.); Першы аблёт пчолы пачынаюць весной, як трохі снег сойдзе (Заходы, Лельч.); Дней праз пяць-шэсць матка маладая крэпне і вылетае з вулля на аблёт (Баравікі, Светл.).

АБЛО'ЖНІК *ж.* дождж *(бесперапынны)*. Абло́жнік заклаў на цэлы дзень (Лучын, Раг.); Ну, лёг абло́жнік, цяпер не выйдзеш цэлую нядзелю (Янова, Ветк.).

АБЛУ'ТКІ *толькі мн.* бліны. Аблутко́ў напякла (Харомцы, Акц.).

АБЛЯМО'ЎКА *ж. тое, што* абдзе́лка. Аблямо́ўка ў кажуху ў цябе нейкая дабрэнная (Харомцы, Акц.).

АБМАЛО'ТКІ *толькі мн.* дамалоткі. Абмало́ткі закончыліся, жыта ў авін насадзілі (Крупец, Добр.); На абмало́ткі ў нас учора ўсе выйшлі (Баравое, Лельч.).

АБМАТА'НКА *ж. тое, што* абвя́занка. Нясі-ка сюды абмата́нку, хай во людзі паглядзяць (Р.-Барталамеева, Чач.).

АБМАТА'ЦЬ *зак. перан.* абдурыць, абмануць. Дарма што такі, а ўсіх абма́тue (Быч, Карм.). *Параўн.* абмахле́рыць.

АБМАХЛЕ'РЫЦЬ *зак. тое, што* абмата́ць. Я іх усіх абмахле́рыла (Піркі, Браг.).

АБМЕТЛЮВА'ЦЬ *зак.* абмятаць. Я ету прарэску абметлю́ю (Быч, Карм.).

АБМЕ'ЦІ *толькі мн.* адыходы *(збожжа пасля абмалоту)*. Аўсяныя абме́ці добра ядуць коні (Заспа, Рэч.).

АБМЕ'ЦІЦА *ж. тое, што* абача́йка *ў 2 знач.* Абме́ціцу з дзерава або жэсці робяць (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* абечак, абечайка, абічайка, абячэйка.

АБМЫ'ЛАК *м.* змылак. Во толькі абмы́лак астаўся (Жгунь, Добр.).

АБМЫ'ЛКІ *толькі мн.* вада *(пасля мыцця бялізны)*. Асталіся абмы́лкі ў начоўках (Забалацце, Раг.); Вылі абмы́лкі і налі чыстай вады (Там жа); Абмы́лкамі добра мыць мост, калі вельмі грязны (Бабовічы, Гом.).

АБО'РКА *ж.* матузок, завязка *(у кашулі)*. Або́ркі прышывалі, каб цясней служыў каўнер: хочаш, зробіш слапчэй — як захочаш (Харомцы, Акц.).

АБО'РНІКІ *толькі мн.* лапці з вяровак. Або́рнікі часцей за ўсё былі з вяровак, але маглі быць і з канапель

(Баравікі, Светл.); Абóрнікі калісь болей дзелалі, а сёння не так (Кароткавічы, Жлоб.).

АБО'РЫНА *ж.* абора. Дзе то абóрына задзелася? (Харомцы, Акц.); Як пачнеш абóрыны раскручваць, дык непрывычны і заплутаецца, доўгія дужа былі (Бяляўка, Чач.).

АБПА'РАК *м.* венік *(спараны)*. Абпáрак быў нарасхват у лазні (Лучын. Раг.); Етым абпáркам шчэ можна добра папарыцца (Кароткавічы, Жлоб.).

АБПІНА'ТКА (абпінка) *ж. тое, што* абвязанка. У мене ёсць адна абпінáтка, дай хваціць (Кавакі, Браг.); Вазьмі абпінáтку, а то змерзнеш за дарогу (Крыўск, Б.-Каш.); У хаце абпінка трэба (Паганцы, Светл.).

АБРАБО'Т *м.* апрацоўка. Іструб здзелан, цяпер трэба за абрабóт брацца (Косаль, Карм.).

АБРАДЗІ'ЦЦА I *зак.* нарадзіць *(дзіця)*. Твая нявестка шчэ не абрадзілася? (Асінаўка, Светл.).

АБРАДЗІ'ЦЦА II *зак.* прыбрацца. Бач ты, як нашы дзеўкі абрадзіліся (К. Балсуны, Ветк.).

АБРАЗА'ЦЬ *зак.* абіраць *(бульбу)*. Не абразáйце так шалупкі, а то будзе бульба мучная (Неглюбка, Ветк.).

АБРАЗНО'Е *прым.* часанае *(бервяно)*. Падзяржы пакуль абразнóе (Халочча, Чач.); З абразны́х бярвенняў добрую хату паставіў сабе Сцяпан (Шуты, Ельск.).

АБРАКА'ЦЦА *незак.* даваць *(зарок)*. Абракáлася не есці, не рабіць у свята (Гарывада, Рэч.).

АБРАМЯНІ'ЦЬ *зак.* пачакаць. Абрамяні трошкі, я скора прыду (Белы Пераезд, Петр.).

АБРО'К I *м.* корм *(у дарогу для каня)*. Едзіш у дарогу, бяры абрóк (Стаўбун, Ветк.); Едучы ў дарогу, бяры абрóк каню і сабе (Астрагляды, Браг.).

АБРО'К II *м.* ахвяраванне *(для царквы)*. Каб зняць з сябе грэх, трэба абізацельна даць абрóк (Баравое, Лельч.); Мы калісь давалі ў царкву абрóк: хто рушнік, хто палатно, а хто грошы (Быч, Карм.).

АБРУ'САК *м.* абрус. Што на стол засцілаюць! Няма абрýска люцкага (Рафалаў, Браг.).

АБРУЧЫ' *толькі мн.* шляк. Плацце расшыла абручáмі (Харомцы, Акц.).

АБРУ'ЧЫК *м.* пяльцы. Такі быў добры абрýчык, дак нада ж зламаць (Каравацічы, Рэч.); Такі ж харошанькі абрýчык здзелаў (Халочча, Чач.).

АБРЭ'ЗКІ (абрэзні) *толькі мн.* атопкі. Абрэзкі ўжэ стары ня мог насіць (Крупейкі, Лоеўск.); То ж кідаюць

абрэ́зкі за гароды, лучай бы палілі (Р.-Каменева, Лоеўск.); Надзеў на ногі абрэ́зні (Ухаў, Ветк.). *Параўн.* апоркі.

АБСКРАБА'ЦЬ *незак.* аскрабаць. З маладой картошкі лушпайкі не лупілісь, дак абскрабáлі (Рудня Антонаўская, Калінк.).

АБСУ'НУЦЬ *зак.* абмазаць. Тося і каленкі абсýнула ў зелень (Палессе, Чач.).

АБТО'РКАЦЬ *зак.* паабтыкаць. Дзве грады абтóркала, шчоб куры ні лезлі (Піркі, Браг.).

АБУ'РЫНЫ *толькі мн.* мякіна. Абýрыны коням аддаюць, мешаюць для корму (Холмеч, Рэч.); Абýрын багата асталося, зграбі ў кучу (Пагоннае, Хойн.).

АБУРЭ'ННІ *толькі мн.* салома *(пасля малацьбы)*. Абурэ́нні худобе даюць (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* амялля.

АБУЯ'ЦЬ *зак.* абвязаць. Шпігатам абуя́юць і ў печку (Холмеч, Рэч.).

АБШЧАПІ'ЦЬ *зак.* 1. ахапіць рукамі. Абшчапíла так крэпка ручкамі, што і ручкі пабялелі (Гарадзец, Раг.); 2. ачапіць, акружыць. Калі фашысты ўрвалісь у нашу вёску, то глаўны іх загадаў абшчапíць вёску і праверыць, ці ёсць у хатах мушчыны (Заспа, Рэч.).

АБШЫВА'НА (абшывáнка) *ж.* лодка. Мікола ўжо другую абшывáну зрабіў (Перароў, Жытк.); Добра апшывáнка, і сена, і дровы прывязеш (Аравічы, Хойн.); Садзіцесь у абшывáнку, перавязу (Азяраны, Раг.); На абшывáнцы ад'ехалі мы ад плыта (Баравікі, Светл.).

АБЫДЗЕ'ННІЧАК *м.* смятана *(густая)*. Снімеш ложачку абыдзéннічку дый у боршч (Неглюбка, Ветк.).

АБЫКО'НКІ (абыкóнчыны) *толькі мн. тое, што* абакéнкі. Стаўні, ці абыкóнкі, называюць (Карма, Добр.); Мы на ноч закрываем абыкóнчыны (Пракопаўка, Добр.).

АБЫ'РАЦЬ *зак.* 1. падужэць. Сяргей быў такі забіты, а ціпер абы́раў, дак і другіх дзіцей стаў забіджаць (Грушаўка, Добр.); 2. разбагацець. Ужо і наш Іван абы́раў, хату стаўляе (Горваль, Рэч.).

АБЭ'ЛДУХ *м., груб.* дурань. Гэты абэ́лдух усіх курэй мне разагнаў (Горваль, Рэч.).

АБЯЗГРО'ШЫЦЦА *зак.* застáцца без грошай. Абязгрóшылася я аканчацельна (Піркі, Браг.).

АБЯЧА'ЕК *м.* абруч. Патрэбна абячáек надзець, бочка рассыпаецца (Рудня, Чач.); Абячайкі парассóхлісь (Заспа, Рэч.).

АВА'Д *м.* авадзень. Ава́д бывае розны: і конскі, і авечы бывае (Піркі, Браг.); Гэтым летам авадо́ў было мала (Асінаўка, Светл.).

АВЕ'ЧАЧКА I *ж., памянш.* да аве́чка. Аве́чачкі мае, хадзіце сюды (Сівенка, Ветк.).

АВЕ'ЧАЧКА II *ж.* кветка вярбы. Аве́чачкі на рякіце растуць (Неглюбка, Ветк.).

АВУ'ЛЯ-АВУ'ЛЯ *выкл.* пазыўное слова *(для гусей)*. Аву́ля-аву́ля, пашлі дамоў (Піркі, Браг.). *Параўн.* агы́ль-агы́ль.

АВУ'ЦЬ-АВУ'ЦЬ *выкл.* пазыўное слова *(для качак)*. Аву́ць на вуліцу (Засінцы, Ельск.).

АВЯР'Я'НКА *ж., бат.* валяр'ян. Авер'я́нкі учора прынесла, нехай высахне, будзе зелле (Піркі, Браг.).

АВЯСЕ'Ц *м., бат.* трава каласоўнік. Авясцу́ парасло многа, больш чым жыта (Халочча, Чач.).

АГАНЁК *м., бат.* бальзаміна. Аганёк цвіце маленькімі розавымі цвяточкамі (Раманавічы, Гом.); Люблю аганёк, што ён цвіце і зімой, і летам (Рудня, Чач.); У яе многа етых аганько́ў (Марозавічы, Б.-Каш.).

АГАРО'ДЗІНА *ж.* гародніна. Збяры агаро́дзіну і складзі ў пагрэбку (К. Балсуны, Ветк.).

АГАРЭ'ГА *ж.* кола *(невялікае)*. Дзеці качалі на двары агарэ́гу (Хвойнае, Хойн.).

АГЛАБЛЯ' *ж.* аглобля. Аглабля́ зламалася (Гарадзец, Раг.); Трэба зменіць аглаблю́ (Холмеч, Рэч.).

АГЛА'МАЗДАЦЬ *зак.* запрэгчы. Схадзі, аглама́здай якую-небудзь каняку (Валокі, Хойн.).

АГНЯВІ'ЦА *ж.* хвароба *(пладовага дрэва)*. У гэтым годзе чуць нашыя дзярэўя не прапалі ад агнявіцы (Даманавічы, Калінк.).

АГРАЗА' *ж.* рагоз. Аграза́ расце высока ў вадзе (Баравікі, Светл.).

АГРА'ФКА *ж.* шпілька. Зашпілі агра́фкаю паліто (Навасёлкі, Петр.).

А'ГРУСТ *м.* агрэст. Людзі саджаюць а́груст на гародах (Холмеч, Рэч.); А'грусту сяголета багата, наварым варэння (Чаплін, Лоеўск.).

АГУ'РАЦЬ *зак.* раздурэць. Яна ж так агурала, што аж стыдна за яе (Паганцы, Светл.).

АГЫ'ЛЬ-АГЫ'ЛЬ (агы́ля-агы́ля) *выкл.* тое, што аву́ля-аву́ля. Агы́ль-агы́ль, на рэчку (Засінцы, Ельск.); Агы́ля-агы́ля, куды ты іх загнала (Ручаёўка, Лоеўск.).

АГЫ́СЬ *выкл.* пазыўное слова *(для авечак).* Агы́сь на поле, усе авечкі ўжэ там (Навінкі, Калінк.).

АДАГРЭ́ЦЬ *зак.* адтапіць. Каб мне не забуцца сённі адагрэ́ць сыру (Навінкі, Калінк.); Каб буў сыр, трэба адагрэ́ць кіслае малако (Піркі, Браг.).

АДА́ЛЕ (ада́лі) *прысл.* потым, пасля. Нібутта раздзеліць сям'ю дачкі, ада́ле ізноў разам (Пясчанікі, Жытк.); Была лісцяйкі пусціла [яблыня], ада́лі пасохла (Грушаўка, Добр.).

АДАЛЕ́ЦЬ *зак.* адолець, асіліць. Ты адале́ў тую задачу? (Пясчанікі, Жытк.); Адале́ла мяне хвароба, цяпер ужо і не падужаю (Ст. Сяло, Гом.).

АДБІ́ЎКА *ж.* манжэтка *(з шарсцяных нітак).* У адбі́ўкі адзін радок распусціўся, калі січас ні запляцеш, дык тады не паймаеш (Бяляўка, Чач.).

АДБІ́ЦІК *м.* катлета *(адбі́ўная).* Ты жарыла адбіцікі? (Загор'е, Б.-Каш.).

АДБО́ЙЧЫК *м.* пропуск *(пры касьбе).* Шырокі пакос, не захапае канец, што адаб'ецца, тое і адбо́йчык (Марозавічы, Б.-Каш.); Асталося толькі адбо́йчык скасіць (Там жа).

АДБО́РЗКАЦЬ *зак.* набіць. Васіля ўчора так адбо́рзкалі, што ён сёння і з пасцелі не ўстаў (Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* адбу́здаць, аджа́рыць, адлуза́ць, адлупі́ць.

АДБО́РНІК *м.* рубанак. Думаў зрабіць раму, да няма адбо́рніка (Засінцы, Ельск.); Гэты адбо́рнік трэба аддаць (Харомцы, Акц.).

АДБУ́ЗДАЦЬ *зак. тое, што* адбо́рзкаць. Нехто цябе сёння, відаць, адбу́здаў (Хвойнае, Хойн.).

АДВА́РАНКА *ж.* бульба *(адварная).* Мама, звары сёння адва́ранкі (Майскае, Жлоб.).

АДВЕ́ДАЦЬ *зак.* наведаць. Казімір наш хворы, трэба адве́даць (Карма, Добр.); У нядзелю адве́дала сваю маці (Крупец, Добр.).

АДВЕ́ДКІ *толькі мн.* агледзіны. Прыязджаюць, бувала, у адве́дкі нявесту глядзець (Быч, Карм.).

АДВО́ДАК *м.* парастак. Клубніку размнажаюць адво́дкамі (Піркі, Браг.). *Параўн.* адго́нец.

АДГАДЗІ́ЦЬ *зак.* аддзякаваць. Калі-небудзь і я табе адгажу́, а цяпер грошай няма (Баравікі, Светл.); За етае адгажу́ вам колісь (Прудок, Калінк.).

АДГА́КАЦЬ I *зак.* 1. адсекчы. Адга́каў воз дроў і іду дахаты (Запясочча, Жытк.); Сёдні чуць адга́кала палена дроў (Крыўск, Чач.). 2. пабудаваць. Вунь які дом ад-

га́каў сібе брыгадзір (Зацішша, Б.-Каш.). *Параўн.* адгрохаць.

АДГА'КАЦЬ II *зак.* 1. прайсці *(многа)*. Я сянні мо вёрст сорак адга́кала (Антонаў, Ельск.); 2. адпрацаваць. Адга́кай вось цэлы дзень і ні кажы нічога (Ст. Сяло, Гом.).

АДГО'НЕЦ *м. тое, што* адво́дак. Ужо адго́нцы вялікія (Бабовічы, Гом.).

АДГО'НЦЫ *толькі мн.* пёрцы *(адросшыя пасля лінькі)*. Бач, адго́нцы ужэ пайшлі, то хадзілі куры як шчыпаныя (Бабовічы, Гом.).

АДГРО'ХАЦЬ *зак. тое, што* адга́каць I *у 2 знач.* Мой зяць добры дом адгро́хаў (Асінаўка, Светл.); Во, які клуб адгро́халі (Пракопаўка, Добр.).

АДДУДЫ'РАВАЦЦА *незак.* адтапырвацца. Глядзі, як аддуды́рыўся той ліст, што на крышы (Быч, Карм.).

АДДЫ'ШКА *ж.* адпачынак. Ідзі на адды́шку (Быч, Карм.).

АДДЗЕ'ЛКА *ж.* адстройка. Аддзе́лку ён будзя дзелаць зімой (Янова, Ветк.).

АДЗЁР I *толькі мн.* адзёр, кор. Такое малое дзіця, да адзёр папаў (Клясаў, Петр.); Ты была яшчэ малая, калі хварэла адро́м (Хутар, Светл.).

АДЗЁР II *м.* азярод. На адзёры сушаць у нас гарох (Баравікі, Светл.).

АДЖА'РЫЦЬ *зак. тое, што* адбо́рзкаць. Я добра свайго хлопца рэмнем аджа́рыў (Загор'е, Б.-Каш.).

АДЗІ'НЕЦ *м.* адзінае дзіця. Яна адзі́нец у маткі (Косаль, Карм.).

АДЗО'ЛКІ *толькі мн.* попел. Адзо́лкі — гэта зала мокрая з-пад жлукта. Яе харашо на грады выкідаць, дзе буракі садзяць (Касцюкоўка, Гом.); Попел залівайся гарачай вадой, а які астаўся мокры — адзо́лкі (Залессе, Чач.). *Параўн.* азо́лкі.

АДКАРА'СКАЦЦА *зак.* адчапіцца, адбіцца. Такі назола, чарку возьме, дак ужэ не адкара́скацца (Пясчанікі, Жытк.).

АДКУБРАВА'ЦЬ *зак.* адкрыць. Узяла трохлітровую банку адкубрава́ла (Піркі, Браг.).

АДЛУЗА'ЦЬ *зак. тое, што* адбо́рзкаць. Цябе бацька ўчора хацеў адлуза́ць, што не пайшла ў лаўку (Антонаў, Ельск.); Мар'ін Косця так адлуза́ў маю Верачку (Узнаж, Светл.).

АДЛУПІ'ЦЬ *зак.* 1. адарваць. Нехта адлупіў дошку

(Карма, Добр.); 2. *тое, што* адбóрзкаць. Адлупіць можаш усегда (Піркі, Браг.); Ідзі сюды, а то адлуплю́ (Шылавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* адбу́здаць, аджáрыць, адлузáць.

АДНАВО'Р'Е *н.* поле *(узаранае адзін раз)*. Пасеіў на аднавóр'і і жджэ харошага ўраджаю (Грушаўка, Добр.).

АДНАКВО'РТАВЫ аднастворкавы. Во, бачыш, у нас дзверы аднаквóртавыя (Кароткавічы, Жлоб.).

АДНАРУ'ЧКА I *ж.* піла *(з адной ручкай)*. Аднару́чка на сталярнай рабоце патрэбна (Холмеч, Рэч.); Ета калі аднаму́ пііліць, то аднару́чка трэба (Халочча, Чач.).

АДНАРУ'ЧКА II *ж.* мера нітак *(напрадзеных)*. Аднару́чка — гэта ніткі на адном верацяне (Піркі, Браг.).

АДНЕ'СЬ *прысл.* аднойчы. Я аднéсь туды ездзіла таксама (Перароў, Жытк.).

АДО'РАК *м.* вузкая градка *(пры другой поўнай)*. Паследні адóрак заараем зараз (Чарнейкі, Рэч.); На адóрку трохі буракоў пасадзіла (Піркі, Браг.).

АДО'САК *м. тое, што* адбóрнік. Адóсак і рубанак у нас адно і тое ж: імі стругаюць (Халочча, Чач.).

АДПЛІКНУ'ЦЬ *зак.* расшпіліць. Так рукі замерзлі, што яна не магла адплікну́ць гузіка (Заспа, Рэч.).

АДРАЯВА'ЦЬ *зак.* пражыць *(добра)*. Ёй давялося адраявáць за Міколам (Ч.-Паляна, Б.-Каш.).

АДСЛАНІ'ЦЬ *зак.* адкрыць *(заслонку)*. Валя, адсланí печ (Крыўск, Б.-Каш.).

АДТАРАБА'НІЦЬ *зак.* 1. адвезці *(абыякава, неахайна)*. Конь здох, так яго адтарабáнілі на мыла (Хільчыцы, Жытк.); Каліськці мой Сціпан адтарабáніў паляка на калёсах у рэчку (Ч.-Паляна, Б.-Каш.); 2. *перан.* сказаць *(хутка)*. Баба адтарабáніла яму, як сарока (Жлоб.).

АДУБЕ'ЦЬ *зак.* змерзнуць. Так холадна, што і ў хаце можна адубéць (Перароў, Жытк.); Я адубéў там (Пятровічы, Раг.); Рукі мае адубéлі (Прудок, Калінк.).

АДХВАРАСЦІ'ЦЬ *зак.* адсцябаць. Адхварасці́ла яго, дак цяпер не чапае (Холмеч, Рэч.).

АДХАДЗІ'ЦЬ *зак. тое, што* адбóрзкаць. Памагай бацьку, а то ёмкай адхажу́ (Перарост, Добр.).

АДХА'ІЦЬ *зак.* выхадзіць, вылечыць. Во і жыве чалавек, а каб не адхáілі — і не было б яго (Халочча, Чач.); Віця абамлеў, ледзьве адхáелі (Клясаў, Петр.).

АДЧЫПІЛЯ'ЦЬ *зак.* адрэзаць. Аня сёння сабе адчыпіля́ла косы (Хвойнае, Хойн.).

АЗО'ЛКІ *толькі мн. тое, што* адзóлкі. Азóлкі выліваем пад плот (Харомцы, Акц.).

АКА́РАК *м.* карак. Так адкарміўся, што ака́рак на плечы лезе (Буйнавічы, Лельч.); Узваліў мех на ака́рак (Неглюбка, Ветк.); Ён зарабіў па ака́рку добра (Ваевода, Гом.) /свіны ашыяк. Цэлы свіны акарак купіў ды дзёшава (Меркулавічы, Чач.); На ака́рку тоўстае сала (Заспа, Рэч.).

АКІ́НУЦЦА *зак.* ацяліцца. Мо ўжо акі́нулась твая карова? (Марозавычы, Б.-Каш.); Сёлета мая карова рана акі̀нулася (Ж.-Буда, Добр.).

АКІ́СЛЫ кіславаты. Ой, малако ужэ акі́слае (Неглюбка, Ветк.).

АКЛА́Д *м.* а́блава. Выследзілі звера, а тады зрабілі акла́д (Піркі, Браг.).

АКРО́П *толькі адз.* кіпень. Налі акро́пу ў чаропку (Буйначівы, Маз.); Залі хутчэй гарох акро́пам, дык зварыцца яшчэ (Зладзін, Маз.).

АКУНЁЎКА *ж.* вудачка *(на акунёў)*. Акунёўкай толькі акунькоў бяруць (Н.-Гута, Гом.).

АЛЕ́ЙНІЦА *ж.* посуд *(для алею)*. Раней білі алей свой, то і але́йніцы былі, цяпер — пляшка але́йніца (Башыца, Чач.); Кот у каморы але́йніцу разбіў (Заходы, Лельч.).

АЛЕМАНТА́Р *м.* буквар. Цяпер во колькі кніг, а раней дык і алемантара́ ні бачылі, толькі поля ды кудзелю знали (Селішчы, Светл.).

АЛЕ́НІ аленевы. Дзед некалі знайшоў быў рог але́ні адламаны (Баравікі, Светл.); У лесі багата але́ніх слядоў (Навінкі, Калінк.). *Парайн.* але́нячы.

АЛЕ́НІХА *ж.* самка *(аленя)*. Што-та пра але́ніх у нас не балакаюць (Засінцы, Ельск.); Але́ніху трудна зблізку відзець (Забалоцце, Б.-Каш.).

АЛЕ́НЯЧЫ *тое, што* але́ні. Але́нячы рогі абдзелваюць, тады вешаюць у хаці (Карчовае, Хойн.).

АЛЕСЁ *выкл.* і праўда. Алесё, гэто Маруся, а я ж думала Галя. (Бярэзнікі, Жытк.).

АЛЕ́ХА (але́шка) *ж.* вольха. Але́ха толькі на дровы, а строіць ня йдзёць (Халочча, Чач.); Але́шкі растуць ля самай дзярэўні (Багданавічы, Карм.).

АЛЕ́ЕЦ *толькі адз.* алей. Але́яц горкі, жарыць ніяк нільзя (Дубраўка, Добр.).

АЛЁС *толькі адз.* балота. Алёс — балота, толькі зарасло кустамі (Бабовічы, Гом.); Вот нізкае месца, на яком расце трава, называюць алёс, ён вадой заліваецца (Майскае, Жлоб.).

АЛЁШНІК *м.* алешнік *(малады)*. Алёшнік шырокімі лісточкамі расце, кара на ём красная (Холмеч. Рэч.).

АЛІ *злуч.* але. Хоць ростам вялікі, алі розуму мала (Карма, Добр.).

АЛІЛЕ́Я *ж.* Лілія. У мяне няма алілéі. А завуць яе яшчэ царскай каронай (Марозавічы, Б.-Каш.).

АЛІ́ЎКА *ж.* лампада. Алі́ўкі ўсе шкляныя (Крупец, Добр.).

АЛЛЯНЫ́ льняны. Ежалі с чыстага лёну, то аллянóе·палатно (Бабовічы, Гом.); Алляны́мі ніткамі шылі і сарочкі, крэпка було (Сівенка, Ветк.).

АЛЬПІ́ГА *ж.* спадніца *(шарсцяная)*. Калісь мы тады жылі, дык у нас і сіцец, і атлас, і альпíга былі (Баравікі, Светл.).

АЛЬХО́ЎКА *ж.* сорт *(бульбы)*. Альхóўка — ета бульба, яна пакрыта краснай шкарлупкай (Літвінавічы, Карм.).

АЛЯ́МСНУЦЬ *зак.* стукнуць, ударыць. Ён хацеў яго аля́мснуць, а той ня дурак ды як аля́мснуў яму, што чуць пацягнуўся (Быч, Карм.). *Парáўн.* апігáсіць.

АЛЯНЁНАК (аляня́, аляня́тка) *м.* аленянё. У лесе раз усяго бачылі аднаго алянёнка, без аленя (Бабовічы, Гом.); Аляня́ за аленіхай доўга ходзіць (Навінкі, Калінк.); У аленіхі бывае адно аляня́ (Баравікі, Светл.); Аленя́тка паказуецца значала пятнышкі, а патом іх нет (Насовічы, Добр.).

АМБА́Р *м.* свіран. У кожнага хазяіна анбáр (Суткоў, Лоеўск.); Вашы ўсе ў амбáры сённі работаюць (Каротказічы, Жлоб.).

АМЕ́ЛА (амялá) *ж.* трава *(дрэнная)*. Амéла ў лузе расце, толькі плоха скаціна есць (Пагост, Жытк.); Ну і прывёз сена, адна амялá (Падворак, Лельч.).

АМО́ЗАК *м.* мозг *(касцявы)*. Зварыцца костачка, амóзак выбіваюць тады, ён смашны (Неглюбка, Ветк.).

АМУНІ́ЧНІК *м.* месца для конскай збруі. Ігнат працуе вартаўніком, выдае збрую з амуні́чніка (Замосце, Калінк.).

АМША́НІК (амшáрнік) *м.* амшэннік. Амшáнік для пчол далжон быць абарудаван; там е труба, вінціляцыя (Баравікі, Светл.); Бяз добрага амшáніка пчолы памерзнуць (Быч, Карм.); Пакрыць амшáрнік нада, а то замяце пчол (Майскае, Жлоб.); *Парáўн.* амшарнік.

АМША́РНІК *м. тое, што* амшанік. У етым амшарніку пчолам зімою дужа холадна (Піркі, Браг.).

АМШЭ'НЬ *м.* варыўня, камора. І даўней у двары ў мяне ні было амшэ́ні (Стаўбун, Ветк.); Мужык мой дзелаў харошы амшэ́нь, дык я туды ўсігда стаўлю малако, сцюдзень, штоб застываў (Піркі, Браг.).

АМЯЛЛЯ' *ж.* тое, што абурэ́нні. Амяллю́ ў вугал замяцеш, ляжыць, а потым — і подсціл, і карове запарыць (Майскае, Жлоб.).

АНДЗЮ'К (анды́к) *м.* індык. Андзю́к такі тоўсты, жырны (Неглюбка, Ветк.); Цэлай стаяй андзюкі́ па гароду ходзяць, а ты не глядзіш (Асінаўка, Чач.); Анды́к спіць, бачыш (Неглюбка, Ветк.).

АНДЫ'ЧКА *ж.* індычка. Анды́чка здохла, піскляты адны (Неглюбка, Ветк.).

АНІГА'ДАЧКІ (аніга́дкі) *прысл.* нядрэнна, добра. Жаніўся на Просінай дацэ, дык аніга́дачкі (Ломыш, Хойн.); Падпалу на ўсю зіму, будзе аніга́дкі (Пясчанікі, Жытк.); Табе аніга́дкі на жалуванні (Тульгавічы, Маз.).

АНО'ДАЙЧЫ *прысл.* на днях. Зайшла ано́дайчы ў лаўку, а там — хоць шаром пакаці (Горваль, Рэч.).

А'НЦІЦЬ *незак.* гуляць. Мы ж з табою ўсігда а́нцім (Амельна, Раг.).

АПАЛА'НІКІ *толькі мн.* начоўкі для палання. У апала́ніках зярно палаюць, як начовачкі такія (Чарнейкі, Рэч.). *Парайн.* апала́нкі II.

АПАЛА'НКІ І *толькі мн.* адыходы *(пры паланні)*. Прапалай куццю, апала́нкі курам будуць (Грушаўка, Добр.).

АПАЛА'НКІ II *толькі мн. тое, што* апала́нікі. Дай мне твае апала́нкі, апалаць крупы (Заспа, Рэч.).

АПАЛО'КА *ж.* Нізіна *(лугавая)*. На апало́ке больш сена будзе, чым на градзе (Замосце, Калінк.).

АПАЛО'ЎКА *ж.* палова *(качана капусты)*. Сёння скрашыла апало́ўку ў боршч (Кароткавічы, Жлоб.).

АПАЛО'ЎНІК *м.* сініца *(з доўгім хвастом)*. За хвост сініцу і завуць апало́ўнікам (Каранёўка, Гом.).

АПАРО'СНАЯ *прым.* паросная. Наша свіння апаро́сная, дак злая (Залессе, Чач.); Апаро́сную я ўжэ карміла (Дудзічы, Карм.).

АПА'РЫНА *ж.* палонка. І як гэта ты ў апа́рыну папаў? (Баравікі, Светл.).

АПА'СВАЦЦА *незак.* асцерагацца. Яна не лечыць, апа́сваецца: у другую бо́льніцу пасылае (Піркі, Браг.).

АПАСЛЯ' *прысл.* потым, пасля. Ціпер пойдам ка мне, апасля́ зайдам і к табе (Остраў, Раг.).

АПА'ЎЗЛІНЫ *толькі мн.* апоўзіны. Нарубі апа́ўзлін

(Стаўбун, Ветк.). Параўн. апоўжыны, апоўзіна, апоўзень, апоўзні, апоўзнік.

АПАЦІ'Т *м.* апетыт. У мяне апаціту нияк няма (Славань, Светл.).

АПЕ'НКА (апёнка) *ж.* апенька *(грыб)*. Набярэш етых апёнак, дый ясі ўсю нядзелю (Быч, Карм.); Апёнкі на пнях растуць, іх засаліць дужа добра (Забалацце, Раг.).

АПЕРАЗА'ЦЬ *зак.* сцёбнуць. Хацеў аперазаць папругаю, да думаю, мо ён нічога не вінаваты (Пясчанікі, Жытк.); Так аперазаў каня, што аж падскочыў (Дземяхі, Рэч.); Добра аперажы, то больш так не зробіць (Перароў, Жытк.).

АПЕ'ЧЧА *н.* фундамент *(печы)*. Печ пайшла ў зямлю: апечча зусім згніло (Хільчыцы, Жытк.); Апечча раней з дзерава рабілі (Заспа, Рэч.).

АПІГА'СІЦЬ *зак.* тое, што алямснуць. Як апігасіў, той і не падняўся (Белы Пераезд, Петр.).

АПІНА'ЛКА (апінанка, апінянка). *ж.* тое, што абвёрчанка. Дзе мая апіналка? (Забалацце, Раг.); Вазьмі апінанку (Дзянісавічы, Калінк.); Збіраецеся ехаць за сенам, дык вазьмі большую апінянку, а то дошч подзе, дык абапнецеся (Заспа, Рэч.).

АПІНА'ТКА (апінаха) *ж.* хуста *(суконная)*. Надзень апінатку, каб цяплей (Баравікі, Светл.); Адзень ват тую апінатку, век не прадуе (Кавакі, Браг.); Тацян, у цібе ж была апінаха (Махнавічы, Маз.); Такі сёння дажлівы дзень, а Зіна не ўзяла з сабой апінахі (Узнаж, Светл.).

АПЛЕ'СЦІ *зак.* 1. абвязаць. Насавічок хто аплеце такімі нітачкамі (Ручаёўка, Лоеўск.); 2. *перан.* аблытаць, ашукаць. Аплялі хлопца, затуркалі і прападзе нізавошта (Хальч, Гом.).

АПЛЕ'ЦЕНІК (аплітанік) *м.* гаршчок *(аплецены дротам)*. У аплёценіку раней кашу варыла, цепер пасадзіла вазон (Заходы, Лельч.); Аплітанік мёду звёў (Залессе, Чач.). *Параўн.* аплятанік.

АПЛЁТ *м.* пляцень. Лозу для аплёту рэзаць буду (Холмеч, Рэч.).

АПЛІ'К *м.* гаплік. Ушый аплік у плацце (Паганцы, Светл.); Прышываліся аплікі ў кохты, у жылеткі (Р.-Марымонава, Гом.).

АПЛІКО'ВАЯ *ж.* швачка. А аплікóвая тая ўсе шые і шые (Мормаль, Жлоб.).

АПЛЯТА'НІК *м. тое, што* аплёценік. Аплятанік стаяў з мёдам (Камаровічы, Петр.); Гаршкі аплеталі провал-

кай і называлі аплятанікам (Рудня Вышонаўская, Калінк.); Было многа аплятанікаў, а цяпер маладым не трэба (Церуха, Гом.). *Параўн.* аплітанік.

АПО́МНІЦЦА *зак.* 1. апрытомнець. Вады ліні, то ўраз апомніцца (Багданавічы, Карм.); 2. апаматацца. Не ўспеў Сашка апомніцца, а я ўжэ за дзярэўняй была (Іскра, Чач.).

АПО́РКІ I *толькі мн.* галёшы. На вуліцы мокра, надзень апоркі, бо прамочыш валёнкі (Буйнавічы, Лельч.); Пасля дажджу трэба надзяваць апоркі, а то гразь хлюпае (Глумкавічы, Маз.).

АПО́РКІ II *толькі мн. тое, што* абрэзкі. У цябе засталіся толькі апоркі, адны апоркі? (Н.-Гута, Гом.); Надзелала апоркаў з чобатаў, хваціць насіць на ўсю восень (Там жа).

АПО́ЎЖЫНЫ (апоўзліны, апоўзні, апоўзень, апоўзіна, апоўзнік) *толькі мн. тое, што* апаўзліны. Нада пакласці апоўжыны, каб вецер ні раскідаў стога (Бабовічы, Гом.); Адсякуць восем апоўзлін і кладуць на стог, закрапляюць (Баравікі, Светл.); Лажылі такія апоўзні, як цяпер на стог кладуць (Раманавічы, Гом.). Без апоўзня вецер стог раскідае (Асінаўка, Светл.); Апоўзіну тоўстую паклалі, дак стог набак схіліла (Грушаўка, Добр.); Прынесі апоўзніку, бо ўжэ стога склалі (Махнавічы, Маз.). Звяжы жэрдкі да здзелаеш апоўзнік (Калінін, Хойн.).

АПО́ЎНАЧ *прысл.* апоўначы. Апоўнач, у первам часу, прышоў дамоў (Піркі, Браг.).

АПО́ЦАК *ж.* жывёла *(тлустая)*. Глянь ты, які ўжо апоцак. Хутка і біць можна (Піркі, Браг.).

АППІНА́ТКА (аппінаха) *ж. тое, што* апінатка. Добрая аппінатка, закрывае і плечы (Махнавічы, Маз.); Аппінаткі німа? (Нісімкавічы, Чач.); Накінеш аппінатку і цяплей табе будзе (Копань, Рэч.); Аппінахі прадавалі ў лаўцы — мяккія да цёплыя (Дземяхі, Рэч.).

АППІРА́ЦЬ *незак.* абмываць. Варка аппірае і абшывае (Вышалоў, Петр.).

АПРА́ТАЦЬ *зак.* дагледзець. Бывала рабілі дзень і ноч: сваё роднае дзіця не было калі апратаць (Запясочча, Жытк.); Ты трохі б сябе апратаў, хлопча. (Макарычы, Петр.).

АПРІ́Ч *м.* спадніца *(суконная)*. А то яшчэ спадніцу суконну апрічом называлі (Марозавічы, Б.-Каш.); Апрічы ў нас цяпер не носяць (Быч, Карь.).

АПРЭ́ГЧЫСЯ *зак.* напіцца, загінуць ад гарэлкі. Быў

ні апро́гся ад вады (Хальч., Гом.); Напіўся, апро́гся і загінуў чалавек ні за што (Быч, Карм.).

АПРЯ′НА *ж.* адзенне. Апря́на багатая ў яе (Неглюбка, Ветк.).

АПУ′ДАЛА *аг.* чалавек *(неахайны)*. Ня можа купіць сабе адзежыны, ходзя як апу́дала (Грушаўка, Добр.).

АПУ′ХІ *толькі мн.* дошкі *(на саламянай страсе)*. Апу́хі дзержаць салому, каб страха не раскідалася (Гарадзец, Раг.).

АПУ′ЦКА *ж.* сцябло *(шчаўя)*. Увесь шчавель у апу́цкі пашоў (Сямёнаўка, Рэч.); Апу́цак багата, а шчаўля німа (Грушаўка, Добр.); Сёлята назбірала апу́цак, к налеццю пасею шчаўлю (Клімаўка, Гом.).

АПЦЕ′КАРШАЯ *ж.* аптэкар *(жанчына)*. Колі к нам толькі прыслалі апце́каршую, яна была саўсім маладзенькая (Бабовічы, Гом.).

АПЦЭ′НЬКІ *толькі мн.* абцугі. Прынясі-ка абцэ́нькі (Неглюбка, Ветк.).

АПШАХНУ′ЦЦА *зак.* спаткнуцца. Шахцёр ямачку капаў, апшахну́ўся — дай упаў (Грушаўка, Добр.).

АПЯХНУ′ЦЬ *зак.* надакучыць. Боршч мне ўжо апяхну́ў за нідзелю (Мормаль, Жлоб.); Карова разы два каліўя паядала, а тагды як апяхну́ла, дак не ў рот (Грушаўка, Добр.).

АРАБА′К *м.* рабчык. Гэта голас араба́ка (Каранёўка, Гом.).

АРА′ВА *ж.* мноства. Трэба хіба і мне збірацца ісці ў клуб, бо паваліла цэлая арава жанок (Завайць, Нар.); Каля яе хаты заўжды ара́ва (Баравікі, Светл.).

АРАЛЛЯ′ *ж.* ралля. Па аралле́ столькі гракоў, што аж чорна (Бацунь, Б.-Каш.).

АРАТА′Й *м.* араты. Дзе ж мне арата́я найці? (Бывалькі, Рэч.). *Парайн.* арацьбі́к, арэ́ц.

АРАХІ′ *мн.* арэхі. У нас у етым гаду арахо́ў ні было (Б.-Крушынаўка, Раг.).

АРАЦЬБІ′К *м. тое, што* арата́й. Арацьбікі аруць поле (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* арэ́ц.

АРГЕ′НІЯ (арге́ня, аргіня) *ж.* вяргіня. Арге́нія бывае жоўтая, бурдовая. Арге́ню вясной садзяць (Марозавічы, Б.-Каш.); У Хімкі ў гародзе дюжа добрыя аргіні растуць (Піркі, Браг.).

АРЧУКО′ВЫ *прым.* прыпрэжаны. Конь, прыпрэжаны ў павозку да каранного, таго арчуко́вым завуць (Піркі, Браг.).

АРЭ′ДАЛА *н.* вэрхал. Арéдала цéлая ў хаці (Апанасаўка, Гом.).

АРЭ′МЧЫК *м.* хадун для дзяцей. Пастаў яго ў арэ́мчык (Харомцы, Акц.).

АРЭ′Ц *м. тое, што* аратáй. Арэ́ц з яго шчэ, дак я маўчу (Астрагляды, Браг.). *Параўн.* арацьбíк.

АСА′ДА I *ж.* агароджа. Ля хаты паўз вуліцу асáда добрая, кветкі трэба пасадзіць (К. Балсуны, Ветк.).

АСА′ДА II *ж.* насаджэнні (*ля дарогі*). Колісьці тут асáда была добрая, перавялі (Ч.-Паляна, Б.-Каш.).

АСА′ДА III *ж.* матэрыял *(сталярны)*. Для вушакоў трэба дзесь асады дастаць (Багданавічы, Карм.). Напілі асáду на ўсю хату (Грышы, Ельск.).

АСА′ДКА I *ж.* рамка *(для партрэтаў)*. Пратры асáдку, а то на ёй нічога не відаць (Багуцічы, Ельск.); Асáдку зрабіў, да не хораша пакрасіў (Белы Пераезд, Петр.).

АСА′ДКА II *ж.* каробка *(аконная)*. Асáдка акна, то ў дзераўяным доме, а ў кірпічным та каробка (Бабовічы, Гом.).

АСАЧЫ′ЦЬ *зак.* заўважыць, прыкмеціць. Асачы́ куру, а то яна пабегла ў Манькін двор (Марозавічы, Б.-Каш.).

АСКАБЛЯ′ЦЬ *незак.* знімаць *(кару)*. А што дзеці не аскаблю́юць? (Бабовічы, Гом).

АСКАВІ′К I *м.* мяшочак *(для адціскання сыру)*. Аскавік трэба новуй пашыць, а то нема ў чым сыр атціскаць (Грабаў, Петр.).

АСКАВІ′К II *м.* вяроўка. Сцяпан, захваці з сабой аскавíк (Макарычы, Петр.).

АСКО′ЎКА *ж.* удава. Каліс памёр мой хазяін, асталася я аскóўкаю (Піркі, Браг.).

АСМІ′ННАЯ *прым.* нітка *(тоўстая)*. Асмíнную нітку прадзем, суччым і белім (Халочча, Чач.).

АСМО′Л *м.* частка хвоі *(смалістая)*. Асмóл на гэтай хвоі — значыцца старая (Бабовічы, Гом.) /дровы *(смалістыя)*. Там дзе асмóлу болей, там згарэлі хутчэй (Тульгавічы, Хойн).

АСО′БА *прысл.* асобна. Раздзеліліся і жывуць асóба. (Неглюбка, Ветк.).

АСТАЎБЯНЕ′ЦЬ *зак.* аслупянець. Як убачыў ён Марыну, дык сходу астаўбянéў (Салтанаўка, Б.-Каш.).

АСТО′ПАК *м.* лапаць *(зношаны)*. А астóпкі ў печы палілі (Кароткавічы, Жлоб.).

АСТРО′ВА *ж.* жэрдка *(вертыкальная ў стозе)*. Аст-

ро́ва дзержыць стог, ета жэрдка пасярод стога (Калінін, Хойн.).

АСТРО'ЎКІ *толькі мн. тое, што* адзёр II. На астро́ўках мы і гарох пасушылі (Амельна, Раг.); На астро́ўках сушым картаплянік (Грышы, Ельск.).

АСУ'ШАК *м.* кавалак *(сухога хлеба)*. Пакусаюць, пакідаюць, адны асу́шкі валяюцца (Уваравічы, Б.-Каш.).

АСЦЯЛЁПАК *м. перан.* дзіця *(поўнае, важкае)*. Галіна дзіця якое, як асцялёпак (Грушаўка, Добр.).

АСЬМІ'НА *ж.* мера і ёмкасць *(у тры пуды)*. Прышлося пазычыць асьмі́ну проса (Бярозкі, Браг.); Муку мераюць, жыта асьмінамі (Піркі, Браг.); Асьміна робіцца с клёпкі і дошчак (Замосце, Раг.). *Параўн.* асьму́шка.

АСЬМУ'ШКА *ж.* 1. *тое, што* асьміна. Намалаціў асьму́шку усяго (Баравікі, Светл.); 2. чацвярцінка *(гарэлкі)*. Былі пляшкі асьму́шкі з водкаю (Ст. Краснае, Рэч.).

АСЯЛЕ'НЕЦ *м.* селядзец. У магазін асялéнцы ўжо даўно вазілі (Піркі, Браг.).

АТАБРА'ЦЬ *зак.* адлучыць, адняць. Трэба цяля атабра́ць, а то малака не хопіць сабе (Марозавічы, Б.-Каш.).

АТАЙБАВА'ЦЦА *зак.* аддзяліцца. Прайшло два гады, як мой Сцяпан атайбава́ўся (Зладзін. Маз.).

АТАМА'ЛКА *ж.* ануча *(для чугуна)*. Дзе мая атама́лка, цугуна нечым ўзяць (Быч, Карм.).

АТКРЫ'ТКІ *толькі мн.* басаножкі, адкрытыя туфлі. Му такіх ні насілі, ето паны хварселі ў етакіх аткры́тках (Харомцы, Акц.).

АТЛЁТ *аг.* гарэза, свавольнік. Ні дзеўка, а атлёт — віздзе ўспее (Мормаль, Жлоб.); Ну і атлёт яе брат! (Жлобін).

АТЛО'ГА *ж.* адліга. Сёдні такі дзень, як вясной атло́га (Палессе, Чач.); Сёння такая атло́га страшная, што на кані не выедзеш (Янова, Ветк.); Мароз зламіўся, атло́га стала (Там жа).

АТЛУМІ'ЦЬ *зак.* адурыць. Сабака атлумі́ў галаву (Палессе, Чач.).

АТО'ПКІ *толькі мн.* абутак стаптаны. Гэтыя ато́пкі больш не насі (Церуха, Гом.).

АТО'РАК *м.* градка *(папярочная бульбы)*. На тым канцы зрабілі другі ато́рак (Астрагляды, Браг.); Як конь не даходзіць да канца, тады ато́ркі сеем (Холмеч, Рэч.); Я не люблю на ўсадзьбе ато́ркаў (Грамавічы, Жлоб.).

АТО'ЧЫНЫ *толькі мн.* 1. сала топленае. Трэба зрабіць ато́чын, да паслаць Марусі (Макарычы, Петр.); Ма-

кай ладкі ў ато́чыны, смашна (Стараселле, Добр.); 2. прыправа (*з сала і мяса*). Паджару ато́чын у абед. (Ляскавічы, Петр.).

АЎДО'Д *м.* удод. Аўдо́даў было два (Калінкавічы).

АЎЧА'РНІК *м.* аўчарня. Загналі авечак у аўча́рнік (Запясочча, Жытк.); Було, було такое, што ў маім аўча́рніку поўна авечак було (Піркі, Браг.).

АХЛУ'П *м.* бервяно (*над прасценкам*). Як зробяць прасценак, потым адразу ахлу́п ложаць (Баравікі, Светл.). *Параўн.* ашла́п.

АХЛЯ'КНУЦЬ (ахля́ць) *зак.* 1. аслабець. Паработаў, пакуль сонца звярнула с паўдня, і ахля́к (Палессе, Чач.); Няма сілы і пасмяяцца, так ахля́ла (Хальч, Гом.); 2. апусціцца, не сачыць за сабой. Ахля́ў так, што глядзець страшна (Крыўск, Б.-Каш.). *Параўн.* ацяжэ́ць.

АХРА'ПКА *ж.* ахрапак. Сёлята расаду пасадзілі, дак ахра́пкі параслі высачэнныя, як палкі (Грушаўка, Добр.); Ахра́пкі карове замяці (Забалацце, Раг.).

АХРО'СТКІ *толькі мн.* адросткі (*на бульбе*). У пограбе ахро́сткі так спляліся, што не выцягнеш (Багданавічы, Карм.).

АХВІРА'НКА *ж.* фіранка. Трэба ахвіра́нкі пашыць, вокны голыя (Камаровічы, Петр.).

АЦЯЖЭ'ЦЬ *зак. тое, што* ахкля́кнуць. Максім ацяжэ́ў, што і хада ні тая (Дзвіжкі, Ельск.); Стары мой ацяжэ́ў, што і хадзіць вучыўся (Ч.-Паляна, Б.-Каш.).

АЧМЕ'НЬ *м.* ячмень. Добры ачме́нь урадзіўся сяголета (Кабанаўка, Жлоб.).

АШЛА'П *м. тое, што* ахлу́п. Ашла́п, ён над вокнамі, дзверамі ляжыць (Холмеч, Рэч.).

## Б

БАБА'К *м. зневаж.* дурань. Баба́к ты дурны (Неглюбка, Ветк.).

БА'БІЧ *м.* муж бабы-павітухі. Такіх людзей ба́бічамі звалі (Касцюкоўка, Гом.).

БА'БІЧКА *ж.* павітуха. Ба́бічка прыбегла, калі было ўжэ дзіця пасінела (Баравікі, Светл., тое ж: Зенькавіна, Карм.; Азромы, Жытк.).

БА'БКА I *ж.* 1. яечня (*з мукою*). З мукою, з малаком сьпечана, шчэ кідаюць соду, ето ба́пка (Заходы, Лельч.); 2. пірог (*без начынкі*). Я кажды дзень пяку ба́пку. (Заходы, Лельч.).

БА′БКА II *ж.* шэрая чайка. Ба́бка будзе лятаць, пока возера зусім не вымерзьне (Каранёўка, Гом.).

БАБО′ВІШЧА *н.* плошча *(пасля ўборкі бобу)*. Бабо́вішча пустое астаецца, як бабоўнік пазьбіралі (Холмеч, Рэч.).

БАБО′К *м. бат.* герань. Бабо́к на лісьцях мае белыя пражылкі (Марозавічы, Б.-Каш.).

БАБУ′Р *м.* бабёр. Я злавіў бабу́ра сёння (Камаровічы, Петр.).

БАБЧА′НІК *м.* 1. блін *(з бульбы)*. Сьпячы мне на скорую бабча́нік (Антонаўка, Добр.); 2. бабка *(з дранай бульбы)*. Марыно, еж бабча́нік з малаком (Івашкавічы, Петр.).

БАБЫ′Р *м.* пяскар. О, ёлуп, такога бабы́ра ўпусьціў (Баравікі, Светл.).

БАВАЎНЯ′ВЫ (баве́льны, баво́ўняны) *прым.* баваўняны. Прынясіце мне баваўня́вых нітак (Сівенка, Светл.); Баве́льнымі ніткамі можна і ткаць, і везаць, вельмі ж яны мяккія (Ліпляны, Лельч.); Баво́ўнянымі ніткамі вышываюць рэдка (Баравікі, Светл.).

БАГАЦЕ′ННА *прысл.* вельмі многа. Ой, багаце́нна ж ягад я набрала (Верасніца, Жытк.).

БА′ГЛА *ж.* дрыгва. Упёрся ў самую ба́глу (Камаровічы, Петр.).

БАГЛА′Й *м.* гультай. Багла́й ты лянівы, толькі еш ды ляжыш (Неглюбка, Ветк.).

БА′ГЛІЦЬ *незак.* варыць. А вы дзень ба́гліце няма ведаць як (Палессе, Чач.).

БАГО′Н (баго́ннік) *м., толькі адз.* багун. Баго́н такімі кучкамі расьце, белым цьветам цьвіце (Ручаёўка, Лоеўск.); Ой, як баго́нам у вас у хаце пахне (Падваротак, Лельч.); Як малако кіпячу, то туды ветачку баго́ну, хвояй пахне (Пярэдзелка, Лоеўск.); У баго́нніку расьлі і журавіны (Заспа, Рэч.).

БАГО′Р *м.* крук *(для скідання гною з воза)*. Багро́м трэба падчапіць (Піркі, Браг.).

БАДА′К *м., толькі адз.* асот. Як мы той бада́к ні палолі, а ён усё роўно есць (Запясочнае, Маз.); На гародзе столькі бадака́, што не дам рады выбраць (Глушкавічы, Злодзен, Маз.).

БА′ДЗІЦЦА *зак.* крыўдзіцца. Не ба́дзься на мяне (Стаўбцы, Ветк.).

БАДЗЯ′ *ж.* разак. Бадзі́ настой ад прастуды харашо (Неглюбка, Ветк.).

БАДЗЯ'К *м. бузіна.* Бадзя́к высокі такі расцьцець (Піркі, Браг.).

БАДНЯ' *ж.* вялікая бочка. Бадня́ на дзесяць вёдзер. Насалілі бадню́ гуркоў (Копань, Рэч.).

БАЖЫ'ЧКІ *толькі мн.* барсукі. Бажы́чкі — гэта прозвішча барсукоў (Баравікі, Светл.).

БАЗА'РЫЦЬ *незак.* моцна гаварыць. Перастань база́рыць, бачыш: бацька хворы (Буйнавічы, Маз., тое ж: Запясочнае, Маз.); Стаіць ля лаўкі і база́рыць (Жгун.-Буда, Добр.).

БА'ІЦЬ (бая́ць) *незак.* гаварыць, размаўляць. Як збяруцца бабы ўвечары, дык давай ба́іць або плёткі плесьці. Мы праба́ілі з сястрой цэлую ноч (Шырокае, Б.-Каш.); Вось ужо бай, будзе ба́яць і ба́яць, адкуль толькі што бярэ (Старое Сяло, Гом.).

БАЙ *м.* гаварун. Вось ужо бай, будзе баяць і баяць, адкуль толькі што бярэ (Старое Сяло, Гом.).

БАЙНЯ'К *м.* пасудзіна. Байня́к — ета такая пасудзіна з ручкамі з двух бакоў (Быч, Карм.).

БАЙСТРУЧО'К І *м., памянш.* дзіця *(пазашлюбнае).* Дзеўка суседа радзіла байстручка́ (Брынёў, Петр.).

БАЙСТРУЧО'К ІІ *м.* падушачка *(маленькая).* На маленькія падушкі кажуць у нас байстручо́к (Піркі, Браг.).

БАКАЎНІ'ЧКА *ж.* бок воза. Бакаўні́чкі вузкія зьдзеланы (Неглюбка, Ветк.).

БАКЛАЖА'Н *м.* памідор. Баклажа́ны красныя, смачныя (Асінаўка, Чач.); Летась быў добры ўраджай баклажа́наў (Баравікі, Светл.).

БАЛАБА'ЙКА *ж.* балалайка. У хаце на балаба́йцы йграюць (Дубраўка, Добр.); Гусьлі былі, балаба́йкі, скрыпкі (Баравікі, Светл.).

БАЛА'БКА *ж.* рыба. Што ета ты сёдні адной бала́бкі налавіў? (Асінаўка, Чач.).

БАЛА'БКІ *толькі мн.* 1. пячэнне. У магазіне бала́бкі ёсць (Слабада, Ветк.); 2. крэндзелі. Я купіла дзецям бала́бак поўныя карманы (Шалахоўка, Ветк.); 3. аладкі. Печ бала́бкі з мукі (Неглюбка, Ветк.); 4. бліны. Ох, наеўся бала́бак (Неглюбка, Ветк.).

БАЛА'БУШКА *ж.* бурбалка. Як схватваюцца бала́бушкі, то доўга будзе дождж (Махновічы, Маз.); *Параўн.* бу́лбатка, бу́льбутка, бу́рдылка.

БАЛАГУ'РНЫ *прым.* балбатлівы. Балагу́рны ў цябе чалавек (Загор'е, Б.-Каш.).

БАЛАХО́Н *м.* 1. адзенне (*шырокае*). На ём вісіць пальто, як балахо́н (Н.-Гута, Гом.); 2. халат (*бальнічны*). Да мяне вышаў Сціпан у балахо́не (Шырокі, Б.-Каш.).

БАЛАЦЯ́НКА I *ж. толькі адз.* балота. Начавалі на Лысай гары, у балаця́нцы (Холмеч, Рэч.).

БАЛАЦЯ́НКА II *ж.* грэбля, дарога (*цераз балота*). Ішоў лесам, праз балацянку перайшоў, бач, ягады (Неглюбка, Ветк.).

БАЛАЦЯНКА III *ж.* грыб (*балотны*). Балацянкі такія зялёныя, ножка тонкая, уродзі на апеньку пахожа, толькі цвет зялянаваты (Ліпнякі, Лоеўск.).

БАЛБАТУ́Н (балбо́цька) *м., зневаж.* гаварун. Балбату́н ты, мой унук. Во меля многа (Забалоцце, Раг.); А Петро такі ўжэ балбо́цька, нельга за ім паспець сказаць (Макарычы, Петр.). *Параўн.* балмату́н, барузда́, бразкату́н.

БАЛБУ́ШКА *м.* мыльны пузыр. На ўроках мы пускалі балбу́шкі (Хвойнае, Хойн.).

БАЛВА́Н *м.* помнік. Скрозь хадзілі да таго балва́на, дзе салдаты ляжаць (Жгун.-Буда, Добр.); Пойдзем да таго балва́на, паглядзім, як яго ўкрасілі (Слабада, Маз.); А хто вось гэты балва́н паставіў, яго не було тут (Буйнавічы, Маз.); Паглядзім мы сёння балва́на на плошчы (Крупка, Маз.).

БАЛВАНЕ́ЦЬ *незак.* муціцца. Штось мне балване́е ў вачах (Холмеч, Рэч.).

БАЛДЫ́КА *м., зневаж.* дурань. Гавары толкам, балды́ка (Углы, Ельск.).

БАЛДЫ́КАЦЬ *незак.* гаварыць (*незразумела*). Што ты там балды́каеш? (Углы, Ельск.).

БАЛДЫ́Р *м., зневаж.* галава. Балды́р мой не варыць (Быч., Карм.).

БАЛЕ́СЦЬ *ж.* хвароба. Цяжкая ў яе бале́сць (Забалацце, Раг.); К старому чалавеку ўжэ ўсе бале́сьці лезуць (Бабовічы, Гом.).

БА́ЛКА I *ж.* бэлька. Ба́лку сначала абцесаць нада (Холмеч, Рэч.); А ў нас во аднаго тожа балкай прыдавіла (Руня, Чач.). *Параўн.* ба́лька.

БА́ЛКА II *ж.* нізіна. У ба́лцы вада стаіць (Высокае, Раг.).

БАЛМАТА́ЦЬ *незак.* балбатаць (*пра індыка*). Індзюкі ля ганку балмо́чуць (Халочча, Чач., тое ж: Марозавічы, Б.-Каш.).

БАЛМАТУ'Н *м. тое, што* балбату́н, балбо́цька. Во балмату́н які, усё балмоча і балмоча (Марозавічы, Б.-Каш.) *Парайн.* баруздá, бразкату́н.

БА'ЛО *часц.* бывала. Бáло ек зайду на танцы, дык падлога ўгінаецца (Макарычы, Петр.).

БАЛО'НАЧКІ *толькі мн.* гадавыя кольцы на спіленым пні. На пні етым іх добра відаць, етыя балóначкі (Піркі, Браг.).

БАЛО'НІНА *ж.* абалонь *(дрэва)*. Балóніна патрэскалася (Лобча, Лунін.). *Парайн.* балóнька, балóчка.

БАЛО'НКА *ж.* перапонка. Якія балóначкі на лапках у гусак (Бабовічы, Гом.).

БАЛО'ННЕ *н.* абалона *(ракі)*. Гані вечак на балонне (Салтанаўка, Б.-Каш.).

БАЛО'НЬКА *ж. тое, што* балóніна. Дуб вот паставіш, дак балóнька згнівая, а серца астаецца (Быч, Карм.).

БАЛО'ТУХА (балату́ха) *ж.* грыб *(жаўтаваты, нізкі)*. Балóтухі паходжы на апяты (Баравікі, Светл.); Бач, як худоба хапае етые болóтухі (Стара-Высокае, Ельск.); За балату́хамі ніхто не ходзіць (Забалоцце, Раг.).

·БАЛО'ЧКА *ж. тое, што* балóніна, балóнька. Калі абзол сарваць, убачыш балóчку (Неглюбка, Ветк.).

БА'ЛЬ *ж., толькі адз.* шум, крык. Такую бáль справілі, аж няможна чуць (Ручаёўка, Лоеўск.).

БАЛЬЗАМЕ'НКА *ж.* бальзамін. Бальзамéнка з шырокім лісцем, высокая (Марозавічы, Б.-Каш.).

БАЛЬЗАМЕ'НКАВЫ *прым.* бальзамінавы. Бальзамéнкавы цвет харошы (Марозавічы, Б.-Каш.).

БАЛЬЗА'НКА *ж.* каністра. Купі мне бальзáнку ў Чачэрску (Башыца, Б.-Каш.).

БА'ЛЬКА *ж.* 1. *тое, што* бáлка. Бáлька ў хляве падгніла (Заспа, Рэч.); 2. жэрдка (ў курасадні). Трэба ў курасадні яшчэ адну бáльку зрабіць (Піркі, Браг.); 3. перакладзіна *(моста)*. Калі клалі на мосьце бáлькі, дык Колю нагу зламілі (Марозавічы, Б.-Каш.)/перакладзіна *(стала)*. Бáлька — ета папярэчнае палена, у якое запускаюць канцы стальніц (Днепрык, Рэч.).

БАЛЬШУ'Н *м.* падлетак *(рослы)*. Бальшу́н той хіба не мог памагці? (Задуб'е, Раг.). Такі бальшу́н, а з дзецьмі гуляе (Перароб, Жытк.).

БАЛЬШУ'ХА *ж.* дачка *(дарослая)*. Вецер аж стогне, а мая бальшу́ха недзе гуляе (Крыўск, Б.-Каш.).

БАЛЮ'ЧКА *ж.* болька. Гэта балю́чка ў мяне даўно (Загор'е Б.-Каш.).

БАЛЯ'ЎКА *ж.* радзімка. Баля́ўка на сьпіне (Неглюбка, Ветк.).

БАМА'ГА *ж., перан.* дакумент. Далі ў калгасе бама́гу, а заўтра паеду ў раён (Хвойнае, Хойн.).

БАМА'ЖНЫ *прым.* папяровы. Бама́жныя грошы (Хвойнае, Хойн).

БАНДАРАВА'ЦЬ *незак.* рабіць *(посуд з дрэва)*. Дзед там бандарава́ць будзе (Быч, Карм.).

БА'НІЦЦА *незак.* парыцца *(венікам)*. А я дык вельмі люблю ба́ніцца (Марозавічы, Б.-Каш.); Калісь была трохі ба́нілася (Піркі, Браг.).

БА'ННІК *м.* гаспадар *(лазні)*. Учора захварэў наш ба́ннік (Лобча, Лунін.); Як хочаце памыцца, дык у Хведара спрасіце, бо ён ба́ннік (Кароткавічы, Жлоб.).

БАНКРУ'Т *м.* махляр, прайдзісвет. Ён такі банкру́т, і вязець яму (Быч, Карм.).

БА'НЬКА І *ж.* частка *(збруі)*. Ба́нька кладзецца на сідзёлку, штоб дзіржалась падцяжка (Марозавічы, Б.-Каш.).

БА'НЬКА ІІ *ж.* частка *(касы)*. Даў Рыгору касу, а ён ба́ньку загубіў (Асінаўка, Светл.).

БА'НЬКА ІІІ *ж.* спражка *(металічная)* Ба́нька блішчыць, аж за кіламетар відна (Апанасаўка, Гом.).

БАРАДА' *ж.* 1. ніжняя частка твару. Барада́ ў яго вельмі востра (Піркі, Браг., тое ж: Тураў, Гом.; Асінаўка, Чач.); 2. вусікі *(ў кукурузным пачатку)*. Кіяхі булі ўжэ ў баро́дах (Пагоннае, Хойн.); 3. нязжаты касмыль жыта. Бараду́ рэдка калі пакідалі, усё дажыналі (Беразнякі, Петр., тое ж: Бабовічы, Гом.; Холмеч, Рэч.); 4. агрэх *(пры касьбе)*. Ого, такую бараду́ пакінуў (Ручаёўка, Лоеўск., тое ж: Чарнейкі, Рэч.).

БАРАНАВАЛО'К (баранаўшчы́к) *м.* баранавальшчык. Баранавало́кам я ўсю вясну (Ст. Буда, Б.-Каш., тое, ж: Піркі, Браг.); Каго ты ўзяў у баранаўшчыкі̀? (Дземяхі, Рэч.).

БАРАНАВІ'ШЧА *н.* паласа зямлі *(на шырыню бараны)*. Етэ баранаві́шчэ давяду, дэй пайду трохі аддыхну (Завайць, Нараўл.).

БАРАНО'ЎКА *ж.* баранаванне. У ўдоль і папярок барануюць, і то барано́ўка, і то барано́ўка (Баравікі, Светл.).

БАРА'НЧЫК *м.* бакас. Бара́нчык кмыкае сперапуду (Каранёўка, Гом.); У сенакос бара́нчыкаў багата летае (Ліпляны, Лельч.). *Парайн.* бара́шак.

БАРА'НЧЫКІ *толькі мн.* кветкі. У гэтым годзе, і ў нас растуць бара́нчыкі. Лісьце на іх сіняга колеру, а сярэдзіна — чырвонага (Сівенка, Ветк.).

БАРА'ШАК *м., тое, што* бара́нчык. Бара́шкі ўжо прыляцелі (Каранёўка, Гом.).

БАРБАЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. стукаць. Свіння барбаціць, не хоча сядзець (Палессе, Чач.); 2. бурчаць. Прыляпілася і табе барбацець, як ржавай ліскатусе (Там жа).

БАРДЖЫ'ЦЬ *незак.* абуваць *(хутка).* Барджы́ на ногу чуні (Піркі, Браг.).

БАРЗДУ'ХА *ж.* селядзец *(з малокамі).* На стале стаяла некалькі місак барздухі, а есьці яе ніхто не хацеў (Бабовічы, Гом.).

БАРКА'Н I *м.* паркан. Паміж хлявом і сьцёпкай трэба паставіць барка́н, урабіць крышу, будзе повець для дроў (Шуты, Ельск.; Хвойнае, Хойн.); У цібе барка́н ледзь ліпіць (Амельна, Раг.); Кругом сада стаяць вялікія барка́ны (Рудня, Ломыш, Дворышча, Жлоб.) Барка́н злучаў гумно і хлеў, а то і хату з гумном. Так яно надзёжней було (Холмеч, Рэч.).

БАРКА'Н II *м.* морква. Бач, які сёлета барка́н парос (Кіцын, Жлоб.).

БАРКА'Н III *м.* байструк. Хоць у Мані барка́н, а глядзіць яго старая лепей за свайго роднага (Івашкавічы, Петр.). *Парайн.* байстручо́к I.

БАРЛЯ'ЧЫ *толькі мн.* боты *(гумавыя).* Гэта боты гумавыя жаночыя. Дай-ка, дзеткі, мае барля́чы (Зарэчча, Жлоб.).

БА'РС *м.* палка *(з тоўстым канцом).* Ба́рсам што-нібудзь забіваюць (Халочча, Чач.).

БАРСУЧО'К I *м.* барсук. Гайсануў барсучо́к у нору (Забалоцце, Б.-Каш.).

БАРСУЧО'К II *м.* кавалак дрэва *(для лучыны).* Сямён, прынясі з лесу хоць барсучо́к (Яланы, Светл.).

БАРСЯНЯ' *м.* барсучанё. У барсучыхі малое барсяня́ було (Навінкі, Калінк.).

БАРУЗДА' *аг., тое, што* балбатун. Барузда́ ты. Ужэ надаела слухаць бабскія плёткі (Амельна, Раг.). *Парайн.* балбо́цька, балмату́н.

БАРУ'СЕЧКА *м.* баран. Бару́сечка наш чорненькі, лобік жа ў цябе беленькі (Касцюкоўка, Гом.).

БАРШЧАВІ'К *м.* грыб *(стары).* У бары я ўзяла некалькі вялізных баршчавіко́ў (Хвойнае, Хойн.); Капуста з баршчавікамі сухімі смачная (Зарэчча, Жлоб.).

БАРЫ́ГА *ж.* скупшчык. Бары́га прыехаў, набраў і паехаў (Вітлін, Раг.).

БАРЫ́ЛА *ж.* 1. бочка. Бары́ла мякла цэлае лета ў рэчцы (Нардуны, Добр., тое ж: Макарычы, Камарычы, Петр.); 2. драўляная пасудзіна *(для вадкасці)*. От, разагрэліся, косячы траву, што цэлае бары́ла вады вупілі (Завайць, Нар.); Бяры і налі квасу з бары́ла (Запясочнае, Маз.); 3. посуд *(для алею)*. У мяне калісь бары́ла алею была (Неглюбка, Ветк.); 4. дзежка. Замясі ў бары́ле цеста (Макарычы, Петр.); 5. мера вадкасці *(паўвядра)*. У мяне ўжо цэлая бары́ла смятаны (Бярозаўкі, Браг.)/мера вадкасці *(адно вядро)*. На дварэ стаяла некалькі бары́лаў вады (Бярозаўкі, Браг.).

БА́РЫНЯ I *ж.* назва танца. Дзед любіў ба́рыню танцаваць (Марозавічы, Б.-Каш.).

БА́РЫНЯ II *ж. бат.* гартэнзія. Еты цьвет ба́рыняй у нас называюць (Жлобін).

БАСІ́ЛЫ *толькі мн.* абутак *(гумавы)*. Ні бацінак, ні басі́л не було (Быч, Карм.).

БАСЛАБУ́ШКА *ж.* наганяй. Як дам баслабу́шку, так ня зная, куды бегчы (Быч, Карм.).

БАСЛАВЕ́НСТВА *н.* благаславенне. Пасля каравая ўжэ і баславе́нства (Баравікі, Светл.); Калісь було баславе́нства ў попа (Ручаёўка, Лоеўск.).

БА́СКРЫЦЦА *незак.* важдацца. Баскры́сься тут, з ваетым усім (Палессе, Чач.).

БАСЦЯ́ЦЦА *незак.* валачыцца. Ноч басьцяўся нейдзе, а дзень сьпіць (Перарост, Добр.).

БАСЯКА́ *прысл.* басаначаж. Як толькі сьнег сойдзе, так басяка́ ходзім (Піркі, Браг.).

БАТАВА́ЦЦА *незак.* 1. ганарыцца. Яшчэ і бату́іцца, невук (Стаўбун, Ветк.). 2. непакоіцца. Чуць што, дак так ужо бату́іцца за яго (Там жа).

БАТАВА́ЦЬ *незак.* наракаць. Кінь бата́ваць на іх (Вышалаў, Петр.).

БАТА́ЖЫЦЬ *незак.* абдурваць. І што шчэ бата́жылі нас доўга (Быч, Карм.).

БАТАЛЬЁН *м.* турухтан, кулік. Батальёна сілкамі добра лавіць, самі лезуць, да забараняюць (Каранёўка, Гом.).

БАТАРЭ́ЙКА *ж.* кішэнны ліхтарык. Нада купіць у батарэ́йку лампачку, а то яна перагарэла (Асінаўка, Чач., тое ж: Быч, Карм.; Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* бліскаўка II.

БАТАРЭ́Я *ж., перан.* капец (*бульбы*). Бульбы цэлую батарэ́ю насыпалі (Быч, Карм.).

БАТВА́ *ж.* (бато́ўе *н.*) сцябло (*карняплодаў*). Парасла ў морквы бальшая батва́ (Неглюбка, Ветк.); Калі батва́ тоўстая, кучаравая, то бульба добрая (Баравікі, Светл., тое ж: Багданавічы, Карм.). Батву́ на градах раскладваюць (Багданавічы, Карм.); Бато́ўе ета пакасіць да высушыць, во будзе сена (Ручаёўка, Лоеўск.).

БА́ЎКАЦЬ *незак.* крычаць. Цяпер у нас ціха, ніхто не каўкня, не ба́ўкня (Баравікі, Светл.).

БАЎТУ́ХА I *ж.* сетка (рыбалоўная). Бяры баўту́ху і пайдзем лавіць рыбу (Баравікі, Светл., тое ж: Славань, Светл.).

БАЎТУ́ХА II *ж.* страва (*нясмачная*). Ну і баўту́ху ты сёння наварыла, гідка есць (Хальч, Гом.).

БАЎЦЮЛЬКА *ж.* завушніца. Паначапляюць дзеўкі разных баўцю́ляк к вушам і думаюць — красіва (Шылавічы, Б.-Каш.).

БА́ХАР *м.* палюбоўнік. Дунька завяла сабе ба́хара (Шылавічы, Б.-Каш.).

БАХО́НКА *ж.* баханка. Трэба Надзьцы бaхо́нку хлеба аддаць, даўно ўжо пазычыла (Маркавічы, Целяшы, Гом.).

БАШКАВІ́ТЫ *прым.* кемлівы. Оленін хлопчык башкаві́ты (Макарычы, Петр.).

БА́ЦАЦЬ *незак.* скакаць. Давай, ба́цай чэраз плот (Белы Пераезд, Петрык.).

БА́ЦЕНЕ *н.* дзіця (*падобнае да бацькі*). Ето ж ба́цене: й ходзіць, і гаворыць, як той бацько (Пясчанікі, Жытк.). *Парайн.* бацю́та.

БАЦІСТО́ЎКА *ж.* хустка (*батыставая*). Бацісто́ўкі калісь былі красівыя, з цьвятамі (Рафалаў, Браг.).

БА́ЦЦА *часц.* быццам. Я, ба́цца, здаровая, а хадзіць не магу (Башыца, Б.-Каш.).

БАЦЮТА *м., тое, што* ба́цене. Сынок у мяне ўвесь бацюта, і крошкі пабраў (Халочча, Чач.).

БАЧКА́Р *м.* бондар. Бачка́р і прадае бочкі (Неглюбка, Ветк.).

БЕ́ГАЦЦА *незак.* бегаць. Карова твая бе́гаецца за быкамі (Сівенка, Ветк., тое ж: Холмеч, Рэч.); Наша авечка бе́гаецца (Халочча, Чач.); Во сука бегаецца, водзіць карагод (Холмеч, Рэч.).

БЕГУНКО́М *прысл.* ланцужком. Яна быстранька навучылася вышываць бегунко́м (Халочча, Чач.).

БЕД *м. абед.* Вынімаі Вольга бед. Пара ўжо бедаць (Палессе, Чач.).

БЕ́ЖКА (бе́жкі) *прысл.* бягом. Пабег бе́жка да хаты (Палессе, Чач.); А ты бе́жкі, дык дагоніш (Пруды, Калінк., тое ж: Замосце, Калінк.; Перароў, Жытк.); Не цягніся ты там, як жаба, бе́жкі нада (Тульгавічы, Хойн.). *Параўн.* бяжко́м.

БЕ́ЗЬМА *прысл.* многа. У Івана там бе́зьма. Паспрабуй іх пракарміць (Рафалаў, Браг.).

БЕ́КА *н.* частка сіта *(драўляная).* Прывяжы к бе́ку сіта (Неглюбка, Ветк.).

БЕ́КАЦЬ *незак.* бляяць. Авечка бе́кае.—«Чаго ты ўсё бекаіш, на пашы ні наелась ці што?» (Бабовічы, Гом., тое ж: Лядцы, Светл.).

БЕЛАВУ́С *м.* бат. сівец. Белаву́с не з'ядобны, сухая трава, расцець на ўзгорках ля балот (Марозавічы, Б.-Каш.); Пад соснамі бачыў белаву́са етага (Неглюбка, Ветк.); Траўка з белымі кветачкамі называецца белаву́сам (Пагост, Жытк.).

БЕЛАЗО́РЫ *прым.* 1. светлавокі. Кабула белазо́рая: адно вока чорнае, а другое белае (Ручаёўка, Лоеўск.); Вашы вочы чорныя, не балазо́рыя (Палессе, Чач.); 2. з бяльмом. А ён нейкі белазо́ры: порчаны, у нас кажуць (Марозавічы, Б.-Каш.).

БЕЛАРУ́С *м.* трактар. Вунь белару́с паехаў (Піркі, Браг.).

БЕЛАРУСІ́ЧКА *ж.* выкладчыца *(беларускай мовы).* Наша беларусі́чка вельмі добра чытае вершы (Шырокі, Б.-Каш.).

БЕ́ЛЬ *ж., толькі адз.* балота. Ета ж дзеткі, балацяная места бе́ллю называюць (Холмеч, Рэч.).

БЕ́ЛЬМЫ *толькі мн., зневаж.* вочы. Вылупіў ён на мяне бе́льмы, аж я прысеў (Сівенка, Добр.). *Параўн.* бізікі.

БЕНЕКО́НСКІ *прым.* гатунак *(жыта).* Два гатункі жыта сеялі тады: партызанскі і бенеко́нскі (Піркі, Браг.).

БЕРАЖА́НКА *м.* стрыж. Беража́нка робіць свае кубельцы на беразі (Баравікі, Светл.).

БЕРАЖНІ́ЦА *ж.* 1. бераг *(ракі).* Чуваць далёка, бабы на беражні́цы белізну перуць (Холмеч, Рэч.); 2. шляк. Як ткалі хвартухі, дык зьнізу красівыя беражніны дзелалі (В. Нямкі, Ветк.).

БЕРАЗІНА́ *ж.* бярэзнік. Беразіна́ — беленечкія бярозы, каторыя аж пасхіліваліся (Гармавічы, Жлоб.).

БЕРАСЕ′НЬ (берасні́к) *м.* гаршчок *(аплецены бяростай)*. Масла наліваюць у берасе́нь, і яно тады можа стаяць год і болей (Асінаўка, Чач.); У нас гаршчок аплятталі бяростай, і завецца берасьні́к (Там жа).

БЕ′РАСТ *м., толькі адз.* бяроста. Калісь бацька надраў бе́расту з бярозы ды гнаў дзёгаць. Чобаты мазалі (Піркі, Браг.).

БЕРАСЦЕ′ЛЬКА *ж.* зяблік. А ці вы не знаіця берасце́ляк? А вун на дрэві сідзяць (Піркі, Браг.).

БЕРАСЦЯ′НКА I *ж.* човен. Калісьці ў мяне была берасьця́нка ды такая лоўкая (Камсамольск, Рэч.).

БЕРАСЦЯ′НКА II *ж.* труба *(берасцяная)*. Бывала, зайграе мой бацька на берасьця́нцы (Марозавічы, Б.-Каш.).

БЕРКУЛЁЗ *м.* туберкулёз. Мой сусед гадоў дзесяць хвараў беркулёзам (Халочча, Чач., тое ж: Задуб′е, Раг.; Перароў, Жытк.; Заспа, Рэч., Прудок, Калінк.; Бабовічы, Гом.; Цярэшкавічы, Гом.; Марозавічы, Б.-Каш.).

БЕ′РЦА *н.* прылада *(для пляцення сеткі)*. Зрабіў бе́рца і буду вязаць сетку (Замосце, Калінк.).

БЗЫКАВА′ЦЬ *незак.* гізаваць. Калі ў полі горача, сонца пячэ і авадні ці мухі кусаюць, то каровы бзыку́юць, паднімаюць хвасты, брыкаюцца і бегаюць з поля (Забалоцце, Б.-Каш., тое ж.: В.-Крушынаўка, Раг.).

БІ′ЗІКІ *толькі мн., тое, што* бе́льмы. Бізікі свае палузаў (Жлобін.).

БІЗУ′Н *м.* 1. пуга. Трэба новы бізу́н плесьці (Холмеч, Рэч., тое ж: Забалоцце, Раг.); 2. сцябло *(гарбуза без лісцяў)*. Ну і гарбузік сёлета: адні бізуны́ (Баравікі, Светл.); 3. *перан.* чалавек *(бедны)*. Ён быў як бізу́н, а сыны вунь як багата жывуць (Перароў, Жытк.); Самі яны — бізуны́, а вось дзеці добра жывуць (Прудок, тое ж: Замосце, Калінк.).

БІЗЮКІ′ *толькі мн.* акуляры. А я ўжо нашу бізюкі́ (Дуброўка, Добр.).

БІЛЕ′Т *м.* дакумент *(на права высякаць лес)*. Біле́т на руках, можаш ехаць у лес (Марозавічы, Б.-Каш.); тое ж: Піркі, Браг., Баравікі, Светл.

БІ′ЛО *н.* 1. вертыкальная частка ў ложку. На біле ложка віселі хусткі (Углы, Нар., тое ж: Махновічы, Маз.); У ложка білы былі пакрашаныя (Бобрык, Петр., тое ж: Холмеч, Рэч., Н.-Мазолаў, Жлоб.); 2. верхняя частка мяліцы. У маёй мяліцы ды біла тупое (Быч, Карм.).

БІЛЬЗІ'Н *м.* бензін. Плямы цяруцца більзінам добрым (Гарадок, Жлоб., тое ж: Асінаўка, Чач.). *Парайн.* бяльзін.

БІНДА'С *м.* сякера *(плотніцкая)*. Дзерава сначала біндасам абчэсуюць, каб мягчэй было часаць (Халочча, Чач.).

БІНДЖА'К *м.* пінжак, летнік. Трэба памыць сабе бінджак (Насовічы, Добр.).

БІНДЗЮ'Г *м.* воз. *(дроў)*. Добра ёй, калі біньдзюг цэлы прытарачылі (Щупейкі, Светл.).

БІ'РКА *ж.* шпілька *(самаробная)*. Бірка зроблена з дрэва (Нісімкавічы, Чач.).

БІРКАВА'ЦЬ *незак.* збіраць плату *(натурай)*. Мы будзем скот пасьці, пойдзіш біркаваць, збіраць хлеб, соль, яйкі (Дубоўка, Добр.).

БІРУ'ЛЬКА *ж.* гузік *(самаробны)*. Бірулька згубілася, а другой такой няма, зрабіць трэба. Мой бацька тады прышываў бірулькі да штаноў (Халочча, Чач.).

БІС *м. газа*. Карасін еты самы; кажуць; бісу німа, трэба купіць (Барталамееўка, Ветк.).

БІСКУЧА'ЦЬ *незак.* прывабліваць. Яна яго біскучае, а ён і не бачыць (Стаўбун, Ветк.).

БІТАЖО'К *м.* палка. Бітажок у рукі ўзяў — мурашкі пабеглі па сьпіне (Дубоўка, Добр.).

БІТВА' *ж.* бойка. Як пакажыцца дзе Зьмітро, знай, будзе бітва (Перароў, Жытк.); Ні було даўней у Гарадцы кірмаша, каб ні була бітва (Задуб'е, Раг.).

БІТО'К *м.* яйцо *(моцнае)*. Яйцо, якім гуляюць наўбіткі,— моцнае, называюць біток (Касцюкоўка, Гом., тое ж: Ручаёўка, Лоеўск.; Халочча, Чач.; Беразнякі, Петр.; Гарывада, Рэч.).

БІ'ЦІК *м.* гладыш *(адбіты)*. Поўны біцік налілі смятаны. Маці ў біцік збірала яйкі (Асінаўка, Чач.).

БІ'ЦЦА *незак.* нераставаць. У жару самую, як работы на полі многа, і рыба б'ецца, а лавіць некалі (Неглюбка, Ветк.).

БІЦЬ *незак.* 1. малаціць. Пашлі, бабы жыта біць (Салтанаўка, Б.-Каш.); 2. рабіць *(з смятаны масла)*. Як смятана добрая, дак хутка біць масла, ні сьцягнецца ні капкі (Іванаўка, Хойн.); 2. рэзаць *(свіней)*. Біць — гэта бальшую свіньню, калоць — малое парася (Неглюбка, Ветк.); 4. кляпаць *(касу)*. Ты сьнедай, а я касу пайду біцць (Запясочча, Жытк.); 5. мыць бялізну *(пранікам)*. Учора сарочку біла на рацэ (Марозавічы, Б.-Каш.);

б. акопваць бульбу. Цэлы дзень б'ём бульбу на дамеры (Стаўбун, Ветк.).

БІЧ I *м.* частка цэпа. У нас кажуць біч, а не біла (Бабовічы, Гом.); У цапа е цаўё і біч (Піркі, Браг.).

БІЧ II *м.* уюн. Летась шмат бічо́ў нанізалі (Піркі, Браг.).

БІЧА'ЕК *м.* абруч *(у жорнах)*. Біча́ек кругом жорнаў аббіваюць (Асінаўка, Чач.).

БІЧКАВА'ЦЦА *незак.* працаваць *(без адпачынку)*. Бічкую́ся ўвесь дзень, прысесьці некалі (Баравікі, Светл.).

БЛАГАВА'ЦЬ *незак.* шкадаваць, песціць. Яна яго благу́я (Харошаўка, Добр.).

БЛАЗНЁНАК *м., зневаж.* блазан. А ён, блазнёнак, залез у агарод (Дубраўка, Добр.).

БЛАКІТНЕ'ЦЬ *незак.* сінець. На двары ўжэ пачыная блакітне́ць (Даманавічы, Калінк.).

БЛАШЧЫ'ЦА *ж.* клоп. Жызьня зусім другая. У хатах няма больш ні блох, ні блашчы́ц (Углы, Нар., тое ж: Пера́роў, Жытк.; Узнаж, Светл.).

БЛЕ'ДЫ *прым.* бледны, белы. Каб трохі вон буў цемнейшы, а то вельмы бле́ды (Мілашэвічы, Лельч.); Я ўчора стрэла Агапу, у яе такі бле́ды твар (Баравое, Лельч.).

БЛЁХАЦЦА *незак.* пялёскацца, плюхацца. Увесь дзень дзеці блёхаюцца ў рэчцы (Дзвіжкі, Ельск., тое ж: Крыўск, Б.-Каш.).

БЛЁХАЦЬ *незак.* пялёскаць, плюхаць. Хопіць табе блёхаць. Зайшоў у ваду і блёхае (Лукі, Жлоб., тое ж: Кабанаўка, Н.-Мазалаў, Жлоб.).

БЛЁХНУЦЬ *зак.* 1. пляснуць *(у вадзе)*. Нешта блёхнула ў вадзе (Целяшы, Гом.); 2. *зневаж.* Рэзка пляснуць, лінуць. Кіслага малака ў міску блёхнула і дала есьці (Узнаж, Светл.); 3. выкінуць. Блёхні ў ямку гэтыя анучы дзіравыя (Горваль, Рэч.).

БЛІЗНА' *ж.* (блізно́) *н.* брак пры тканні. Па ўсем полотне блізна́ пошла (Тонеж, Лельч.); Блізны, блізны́ беражыся, а то палатно будзе нікчэмнае (Стаўбун, Ветк.); Блізну́ там наткала, нітка парвалася (Каравацічы, Холмеч, Рэч.); А бывае, што блізно́ за блізно́м ідзе (Бабовічы, Гом., тое ж: Рэч., Неглюбка, Сівенка, Ветк.; Нісімкавічы, Халочча, Чач.; Піркі, Браг.; В. Поле, Петр.; Ручаёўка, Лоеўск.); Блізнамі наткала, кашлоцьце вісіць (Кірава, Жлоб.).

БЛІЗНАВО'КІ *прым.* блізарукі. Ён вельмі блізнавокі хлапец (Пірκі, Браг.).

БЛІНЦО'ЎКА *ж.* дзежка *(блінная)*. Дай мне сваю блінцоўку, хачу ўчыніць блінца (Холмеч, Рэч.).

БЛІ'СКАЎКА I *ж., перан.* лінейка ў сшытку *(касая)*. Дайце мне сшытак у бліскаўку! (Гарадок, Жлоб.).

БЛІ'СКАЎКА II *ж., тое, што* батарэйка. Выключы ты сваю бліскаўку (Сяўкі, Лоеўск.).

БЛІСКУ'ХА I *ж., толькі адз.* трава *(рэдкая)*. На балоце толькі адна бліскуха расьце (Хвойнае, Хойн.).

БЛІСКУ'ХА II *ж., перан.* узор *(тканіны)*. Ткаць у бліскухі не вельмо цяжка (Поле, Петр.); У Веры чатыры капы ў бліскухі, красівыя (Там жа).

БЛІ'СНУЦЬ *незак., перан.* знікнуць *(хутка)*. Я застаўляла кашу на вечар гасьцям, пакуль прышла з працы, дык каша толькі бліснула (Антонаў, Ельск.).

БЛІШЧУ'СТЫ *прым.* бліскучы. Блішчустае плацьце ў Надзі, аж зіхціць на сонцы (Баравое, Лельч.).

БЛАШЧЫ'ЧНІК *м., толькі адз.* сродак *(для знішчэння клапоў)*. У войну му блошчычнік ложылі ў ложкі, шоб блошчыц не було (Падворак, Лельч.).

БЛУД *толькі адз.* замарачэнне. Як найдзе блуд, так зробіцца незнакомае месца (Палессе, Чач.).

БЛУДЗЯ'ШЧЫ *прым.* збродлівы. Блудзяшчая карова дамоўкі не зная (Холмеч, Рэч.).

БЛУ'ТАЦЦА *незак., зневаж.* блудзіць. Блутаўся, блутаўся і назад прыблутаўся (Амельно, Раг.).

БЛЫ'НДАЦЬ *незак., зневаж.* хадзіць *(без справы)*, блукаць. Як пойдзе блындаць па вёсцы, дык прыдзе дамоў апоўначы (Заспа, Рэч., тое ж: Карма, Добр.; Стараград, Раг.; Пясчанікі, Жытк.; Тульгавічы, Хойн.); Як выпусьці з хлява, так і пайшла блындаць па ўсіх дварах (Перароў, Жытк.); Гаўрыла кожды вечар блындае пад яе вакном (Там жа).

БЛЫ'ХА *ж.* крапіўнік *(птушка)*. Пойдзем у лес за дравамі, блыхі так і выпорхваюць з-пад ног (Каранёўка, Гом.).

БЛЮВА'ЦЬ *незак.* ванітаваць. Як стала яна блюваць, ледзь адышла (Піркі, Браг.).

БЛЮ'ДКА *н.* сподак. Я вам мёду налью ў блюдка (Кароткавічы, Жлоб., тое ж: Насовічы, Добр.; Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Марозавічы, Б.-Каш.).

БЛЮ'ЗКА *ж.* блузка. Юбкі шые, блюзкі шые, усё, што хочыш (Марозавічы, Б.-Каш.).

БЛЮ́ЗНІЦЬ *незак., зневаж.* плявузгаць. Не блюзні чаго не нада (Неглюбка, Ветк.).

БЛЮСЦІ́ *незак.* берагчы, захоўваць, сцерагчы, шанаваць. Трэба блюсьці яблакі (Быч, Карм.); Гэту скацерць блюду́ (В.-Нямкі.); Блюла́ я блюла́ ету гаруску, а тут, на табе, нявестка прышла і стала сабе яе прысвайваць (Палессе, Чач., тое ж: Жгунь, Добр.).

БО́ДНЯ *ж.* бочка *(з накрыўкай)*. Пад вакном стаіць бо́дня, поўная вады (Бубнавічы, Маз.); А ў хляве стаяла бо́дня з жытам (Залясочнае, Маз.); Пахаваў дзед сала ў бо́дню, сам не есьць (Жгунь, Добр.); Як з бо́дняй ідзе маладая, дык гэта ўжо каторая бядней (Піркі, Браг.); У бо́дні мяса і сала добра захоўваецца (Уць, Добр.); Калісь былі бо́дні такія круглыя (Карма, Добр.). *Параўн.* бо́ння.

БОЙ *м., толькі адз.* пабоі. Відзен бой на ёй (В. Нямкі, Ветк.).

БО́ЙЛА I *н., толькі адз.* бойка. Я глядзеў на тоя бо́йла (Дуброўка, Добр.); Задала яму добрага бо́йла, цяпер будзе маці слухаць (Хальч, Гом.).

БО́ЙЛА II *н.* кавадла. Вазьмі бо́йла і закляпай чыгунок (Н. Гута, Гом.).

БО́ЛЕЦЬ *незак.* падрастаць. А як стала бо́лець, дак такія красівыя косы ўжо сталі (Палессе, Чач.).

БО́МЧЫКІ *толькі мн.* кутасы. Я нарабіла бо́мчыкаў (Старатоўцы, Жытк.).

БО́НДА *ж., толькі адз.* сала *(свежае)*. Тома мая ладны кусок бо́нды прынясла (Краўск, Б.-Каш.).

БО́НДЗЕР *м.* ордэн. Мне далі бо́ндзер за дзяцей (Дуброўка, Добр.).

БО́ННЯ *ж.* бочка *(для бялізны)*. Цяпер шкапы, а колісь мы шмацце ў бо́нні клалі (Мілашэвічы, Лельч.). *Параўн.* бо́дня.

БО́РАК *м.* нізіна *(забалочаная)*. На бо́рку месцамі ляжала скошаная трава (Лучык, Раг.).

БО́РАЦЦА *незак.* дужацца. У мене ж хлопцы як бо́рацца, дык пер'е з падушак павылетае (Холмеч, Рэч.); Ня чапайцесь, не бо́райцесь, а то выйдзе бой (Неглюбка, Ветк.).

БОРЖЭ́ЙКО *прысл. памянш. ад* бо́рздка. Трэба боржэ́йко прыбраць хату, а то заўтра сьвято (Бярэзнікі, Жытк.).

БО́РЗДКА *прысл.* хутка Коні беглі даволі бо́рздка (Віць, Хойн.).

БО'РКА *ж.* абора *(лапцей)*. Ад болю ён не мог сагнуцца, каб завязаць бо́рку (Асінаўка, Чач.).

БОРС *м.* барсук. Борс полез у нору (Дзяржынск, Лельч.).

БОРСЕНЁ *н.* дзіця *(барсука)*. Борсенё чогосьці спужалось (Дзяржынск, Лельч.).

БОРЦЬ *ж.* 1. вулей *(на дрэве)*. Бо́рці на дзерава вешаюць (Холмеч, Рэч.); 2. унутраная частка вулля. Борць у нас называюць унутры вулля (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* бычо́к *у* 3 *знач.*

БОРШЧ *м.* 1. страва *(з капусты, буракоў, шчаўя)*. У нас, дзетка, дык і з капусты — боршч завецца і з буракоў (Меркулавічы, Чач.); Тоне, ідзі ў грады да выберы сабе качана. Наварыш заўтра боршчу́. Нешто мае дзеці хочуць есьці копусьцяны (Заходы, Лельч., тое ж: Поташня, Хойн.); Боршч вараць з шчаўлям, квасяць (Пярэдзелка, Лоеўск.); 2. капуста *(квашаная)*. А ў цэбры стаяў боршч (Запясочнае, Маз.); Ідзі набяры баршча́ ў пограб (Буйнавічы, Маз.).

БОРШЧО'ВІК *м., толькі адз.* назва *(травы)*. Нашто тобе той боршчо́вік? З его, мабуць, варылі колісь боршч (Падворак, Лельч.).

БО'СЛА *аг. неадабр.* гарэза, непаседа. Сядзь, бо́сла гэты, што ён нарабіў?! (Антонаўка, Добр.).

БО'СЛЫ *прым.* бойкі, разумны. Мая дачка яшчэ маленькая, а такая бо́слая (Злодзін, Маз.).

БОТ (боўт) *м.* кій *(драўляны, жалезны)*. Баўтануў разоў пяць бо́там, дай пачаў выцягаць сецьЁ(Шохаўка, Чач.); А боўт такі абукнавенны, жалезны (Ручаёўка, Лоеўск.). *Парайн.* бо́ўціла.

БО'ЎТАНКА *ж.* страва. Бо́ўтанка будзе з буракоў і дабаўлю туды мукі (Іскра, Чач.).

БО'ЎЦІЛА *н., тое, што* бот, боўт. Боўцілам добра заганяць рыбу (Багданаў, Карм.).

БО'ХНУЦЬ *зак.* крыкнуць. Ён яе схапіў за плечы, дык яна як бо́хнула (Хвойнае, Хойн.).

БО'ЯЗКО *прысл.* боязна. Боязко ісьці паўз клады (Гарадзец, Раг.).

БРАВА' *ж.* брыво. Нахмурыць браву́ (Неглюбка, Ветк.); Ён упаў і расьсёк сабе правую браву́ (Марозавічы, Б.-Каш.); Бро́вы ў дзевак маіх чорныя-чорныя (Піркі, Браг.).

БРАДНЯ' *ж.* браднік. Заўчора рыбу браднёй лавілі (Холмеч, Рэч.).

БРАДЗЯ'ЧЫ *прым.* збродлівы *(пра карову)*. Вольга ў саўхозе купіла брадзячую карову (Неглюбка, Ветк.).

БРА'ЖКА I *ж.* спражка. Бражка такая бліскучая (Бабовічы, Гом., тое ж: Неглюбка, Ветк.); Во як дам бражкай (Неглюбка, Ветк., тое ж: Р. Марымонава, Гом.).

БРА'ЖКА II *ж., зневаж.* хэўра. Ета ўжэ бражка неразлучная, і п'юць і гуляюць (Быч, Карм.).

БРА'ЖЫЦЬ *незак.* брадзіць, кіснуць. Калі выкатаць не ў пару, мёд бражыць і прападае (Карма, Добр.).

БРАЗКАТУ'Н *м., зневаж., тое, што* балбатун. Ідзі ты, бразкатун (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* балматун, баруздá.

БРАЗКО'ТКА *ж.* бразготка. Малому купіла бразкотку (Пянчык, Б.-Каш., тое ж: Маркавічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.).

БРА'МКА *ж.* дзверцы *(у коміне)*. Адкрый брамку і заліхтуй у печы (Макарычы, Петр.).

БРАНДЗА'ЛЕТКА *ж.* цацка. Дай, Параска, яму брандзалетку, няхай супакоіцца (Буйнавічы, Маз.).

БРА'ТАШНІК *м., толькі адз.* (братачкі *толькі мн.), бат.* браткі *(палявыя кветкі)*. Каля дарогі браташніку многа расьцець. «Я — братка, сіня траўка, а ты — сястрыца, жоўты цьвет. Будуць дзеўкі траву рваць і брата з сістрой памінаць». «Ета такая травіца, што брат і сястрыца»,— так кажуць аб браташніку (Марозавічы, Б.-Каш.); Братачкі на полі, сіненькі з жоўтым (Баравікі, Светл.).

БРА'ХНУЦЦА *зак., груб.* упасці. Як брахнуўся з койкі (Пракопаўка, Добр.).

БРАШЧА'ЦЬ *незак.* тарахцець. Брашчаць калёсы (Неглюбка, Ветк.).

БРАЦІ'ХА *ж.* братавая. Браціха — дак ета братава жонка (Гарадзец, Раг., тое ж: Баравікі, Светл.; Перароў, Жытк.; Прудок, Калінк.; Чацверня, Кароткавічы, Жлоб.; Заспа, Велін, Рэч.; Брынёў, Петр.; Бярэзнікі, Жытк.; Піркі, Браг.); Братоў немашака, дык адкуль браціхам буць? (Холмеч., Рэч.).

БРАЦІ'Ш *м.* брат *(дваюрадны)*. Ого, мой брацíш такі, што слова лішняга ні кажы (Велін, Рэч.).

БРАЦЕ'НІК *м.* брат *(траюрадны)*. Ай да брацéнік, што ты натварыў? (Велін, Рэч.).

БРАЦЕ'НІХА *ж.* жонка *(дваюраднага брата)*. Брацéніха прышла, пазвала (Быч, Карм.).

БРАЦЕ́ННІЦА *ж.* сястра *(дваюрадная, траюрадная)*. Браце́нніцы няма ў мяне (Багданавічы, Карм.).

БРОГ *м.* прыстасаванне *(для ўкладкі сена)*. Бро́гам добра сена было класьці (Астрагляды, Браг.).

БРО́ЖКА *ж.* шпілька. Зашпілі бро́жкай спадніцу (Казацкія Балсуны, Ветк., тое ж: Апанасаўка, Гом.) /брошка. Бро́жкай прычоску аздобіла (Камунар, Б.-Каш.).

БРУІ́ЦЬ, *незак.* узбуджацца *(аб пчолах)*. Пчолы за тры дні перад дажджом бруя́ць (Неглюбка, Ветк.).

БРУКО́ЎНІК *м., толькі адз.* лісце *(бручкі)*. Бруко́ўнік адзін вырас. Дала карове цэлы ахапак бруко́ўніку (Н. Гута, Гом.). *Параўн.* бручко́ўнік.

БРУКО́ЎНІШЧА *н.* поле *(пасля ўборкі бручкі)*. Яна на бруко́ўнішча пашла (Бабовічы, Гом.).

БРУЛЬ-БРУЛЬ пазыўныя словы *(для авечак, ягнят)*. (Піркі, Браг.). *Параўн.* бры-бры.

БРУСЛЕ́Т *м.* бранзалет *(на гадзіннік)*. Купіла новы брусьле́т на часы (Азяраны, Раг.); у Вольгі часы з брусьле́там (Чырвоная Буда, Добр.).

БРУСО́К *м.* частка *(грабляў)*. Насадзі новы брусо́к на грабільна (Бабовічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.).

БРУ́ТА *ж.* лёк. Тоя, што ў боццы астаецца, называецца бру́та (Баравікі, Светл.).

БРУ́ХА І *н.* чэрава *(жывёлы)*. Бру́ха большое будзе, як обжорлівая корова наесца (Холмеч, Рэч.); У каровы што-та з бру́хам зрабілася, трэба вецінара пазваць (Ручаёўка, Лоеўск.).

БРУ́ХА ІІ *н.* ніз *(пілы)*. Зусім у піле бру́ха скрывілась (Баравікі, Светл.).

БРУХА́ЦІЦЦА *незак.* карабаціцца. Брухá́ціцца — гэта калі дзерава высыхае і перагінаецца. На сонцы бруха́ціцца дошка (Кароткавічы, Жлоб.).

БРУЧ *м.* абруч. Бручы́ робяць у нас з лазы (Неглюбка, Ветк.).

БРУЧКО́ЎНІК *м., толькі адз. тое, што* бруко́ўнік. Бручко́ўнік тута быў (Неглюбка, Ветк.).

БРУШНЯ́К *м., толькі адз.* тыф. Раней, асабліва ў вёсцы Злодзін, брушня́к касіў усіх папагалоўна (Буйнавічы, Лельч.); Цяпер брушня́к можна вылячыць (Марозавічы, Б.-Каш.).

БРЫ-БРЫ *тое, што* бруль-бруль. «Бры-бры» авечку маняць усе (Ручаёўка, Лоеўск., тое ж: Піркі, Браг.).

БРЫГАДЗІ́РКА *ж.* жонка брыгадзіра. Наша брыгадзірка таксама глядзіць за парадкам (Шырокі, Б.-Каш.).

БРЫД *м., толькі адз.* чад. Брыд быў, калі баня толькі шчэ вытаплівалась (Касцюкоўка, Гом.); Тады ад брыду ва ўсіх галовы балелі (Бабовічы, Гом.).

БРЫДЗЕ́ЦЬ *незак.* шчыпаць. У воку брыдзіць вельмі (Апанасаўка, Гом.).

БРЫЖ *м.* 1. аборка (*тканіны*). Ужо брыж прышыла (Камаровічы, Петр.); Калісь шылі спадніцы ў двое, ў трое брыжо́ў (Раманавічы, Гом., тое ж: Камунар, Б.-Каш.; Ручаёўка, Лоеўск.; Бабовічы, Гом.; Крупейкі, Лоеўск.); 2. пяколак. Мука ляжыць на брыжу́, а то яна была мокрая (Навінкі, Калінк., тое ж: Бабовічы, Гом.; Амелькаўшчына, Хойн.; Любань, Марозавічы, Б.-Каш.; Камінічы, Нараўл.; Холмеч, Рэч.; Уць, Добр.); 3. край (*дошкі*). Калі глядзець збоку на складзеныя неабразныя дошкі, то можна бачыць толькі іх брыжы́ (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* брылёк, брыло́, брыль II, брэ́зік.

БРЫ́ЖЖА *толькі адз. тое, што* брыж *у* 1 *знач.* Для красы на версе юбкі прышываюць бры́жжа (Марозавічы, Б.-Каш.); Калі бры́жжа, дык яно ж пышней (Рафалаў, Браг.). *Параўн.* брылёк, брыло́, брыль II, брэ́зік.

БРЫ́КА *ж.* калёсы. Садзіся, Алесь, на бры́ку ды прывязі картопляў (Івашкавічы, Петр., тое ж: Камаровічы, Петр.).

БРЫ́КВА (бры́кма) *ж., толькі адз.* бручка. Вырасла вялікая бры́ква (Багуцічы, Ельск., тое ж: Піркі, Браг.); Бры́кма, калі маладая, можна есці — яна солодкая (Гармавічы, Жлоб.). *Параўн.* бу́льба.

БРЫ́КНУЦЦА *незак.* паваліцца, упасці. Ішоў паволі і чаго бры́кнуўся (Перароў, Жытк.).

БРЫЛЁК *м., тое, што* брыж *у 2 знач.* Палажыла спічкі на брылёк, каб сухія былі (Шылавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* брыло́, брыль II, брэ́зік.

БРЫЛО́ *м. тое, што* брыж *у* 2 *знач.* Сьпічкі на брылё ляжаць (Гноеў, Хойн., тое ж: Антонаў, Ельск.). *Параўн.* брылёк, брыль II, брэ́зік.

БРЫЛЬ I *м.* капялюш. У майго старога ё брыль (Бабовічы, Гом.); Сто гадоў валяіцца у нас той брыль (Кароткавічы, Жлоб., тое ж: Р. Каменева, Ручаёўка, Лоеўск.; Асінаўка, Чач.).

БРЫЛЬ II *м., тое, што* брыж *у* 2 *знач.* На брылі́ там крышкі лежаць (Грабаў, Петр.). *Параўн.* брылёк, брыло́, брэ́зік.

БРЫЛЬ III *м.* здор. З кішак здымаюць брыль (Кароткавічы, Жлоб.).

БРЫЛЬ IV *м.* лыч. Брыль дзюка буў у гліне (Дзяржынск, Лельч.).

БРЫ'МКАЦЬ *незак., зневаж.* хадзіць. Не бры́мкайце ўжо ў лес (Палессе, Чач.). *Параўн.* бры́ндаць.

БРЫ'НДА *аг.* гультай. Бры́нда заўсёды баіцца работы (Целяшы, Гом.).

БРЫ'НДАЦЬ *незак., зневаж., тое, што* бры́мкаць. Пайшла ўжо бры́ндаць па вуліцы (Быч, Карм.); Бры́ндаеш, бры́ндаеш, а толку німашака (Быч, Карм., тое ж: Амелька, Раг.); Бры́ндае па пасёлку то ўзад, то ўперад (Мормаль, Жлоб.).

БРЫ'НЬКАЦЬ *незак.* балбатаць. Не бры́нькай, дзед (Улукаўе, Гом.).

БРЫ'СКАЦЬ *незак.* брызгаць. Пайшла бры́скаць у хаце (Піркі, Браг.).

БРЫ'ЎНЫ *прым.* стромкі. Тавар ганяюць пасьцісь на бры́ўны бераг (Ручаёўка, Лоеўск.).

БРЫ'ЦА *ж., толькі адз.* пазадкі. Зярно ад траў бры́цай завецца (Баравікі, Светл.).

БРЫ'ЦАЦЬ *незак.* падскокваць. Выйшла з хлява мая пярвусцінка, ды як пачала бры́цаць (Злодзін, Маз.).

БРЭ'ЗІК *м., тое, што* брыж *у* 2 *знач.* Сьпічкі палажы на брэ́зік, штоб было відна, ідзе яны ляжаць. Сцяры пыль з брэ́зіка (Палессе, Чач.). *Параўн.* брыло́, брыль II.

БРЭ'МЕННАЯ *прым.* цяжарная. Жанчына брэ́мянная ходзе (Неглюбка, Ветк.).

БРЭТО'Н *м., тое, што* бу́сел I. Сёння ляцела цэлая чарада брэто́наў (Макарычы, тое ж: Камаровічы, Петр.). *Параўн.* бу́слец, буськó, буця́н.

БРЭ'ТЫ *толькі мн.* галёшы. Дапамажы мне брэ́ты на валёнкі надзець (Стралкі, Раг.).

БРЭ'ХМАН *м.* хлус. А Хвіліп такі ўжэ брэ́хман, што ні скажэ, як к сцене прыклеіць (Макарычы, Петр.).

БУ'БКА *ж.* 1. ягадзіна. Збірала па бу́бцы суніцу (Алексічы, Хойн.); 2. зерне *(адно)*. Багата бу́бак ляжыць на зямлі (Бабовічы, Гом.); А ў струках колькі бу́бак! (Сямёнаўка, Рэч.).

БУ'БНА *ж.* узор *(карункаў)*. От бу́бна, снежынка, повязано шчэлінамі, а дзе не шчэлінамі — рашотка (Ручаёўка, Лоеўск.).

БУБНІ'СТ *м.* бубнач. Скрыпак іграе на скрыпку, бубні́ст барабаніць у бубен (Кароткавічы, Жлоб.).

БУГО'Р *м.* вугор *(на твары)*. Бугры́ на ліцэ паявіліся (Забалоцце, Раг.).

БУГРАВА'ТЫ *прым.* воблачны *(пра неба)*. Сейма, такое неба бугравáтае, гуркі будуць (Холмеч, Рэч.).

БУГРАВІ'НА *ж.* поле *(няроўнае)*. Даволі бугравíны, там дажа гвоздзь ні хоча расьці (Чарнейкі, Рэч.).

БУ'ДАЧКА *ж.* парасон. Ідуць з аўтобуса пад будáчкай удваём (Асінаўка, Чач.).

БУДЫ'Н *м.* адтуліна, дзірка *(у посцілцы)*. Зрабіла малой буды́н, каб лягчэй дыхаць было (Баравікі, Светл.).

БУЕНІ'ЦЫ *толькі мн.* буякі. Буеніцы ў нас е, да іх ніхто не берэ, ад іх дурны робісься (Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* бuяніцы, буяхі.

БУЗА' *ж., толькі адз.* мякіна. Усякая бузá адыходзіць ад зярнятак, курам яе і аддаюць (Баравікі, Светл.).

БУЗАВА'ЦЬ *незак.* працаваць. Твоі ў Пірках будуць бузавáць (Піркі, Браг.).

БУЗГО'РАК *м.* узгорак. На бузгóрку стаяла хата (Неглюбка, Ветк.).

БУЗЯ'РНІК *толькі адз.* бузіна. Бузя́рнік ажно красны ад ягад. (Пярэдзелка, Лоеўск.).

БУ'ЙНЫ *прым.* моцны (*пра вецер*). Падуў бýйны вецер (Насовічы, Добр.); Падняўся бýйны вецер, усё паваляў (Ручаёўка, Лоеўск.).

БУКА'ТЫ *прым.* брухаты. Наелася карова ета букáтая (Неглюбка, Ветк.).

БУКО'НКА (букóнчына) *ж.* аканіца. Ідзі закрый букóнкі (Ухоў, Ветк., тое ж: Апанасаўка, Гом.; Жгунь, Харошаўка, Добр.; Марозавічы, Башыца, Пянчын, Б.-Каш.); Вецір зачыніў букóнчыну, і ў хаці стала цёмна (Рудня, Чач.).

БУ'ЛБАТКА *ж., тое, што* балáбушка. О, бýлбаткі, будзе доўга дождж ісьці (Холмеч, Рэч.).

БУЛДО'ЎКА *ж.* бутон. Булдóўка не расьцвіла яшчэ (Неглюбка, Ветк.).

БУЛЁН *м.* суп *(бульбяны)*. Маруся, не забудзь зажарыць булён, бо я ўжэ пошла на работу (Загоды, Лельч., тое ж: Поташня, Хойн.; Іванаўка, Хойн.; Галоўчыцы, Нар.).

БУ'ЛЬБА *толькі адз.* 1. *тое, што* брыква (брыкма). Пасеяла расаду бýльбы (Перароў, Жытк., тое ж: Бабры, Камаровічы, Петр.); 2. порхаўка. Высахне бýльба, дык пачынае порхаць (Піркі, Браг.). *Параўн.* буркýха.

БУЛЬБУТА'ЦЬ *незак.* балбатаць *(пра індыка)*. Індык бульбýча (Углы, Браг.).

БУЛЬБА'ШНІК *м., толькі адз.* бульбоўнік. Бульбáш-

нік увесь пачарнеў (Апанасаўка, Гом.). *Параўн.* бульбяшнік.

БУ'ЛЬБАЧКА *ж.* пук *(на цыбулі)*. На маёй цыбулі бу́льбачкі ўжэ пажаўцелі (Даманавічы, Калінк., тое ж: Забалоцце, Раг.; Залессе Чач.; Казялужжа, Хойн.). *Параўн.* бульбу́шачка.

БУЛЬБІ'ШНІКІ *толькі мн.* клёцкі *(бульбяныя)*. Бульбі́шнікі — гэта ежа з бульбы, начыняюць тварагом ці морквай (Кіцін, Гом.).

БУЛЬБО'ВІШЧА *н.* бульбянішча. Бульбу капаюць, а ета места завуць бульбо́вішчам (Неглюбка, Ветк.).

БУЛЬБУ'ТКА *ж., тое, што* бала́бушка. Пагледзі, бульбу́ткі на вадзе (Піркі, Браг.).

БУЛЬБУ'ШАЧКА *ж., тое, што* бу́льбачка. Як з'явіліся бульбу́шачкі, то ўжэ цыбулю ў рот не беры (Стара-Высокае, Ельск.).

БУЛЬБЯ'ШНІК *м., тое, што* бульба́шнік. На гародзе ляжаў раскіданы бульбя́шнік (Н. Гута, Гом., тое ж: Чарнейкі, Рэч., Дземяхі, Рэч.); Бульбя́шнік парос у рост (Забалоцце, Раг., тое ж: Майскае, Жлоб., Гармавічы, Жлоб.).

БУ'ЛЬКНУЦЬ *зак., перан.* знікнуць. Паабяцаў зрабіць, а потым бу́лькнуў (Перароў, Жытк.).

БУЛЬНЯ'К *м.* 1. палын. Вунь колькі бульняку́ ў гародзе (Піркі, Браг.); 2. венік *(з быльніку)*. Бульня́к — так то ж венік з травы такой (Піркі, Браг.). *Параўн.* бы́льнік.

БУЛЫ'НДЗІЦЬ *незак.* абгаворваць. Булы́ндзіла тады етага чалавека (Палессе, Чач.).

БАМА'ГА *ж., толькі адз.* ніткі *(баваўняныя)*. Бама́гу куплялі ў горадзе ўсё лета (Стаўбун, Ветк.).

БУ'НДА *ж.* сукенка *(баваўняная)*. А бу́нда якая, толькі заглядзецца (Астрагляды, Браг., тое ж: Махновічы, Маз.; Кажушкі, Віць, Хойн.); З етага краму бу́нда добрая будзе (Аравічы, Хойн.; Запясочнае, Маз.; Углы, Нар.; Буйнавічы, Маз.); Апранай бу́нду, ды ідзі пасьвіць тавар (Іванкаўшчына, Маз.).

БУНТ *м.* нізка *(сушаных грыбоў)*. Насушыла тры бунты́ грыбоў (Багданавічы, Карм.).

БУРАКО'ЎНІШЧА *н.* месца, дзе раслі буракі. Яна на бурако́ўнішча пашла (Бабовічы, Гом.).

БУРА'НКА *ж.* навальніца. Летась была такая бура́нка; Восеньню часта бура́нкі бываюць, намерзьнесся ў полі (Насовічы, Добр.).

БУРА'СТЫ *прым.* моцны (*пра вецер*). Бура́сты вецер быў (Піркі, Браг.).

БУРА'ЦЦА *незак.* разбурацца. Бура́ецца старая хата (Холмеч, Рэч.).

БУРА'ЦЬ *незак.* разбураць. Не дасьць яна бура́ць сваёй хаты (Піркі, Браг.).

БУРБУЛІ'ЦЬ *незак.* булькаць (*пра ваду*). Ключавая вада бурбулі́ць (Бабовічы, Гом., Неглюбка, Ветк.).

БУ'РДЫЛКА *ж., тое, што* бала́бушка. Калі бу́рдылкі робяцца, дошць не хутка скончыцца (Дзякавічы, Жытк.).

БУРКАТНЯ' *толькі адз.* сварка. Як устрояць буркатню, хоць уцякай з хаты (Быч, Карм.).

БУ'РКІ *толькі мн.* абутак (*з сукна*). Адзень рызіны на бу́ркі (Ухоў, Ветк.).

БУРКУ'Н *м.* буркатун. Бурку́н ты бальшы! (Неглюбка, Ветк.).

БУРКУ'ХА *ж., тое, што* брыква (брыкма). Каровы бурку́ху аб'елі (Сямёнаўка, Рэч.). *Параўн.* бу́льба.

БУРЛАКАВА'ЦЬ *незак.* гультаяваць. Хваціць табе бурлакава́ць (Піркі, Браг.).

БУРНУ'ЦЬ *зак., груб.* штурхануць. Свякрові мне не вядзі, а то я яе так бурну́, што і касцей не сабярэ (Асінаўка, Светл.). *Параўн.* бу́рхнуць.

БУРТ *м.* капец. У етам гаду паставілі багата бурто́ў на полі. Начніць вялікі бурт (Калінічы, Хойн., тое ж: Ст. Буда, Б.-Каш.; Бывалкі, Рэч.).

БУРТАВА'ЦЬ *незак.* закопваць (*гародніну, бульбу ў капцы*). Бурту́юць овашчы ў саўхозі, а салому йшчэ не стагуюць. У саўхозі бульбу бурту́юць (Халочча, Чач., тое ж: Марозавічы, Б.-Каш.).

БУ'РХНУЦЬ *зак. тое, што* бурну́ць. Бу́рхня чалавека, дак і скорая помашч забірала (Быч, Карм.).

БУРЧА'К *м.* ручай (*бурны*). Прайшоў дождж, і такі бурча́к зрабіўся на дварэ. Снег на вачах растае, бурчакі́ ўжо бягуць (Пераpоў, Жытк.).

БУ'РЫЦЦА *незак.* псавацца (*пра надвор'е*). Учора бу́рылася пагода (Насовічы, Добр.).

БУР'Я'Н *м.* буран. Хмара ідзе, мо бур'я́н будзе (Піркі, Браг.).

БУРЯ'ЦЬ *незак.* шпурляць. Я яго нашлёпала добра, што буря́ў каменням на гарод (Палессе, Чач.).

БУ'СЕЛ I *м.* птушка. Прыляцеў бу́сел (Каз. Балсуны, Ветк.). *Параўн.* бу́слец, буськó, брэтóн, буця́н.

БУ'СЕЛ II *м.* бутэлька (*пяцілітровая*). Бутылка пяць

літраў — ета бусел зваўся (Барталамееўка, Ветк., тое ж: Баравікі, Светл.; Акшынка, Ветк., Н.-Паляна, Б.-Каш., Каз. Балсуны, Ветк.).

БУ'СЛЕЦ *м., тое, што* бусел І. Скоро прылеціць буслец (Дзяржынск, Лельч.). *Параўн.* брэтон, бусько, буцян.

БУ'СЛІК *м.* бутэлька *(тры літры).* У буслік налівалі тры літры (Марозавічы, Б.-Каш.) /чарка *(100 грам).* Я ж пахмяліўся, выпіў адзін буслік (Кароткавічы, Жлоб.).

БУ'СЛІКІ *толькі мн.* бусельнік. У буслікаў цвіткі розавенькія, а як адцвітуць, дык як бусліная галоўка (Марозавічы, Б.-Каш.); Буслікі называюць зобікі (Баравікі, Светл.).

БУСЛЯ'НКА *ж.* самка *(бусла).* Буслянка дзелае каток (Баравікі, Светл.).

БУСЬКО' *м., тое, што* бусел І. Бусько ходзіць па балоту (Дзяржынск, Лельч.); Бусько прылецеў, значыць, ужэ цёпло будзе (Бярэзнікі, Жытк.). *Параўн.* буслец, буцян, брэтон.

БУ'СЯЦЬ *незак.* цалаваць. Мая старая аж бусяла мяне (Буда, Рэч.).

БУ'ТАЛЬ *м.* бутля. Налі буталь вады (Н.-Гута, тое ж: Гом. Запясочча, Жытк.); Бутлі-то тры літра, чэцверць па-гасударственнаму (Ст. Краснае, Рэч.); Нашы бутлі ўсе оплецены (Дзяржынск, Нар.).

БУТЛА'ГА *ж.* біклага. Цэлую бутлагу гарэлкі ўнёс (Пераров, Жытк.).

БУ'ХАЛО *н.* барабан. Гармошку ўзяў, а бухало забыўся (Багуцічы, Ельск.).

БУХО'НКА *ж.* аладка. Як ты пякла бухонкі? (Крыўск, Б.-Каш.).

БУХО'НЫ *прым.* пышны. Хлеб такі бухоны вышаў (Апанасаўка, Гом.).

БУ'ЦЫ *толькі мн.* галёшы. Яўхім адзеў красные буцы (Мормаль, Жлоб.).

БУЦЯ'Н *м., тое, што* бусел І. Буцяны ходзяць па балоце (Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* буслец, бусько, брэтон.

БУЧА'К *м.* вулей. А кой-хто зваў вуллі і бучакі (Карма, Добр.).

БУЯНІ'ЦЫ (буяхі) *толькі мн., тое, што* буеніцы. Буяніцы ў нас е, да іх ніхто ні берэ, ад іх дурный робісся (Ручаёўка, Лоеўск.); Пойдзем у буяхі (Асянское, Лельч.).

БУЯ́ШНІК *м., толькі адз.* ягаднік *(буякоў)*. Буя́шніку мала ў нашым лесе (Гармавічы, Жлоб., тое ж: Марозавічы, Б.-Каш.; Баравікі, Светл.; Неглюбка, Ветк.; Падворак, Лельч.).

БУЯ́ШНЫ *прым.* буяковы. Му буя́шны кісель не варымо, его ніхто не хочэ есці (Падворак, Лельч.).

БЫВА́ЛІШНІ *прым.* колішні. Быва́лішні людзі жылі горш (Руднае, Ломуш, Хойн., тое ж: Дворышча, Нараўл.).

БЫК *м.* 1. дамашняя жывёла. Дзядзька дзержыць быка́, а не карову (Баравікі, Светл.); 2. птушка *(водная)*. Быкі́ мы бачылі, па вадзе плаваюць (Навінкі, Калінк.).

БЫ́ЛЛЯ *н.* пер'е *(цыбулі)*. Горача, дык бы́лля ў цыбулі стала сохнуць (Жгунь, Добр.).

БЫ́ЛЬНІК *м.* 1. *тое, што* бульня́к *у* 1 *знач.* Кругом бы́льнік і бы́льнік (Багданавічы, Карм., тое ж: Неглюбка, Ветк.); 2. лебяда. Свіньні бы́льнік больш усяго ядуць (Баравікі, Светл.).

БЫ́РАЧКІ *толькі мн.* коцікі *(на вярбе)*. Вясною на вярбе бы́рачкі (Насовічы, Добр.).

БЫ́СТРА (быстрыні́на, быстры́нь) *ж., толькі адз.* быстрак. Я малады быў і на бы́стрэ баяўся плаваць (Баравікі, Светл.); Месца, дзе цячэнне ракі вельмі хуткае, завуць быстрынінай (Высокае, Раг.); На рэчцы етай быстры́нь малая (Янова, Рэч.).

БЫ́ТТА *часц.* быццам. Ты бы́тта і не знаеш, што гэта цябе датычыць (Насовічы, Добр., тое ж: Барталамееўка, Ветк.).

БЫЧО́К *м.* 1. рыба *(бычок)*. Бычо́к — невялічкая рыбка (Неглюбка, Ветк.); У бычко́ў тоўстыя галовы, але ў нас не ловяць (Бабовічы, Гом.); 2. акурак. Дай бычка́ забіць (Шорахаў, Б.-Каш.); 3. *тое, што* борць *у* 1 *знач.* Занясі бычо́к у лес пастаў. Бычкі ставілі, каб залятали пчолы (Неглюбка, Ветк.).

БЭ́КАЦЬ *незак.* 1. бляяць *(пра авечак, коз)*. Есьці хоча, дай бэ́кае (Засінцы, Ельск., тое ж: Барталамееўка, Ветк.); 2. чытаць *(па літарах)*. Рыгораў хлопец доўга яшчэ будзе бэ́каць (Запясочча, Жытк.). *Парайн.* бя́каць.

БЭ́ЛЬБАХІ *толькі мн.* унутранасці. Скочыла з машыны і ледзь не адбіла ўсе бэ́льбахі (Тураў).

БЭ́ЦЫ *толькі мн.* страва *(бульбяная)*. Надзяры бульбы на бэ́цы, а я мяса круціць буду (Горваль, Рэч.).

БЯГУ́Н *м.* слупок *(у варотах)*. Бягу́н чуць ліпіць, падгніў (Прудок, Калінк., тое ж: Заспа, Рэч.).

БЯДА′ *ж.* тачка. Два кулі мукі бацька прывез на бядзе́ (Асінаўка, Чач.).

БЯДНО′СЬ *толькі адз.* беднасць. Зразу пасля вайны такая бядно́сь ува ўсіх была (Лукі, Жлоб.).

БЯЖКО′М *прысл. тое, што* бе́жка, бе́жкі. Ня бойся, бяжко́м не пабегла (Крыўск, Б.-Каш.); Бяжко́м Аўдакім з'явіўся ў мяне на парозе (Запясочча, Жытк.).

БЯЗДО′ЛЛЕ *н., толькі адз.* няшчасце. Захварэла Зося, такое мне бяздо́льле (Перароў, Жытк.); Як сустрэне бяздо́льле, дык хоць ідзі ды тапіся (Крыўск, Б.-Каш.).

БЯЗДО′ННЕ *н., толькі адз.* сусвет. А калі чалавек памёр, кажуць, душа пайшла ў бяздо́нне (Марозавічы, Б.-Каш., тое ж: Насовічы, Добр.).

БЯЗЛЮ′ДНІК *м., лаянк.* нягоднік. Што вы, бязлюднікі, тут рабілі? (Быч, Карм.).

БЯЗЛЮ′ДНЫ *прым.* скрытны. Бязлю́дны чалавек, у яго ні гаворкі німа, нічога (Кароткавічы, Жлоб.).

БЯЗО′ЎКА *ж.* хустка *(цёплая)*. Мамо, надзень бязо́ўку (Антонаў, Ельск.); Етыя бязо́ўкі добра сціраюцца (Кавака, Браг.).

БЯЗУ′МІНКА *ж.* дошка *(тонкая)*. Бязу́мінкамі можна верх аббіць (Марозавічы, Б.-Каш.).

БЯ′КАЦЬ *незак., тое, што* бэ́каць *у* 1 *знач.* Ідзе адна аўца, бя́кае (Кароткавічы, Жлоб.).

БЯКЕ′Ш *м.* паліто *(мужчынскае)*. Бяке́ш быў зроблены з ваеннага сукна (В. Страякі, Раг., тое ж: Ручаёўка, Лоеўск.).

БЯЛЬЗІ′Н *м., тое, што* більзі́н. Наллі бяльзі́ну (Астрагляды, Браг.).

БЯЛЯ′К I *м.* спадніца *(споднняя)*. Калісь булі ніжнія спадніцы палатняныя с карункамі. Называлісь беля́кі (Быч, Карм.); У будні дзень усе ў беляка́х хадзілі (Заходы, Рэч.).

БЯЛЯ′К II *м.* грыб *(скрыпіца)*. Кажуць, то белякі растуць (Мілашэвічы, Лельч.). *Параўн.* бяля́нка.

БЯЛЯ′НКА *ж., тое, што* бяля́к II. У гэтых мясцінах бяля́нкаў багата (Даманавічы, Калінк.).

БЕРАСЦЯ′НІК *м.* берасцянка *(птушка)*. Берасьця́нік вядзецца на бярозе (Лядцы, Светл.).

БЯРВЕ′НАК *м., толькі адз.* кветка *(лясная)*. Бярве́нак цьвіце сіненькім цветам, у лесі расьце, яго п'юць як лякарства; На сухіх палянках бярвенку многа кожнае лета, бабы зьбіраюць (Ручаёўка, Лоеўск.).

БЯРНО′ *н.* бервяно. Сабіраемся летам на бярно́ (Быч, Карм., Холмеч, Рэч)/*зборн.* бярвенне. Мы прывезлі бярно́ на хату (Палессе, Чач.).

БЯРО′ЗАЎКА *ж.* птушка *(лясная)*. Бяро́заўка — зусім маленькая птушка. Яе і не ўбачыш сярод голляў (Піркі, Браг., тое ж: Насовічы, Добр.; Літвінавічы, Карм.).

БЯРЭ′МАК (бярэ́мянне) *м.* бярэма. Падай мне бярэ́мак сена на воз (Неглюбка, Ветк.); Бярэ́мак дроў прынесла (Бабовічы, Гом., тое ж: Піркі, Браг.; Углы, Нар.); Бярэ́мянне дроў будзя з бурвалка гэтага (Бярозка, Браг.).

БЯСКІ′ШКІ *прым., іран.* худы. Ах ты, чорт бяскі́шкі, цябе ў маракі не возьмуць (Перароў, Жытк.).

БЯССО′ННЕ *н., толькі адз.* бяссонніца. Не спіш ты, я ведаю — бяссоньня (Марозавічы, Б.-Каш.).

## В

ВА′БІК *м.* вулей *(лясны)*. Ва́бік хадзілі ў лес знімаць (Холмеч, Рэч.).

ВАБІ′ЛА *ж.* свісток *(для прынаджвання дзікіх птушак)*. Возьмеш вабіла, свісніш, вуткі і прынаджваюцца (Ручаёўка, Лоеўск.).

ВАВЕРЧАНЁ (ваверчаня́) *н.* дзіцянё *(ваверкі)*. У дупле нашлі ваверчанё (Літвінавічы, Карм.); Ну і верткае ваверчаня́ (Карчовае, Хойн.); Учора мой унук прынёс з лесу ваверчаня́ малэ (Аравічы, Хойн.).

ВАГА′Н *м.* пасудзіна *(драўляная)*. Падай мне вага́на, я проса насыплю (Замосце, Калінк.).

ВАГАНО′К *м., памянш. да* ваган. Прынясі ваганок, я накідаю пячонак (Агалічы, Петр.).

ВАГНЯ′К *м.* болька. У яе вогня́к на ўсю шчаку (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* во́гнік.

ВАГО′НКА *ж.* шалёўка.Ваго́нка пачарнела, мабуць, ад вільгаці (Баравікі, Светл., тое ж: Халочча, Чач.; Кароткавічы, Жлоб.; Хракавічы, Браг.); З ваго́нкі зрабілі клетку (Чырвоная Буда, Добр.).

ВАДАМЕ′Р *м.* павук *(вадзяны)*. Тут недалёка ё копанка, а на вадзе розныя мошкі і вадаме́ры плаваюць (Кароткавічы, Жлоб.); Вунь, паглядзі: вадаме́р (Баравікі, Светл.).

ВАДАМЕ′РНІК *м.* мошка *(вадзяная)*. Па вадзе плаваюць вадаме́рнікі (Сівенка, Ветк.).

**ВА'ДКА** *ж.* прылада *(рыбалоўная)*. Карасёў налавіў ён ва́дкай у Сожы (Палессе, Чач.).

**ВАДЗЕ'НЬ** *м.* авадзень. Вадні́ каню стаяць не даюць (Халочча, Чач.); Ваднёў у гэтым годзе шмат (Неглюбка, Ветк.).

**ВАДЗІ'ЛЬШЧЫК** *м.* асоба *(што водзіць коней)*. Ідзі ты распутуй, а то вадзі коней, будзь вадзільшчыкам (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* важда́й.

**ВАДЗЯ'ГА** *м.* вадзяны. Было мне адзін год, павадзіў мяне вадзя́га па балоту (Баравікі, Светл.).

**ВАДЗЯ'НІК I** *м.* чайнік. Вадзя́нік прадраўся, чай не ў чым грэць (Башыца, Б.-Каш.).

**ВАДЗЯ'НІК II** *м.* мазоль. Паходзіш дзень, дак такія вадзя́нікі панаціраеш (Баравікі, Светл.).

**ВАДЗЯ'НКА** *ж.* пасуда *(для вады)*. Вадзя́нка з вадой стаіць на кухні (Залессе, Чач., тое ж: Стаўбун, Ветк.; Холмеч, Рэч.; Заспа, Рэч.; Палессе, Чач.; Любань, Б.-Каш.); Ваду дзержым мы толькі зімой у вадзя́нках, а летам яе многа не трэба (Церахоўка, Добр.).

**ВА'ЖА** *ж.* гіра *(адзін фунт)*. Палажы ва́жу на вясы, болей не трэба (Кароткавічы, Жлоб.).

**ВАЖАНЁНАК** (важаня́, важаня́тка) дзіцянё *(вожыка)*. Падабраў я тады і важанёнка (Бабовічы, Гом.); Дадому мы маленькае важаня́ ўчора прынеслі (Навінкі, Калінк.); Малы з важаня́ткам гуляе (Ручаёўка, Лоеўск.).

**ВАЖДА'Й** *м., тое, што* вадзільшчык. Ён буў увесь час важда́ем (Піркі, Браг.).

**ВА'ЖКІ** *прым.* густы. Наварыла такога ва́жкага супа што не можна павярнуць (Перароў, Жытк.).

**ВА'ЖЫЦЦА** *незак.* вагацца, хістацца. Ён усё яшчэ ва́жыўся: ісці яму туда ці не (Баравікі, Светл.).

**ВАЗА'К** *м.* конь *(вазавы)*. Вaза́к харошы быў у суседа (Неглюбка, Ветк.).

**ВА'ЗКА** *ж.* каструля *(вялікая)*. Параная бульба свінням стаіць вунь у ва́зкі (Шалухоўка, Ветк.).

**ВАЙТАВА'ЦЬ** *незак.* працаваць. Ох, павайтава́ўся сёдня (Неглюбка, Ветк.).

**ВАКЕ'ННІЦА** *ж.* аканіца. Красівыя вakéнніцы дзелаюць у Гомелі і Рэчыцы (Баравікі, Светл., тое ж: Нісімкавічы, Чач.).

**ВАКО'РАК** *м.* шынка. Зяць самастойна капціў вако́рак (Башыца, Чач.); Такія вако́ркі сёлета добрыя атрымаліся (Холмеч, Рэч.).

ВАЛА′ *ж.* валок *(сена)*. Пакосы варочаць, грабуць у валу́, кладуць копы (Баравікі, Светл.).

ВАЛАВО′Д *м.* вяроўка. Дай мне валаво́д, казу трэба прывезаць (Засінцы, Ельск.).

ВАЛАМЕ′КІ *толькі мн., бат.* васількі. Як валаме́кі разрасліся ў жыце (Піркі, Браг.).

ВАЛАСЕ′НЬ *ж.* рана. Вельмі ж доўга не зажывае валасе́нь (Гармавічы, Жлоб.).

ВАЛАСЯ′НКА I *ж.* матрац *(травяны)*. Напухай валася́нку (Махновічы, Маз.).

ВАЛАСЯ′НКА II *ж.* грыб *(ядавіты)*. Валася́нкі светла-розавыя, му іх не бярэм, ба не вмеем варыць (Бараваое, Лельч.); Валася́нкі не ядуць (Беразнякі, Петр.).

ВАЛАТО′ЎКА *ж.* курган. З валато́ўкі былі відаць ужо нашы хаты (Баравікі, Светл.).

ВАЛАЦНЯ′ *ж.* прыстасаванне *(з дубцоў для сцягвання коп)*. Валацнёй можна перацягнуць пяць і больш коп (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВАЛАЦЭ′НЬКА *ж., памянш. да* валацня́. У валацэ́нькі ўкладалі дзве-тры капы (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВАЛАЧО′ННЕ *н.* валачобнае. Хадзем к цётцы, яна дасць валачо́нне (Махновічы, Маз.).

ВАЛАЧЫ′ЦЬ *незак.* баранаваць. Так зарасло, што прышлось валачы́ць у тры сляды (Калінін, Хойн.).

ВА′ЛАШАЦЬ *незак.* кастрыраваць. Сення Іван да сябе ветырынара пазваў, той будзе яму парася ва́лашаць (Заспа, Рэч.).

ВАЛБУ′КА *ж.* нараст *(на дрэве)*. Вунь валбу́ка якая парасла на дрэве (Халочча, Чач.)/нарыў, болька, нарост. Валбу́ка нейкая ўскочыла (Апанасаўка, Гом.).

ВА′ЛЕЦ *м.* жорны. Ва́льцы трэба падрамантаваць (Піркі, Браг.).

ВАЛІ′ЗА *аг., неадабр.* неахайная. Такую валі́зу браць замуж ніхто не хоча (Перароў, Жытк.).

ВАЛІ′ЗКА *ж.* чамадан. Учора к Орыні прыехаў сын з поўнай валі́зкаю (Бярэзнікі, Жытк.).

ВА′ЛІШЧА *н.* месца *(валкі лесу)*. На тым вунь ва́лішчы вогнішча гарыць (Бабовічы, Гом.).

ВА′ЛКА *ж.* група *(людзей)*. Пойдзе цяпер другая ва́лка (Быч., Карм.).

ВАЛО′КА I *ж.* дрыгва. Трэба ісці ў вало́ку да нажаць травы карові (Завайць, Нар.).

ВАЛО′КА II *ж.* вяроўка. Завяжы салому вало́кай і нясі ў пуню (Камаровічы, Петр.).

ВАЛО'КА III *ж.* шнурок. Замяні ў чобатах вало́кі, зусім парваліся (Буйнавічы, Маз.).

ВАЛО'КА IV *ж.* барана. Клім, будзеш ісці з калхознага двара, дак захвацi з сабою вало́ку (Астрагляды, Браг.).

ВАЛЬБУ'КА *ж., тое, што* валбу́ка. На руцэ ўскочыла нейкая вальбу́ка, і нічога нельга рабіць (Хальч, Гом., тое ж: Шарын., Ельск.).

ВАЛЬЦО'ЎКА *ж.* шатроўка. Вальцо́ўка ішла для розных страў (Марозавічы, Б.-Каш.); Ета ўжо перад вайной вальцо́ўку малолі ў Злобіне (Кароткавічы, Жлоб.); Я прывезла з Гомеля вальцо́ўкі (Дубраўка, Добр., тое ж: Неглюбка, Ветк.; Кароткавічы, Жлоб.).

ВАЛЯВА'ХА *ж., зневаж.* лянівая. Ідзі, валява́ха, спі (Славань, Светл.).

ВАНЦЭ'ЛАК *м.* вузел. Маладой усё прыданае звязалі ў вялікі ванцэ́лак і пагрузілі на машыну (Заспа, Рэч.); Сабяры бялізну ў ванцэ́лак (Ломаш, Хойн.).

ВАРА'ВА *ж.* мноства. Вара́ва прыйшла цэлая, чаму ж не зрабіць (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВАРАЖЫ'НА *аг.* злодзей. Нейкі варажы́на хустку ўкраў (Неглюбка, Ветк.).

ВА'РАНКІ *толькі мн.* грыбы *(вараныя)*. Паспутай маіх ва́ранкаў, учора ж набрала (Даманавічы, Калін.).

ВАРГО'ШКА *ж.* вяргіня. Вырві мне варго́шку (Антонаў, Ельск.).

ВАРО'НКІ *толькі мн.* 1. *тое, што* ва́ранкі. У цібеваро́нкі як з хвабрыкі. Адны лісіцы буваюць варо́нкі (Баравое, Лельч.); 2. вараная бульба. Мае варо́нкі такія вадзяныя, што хоць ты свінням выкідай (Яланы, Светл.).

ВАРСАНУ'ЦЬ *зак.* штурхнуць. Паспрабуй толькі варсану́ць (Кабанаўка, Жлоб.); Цябе пакуль не варсане́ш, дык тольку не будзе (Грушаўка, Добр.); Марусіну карову на падстве другая варсану́ла, яна праз нядзелю падохла (Асінаўка, Светл., тое ж: Гарадзец, Раг.; Дубраўка, Добр.; Зарэчча, Жлоб.); Ён засердзіўся да й варсану́ў яго ад сябе (Гарадзец, Раг.).

ВАРХАВА'ЦЬ *незак.* арфаваць. Будзь дома, я пайду вархава́ць зярно (Шылавічы, Б.-Каш.).

ВАРЧАКО'ВЫ *прым.* конь *(прыпрэжаны)*. Добры варчако́вы быў у мяне (Неглюбка, Ветк.); Варчако́вы конь саўсім прыстаў (Норкаўшчына, Карм.); Відаць, будзе моцны еты конік варчако́вы (Палессе, Чач.).

ВАРЫ'ЎНЯ *ж.* 1. склеп. Дзядзька Антось прынёс з

варыўні гуркі (Сафіеўка, Маз., тое ж: Буйнавічы, Маз.); Ідзі ў варыўню ды набяры агуркоў (Іванкаўшчына, Маз.); 2. бочка *(для засолу)*. Варыўня стаіць у каморы (Камаровічы, Петр.).

ВАРЭ'ЕЧКА *ж., памянш. да* варэйка. Мне ж ня трэба вялікіх гаршкоў, а хваціць і варэечкі (Навінкі, Калінк.); Маленькіх варэечак шмат ё ў нас (Піркі, Браг.); У варэечках добра варыць (Кароткавічы, Жлоб.).

ВАРЭ'ЙКА *ж.* гаршчок. У нас «гаршчок» не кажуць, у нас — варэйка (Баравікі, Светл., тое ж: Белы Пераезд, Петр.; Грабаў, Петр.; Іванаўка, Хойн.; Красная Ніва, Хойн; Ухаў, Ветк.); Сямейка дай божа, ні адну варэйку з'ядуць (Горваль, Рэч., тое ж: Багданавічы, Карм.; Залессе, Чач.; Камаровічы, Петр.; Навасёлкі, Петр.; Хвойнае, Хойн.); Там шчэ трохі шчавелю асталося, вылі з варэйкі (Уваравічы, Б.-Каш., тое ж: Капань, Рэч.; Навінкі, Калінк.); У варэйцы ежа смашней (Капань, Рэч., тое ж: Асінаўка, Чач.; Забалоцце, Раг.; Кабанаўка, Жлоб.; Любань, Б.-Каш.; Марозавічы, Б.-Каш.; Перароў, Жытк.; Хвойнае, Хойн.).

ВАСЕ'НКА *ж.* ягня *(асенняе)*. Ля Яхімавай хаты машына васёнку задавіла (Неглюбка, Ветк.).

ВАСІЛЁК I *м.* смарчок. А я ўсё брала, што пападалась: і васількі, і валнушкі, і маслёнкі (Каравацічы, Рэч.).

ВАСІЛЁК II *м.* гатунак *(бульбы)*. Васілёк — кругленькая такая бульба (Насовічы, Добр.).

ВАСКАВІ'К (васко́віцель) *м.* мяшок *(для воску)*. Вазьмі кусок палатна да й сшый клінком, ну да й васкавік палучаецца (Іванаўка, Хойн., тое ж: Антонаў, Ельск.; Дзяміды, Ельск.); Яшчэ многа ў васкавіку́ воску (Холмеч, Рэч.); Васкаві́цель — ета такі мяшок для воску (Неглюбка, Ветк.).

ВАСКАДА'ВА *ж.* квас *(васковы)*. А табе трэба піць васкада́ву, каб трохі поздоровець (Макарычы, Петр.).

ВАСЬМЁРКА I *ж.* дошка *(таўшчынёй восем сантыметраў)*. Завёз у двор воз васьмёрак (Піркі, Браг.).

ВАСЬМЁРКА II *ж.* каса. Купіў сабе касу васьмёрку (Багданавічы, Карм.); Я, напрыклад, васьмёркай кашу (Піркі, Браг., тое ж: Баравікі, Светл.).

ВАСЬМЯРЫ'К *м* лямпа. Васьмяры́к — ета ўжо больш пяцярыка, трохі толькі (Піркі, Браг.).

ВА'ТАРАП *м.* сварка. Бабы ўзнялі ва́тарап (В. Нямкі, Ветк.).

ВА́ТНІКІ *толькі мн.* штаны *(ватныя).* У ва́тніках добра зімой у лес па дровы ездзіць (Рафалаў, Браг.).

ВАТО́ЎКА *ж.* фуфайка. Вато́ўку толькі для свята блюдзеш! (Быч, Карм., тое ж: Запясочнае, Маз.; Капань, Рэч.; Раманавічы, Гом.); А гэта вато́ўка табе вельмі кароткая (Зладзін, Маз.); Хоча мая дзеўка сабе яшчэ вато́ўку зрабіць (Буйнавічы, Маз.).

ВАТРУБЯ́НКА *ж.* вантрабянка. Каўбаса добрая, а мая дачка прасіла прыслаць ёй ватрубя́нку (Навінкі, Калінк.).

ВАТРУ́СІЦЦА *незак., зневаж.* сланяцца. Не ватру́сся тут (Стаўбцы, Ветк.).

ВАТЭ́ТАЧКА *прым.* маленькая. Была вата́тачка, а прыехала, то ўжо за маці большая (Перароў, Жытк.).

ВА́ЎКА *ж.* балячка, нарыў, рана. Каб ты толькі ведала, як баліць мая ва́ўка (Жгунь, Добр.); Баляць у яго беднага ва́ўкі, ажна плача (Махновічы, Маз.).

ВАЎКАВА́ТЫ *прым.* злосны, сярдзіты, хмуры. Вось нейкі ваўкава́ты стаў (Навасёлкі, Петр.).

ВАЎКАЛА́КА *ж.* 1. ваўкалак. Кажуць усе, ён мо ваўкала́ка (Холмеч, Рэч.); 2. ваўчыца. У піліпаўку ваўкала́ка раз па дзярэўні хадзіла (Неглюбка, Ветк.).

ВАЎКАРЭ́ЗІНА *ж., груб.* крык *(на каня).* Но-о! Ваўкарэ́зіна ты. Хіба дубца на цябе вазьму, будзеш бегці (Успалішчы, Жлоб.).

ВАЎКАЎНЯ́ *ж.* хата *(халодная, пустая).* У тваёй ваўкаўне́ зімою хоць сабак ганяй (Галубіца, Петр., тое ж: Заспа, Рэч.).

ВАЎКАЧЭ́ЧА *ж., толькі адз.* чарада ваўкоў. У піліпаўку за Дняпром заўсёды блукае галодная ваўкачэ́ча (Заспа, Рэч., тое ж: Каравацічы, Рэч.; Перароў, Жытк.).

ВАЎЧА́ЧЫ *прым.* воўчы. Ваўча́чы след пайшоў у сяло (Забалоцце, Раг.).

ВАЎЧУ́ГА *м.* воўк. Апанас, як той ваўчуга, ходзіць па двару і ні з кім не гаворыць (Запясочнае, Жытк.).

ВАШО́ЧЫЦЦА *незак.* валачыцца. Кіне ўсё і вашо́чыцца кудысьці (Піркі, Браг.).

ВА́ШЧУРКА *ж.* яшчарка. Я так спужаўся ў лесе ва́шчуркі (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ВЕ́ЗЕНКА *ж.* хустка *(вязаная, бавоўняная).* Ету ве́зенку мне сын прывёз (Шылавічы, Чач.).

ВЕРАШЧА́К *м.* верашчака. На верашча́к да мяне сёння прыходзь (Лукі, Жлоб.).

ВЕ́РБІНА *ж.* вярба. Ты толькі слухай яго: ён табе скажа, што на вербіне ігрушы растуць (Палессе, Чач.).

ВЕ́РВА *ж.* вяроўка. Ты вазьміся за вервы і пагушкай дзіця, каб яно хутчэй заснула (Заспа, Рэч.).

ВЕРХАЎЁ *н.* смятана. Вазьмі ўсё верхаўё і збі масла к абеду (Камаровічы, Петр.).

ВЕ́РЦЕНЬ *м.* 1. вецер. Ну і верцень сення (Камаровічы, Петр., тое ж: Макарычы, Петр.); 2. нячыстая сіла. Што скачаш, нібы цябе верцень круціць (Макарычы, Петр.).

ВЕРЧ *м.* скрутак. Трэба намачыць верч лазы (Хвойнае, Хойн.); Падай мне верча, я лапці папляту (Замосце, Калінк., тое ж: Піркі, Браг.); Прынясі некалькі верчоў (Антонаў, Ельск., тое ж: Бярозкі, Браг.).

ВЕ́РЧЫК *м. памянш. да* верч. Прынясі мне верчык, там на плятні вісіць (Кароткавічы, Жлоб., тое ж: Марозавічы, Б.-Каш.).

ВЕ́РША *ж.* венцер. Вершы ў нас пад лёд спускаюць (Засінцы, Ельск.); У нас многія ловяць вершай (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВЕРШАЛІ́НА *ж.* верхавіна. Вершаліна на дзераве была вышэй за стоўп (Пагост, Жытк.).

ВЕРШНЯЧКІ́ *толькі мн.* фіранкі. Трэба павесіць новыя вершнячкі на вокны (Маркавічы, Гом.).

ВЕ́СЛІЦА *ж.* лесвіца. А наш дзядзька новую весліцу зрабіў (Стаўбун, Ветк.).

ВЕСНАВО́Е *н.* рунь. Добрае ў гэтым годзе веснавое (Насовічы, Добр.).

ВЕ́СНІЦА *ж., толькі адз.* весніцы. Стаяла Валя каля весніцы свайго дворыка (Белы Пераезд, Петр.).

ВЕСЯЛЕ́Ц *м.* журавель. Як прыляціць весялец, то ўжо і будзе вясна (Дзяржынск, Лельч.); З прылётам весяльцоў пачынаецца вясна (Ліпляны, Лельч.).

ВЕСЯЛУ́ХА *ж.* грыб. Толькі адзін раз у сваім лесе нашла веселуху (Ручаёўка, Лоеўск.).

ВЕ́ТЛА *ж.* лаза.Наламі ідзі ветлы, нехай распускаецца (Крупка, Маз.).

ВЕТРАНІ́К *м.* вятрак. Быў калісь драўляны ветранік, работаў я доўга там (Кароткавічы, Жлоб.); У нашым сяле застаўся шчэ з даўняга ветранік (Замосце, Калінк.).

ВЕ́ТРАНІЦА I *ж.* пралеска. На вятру гойдаліся белыя кветкі ветраніцы (Неглюбка, Ветк.).

ВЕ́ТРАНІЦА II *ж.* франтон. Без іх салома ад ветру

павырываецца, патаму іх і завуць ве́траніцы (Косаль, Карм., тое ж: Карма, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.); Разам з падшыўкай дзелаюць ве́траніцу, штоб не зрывала з крыш (Раманавічы, Гом., тое ж: Рудня, Чач.; Янава, Ветк.); Ве́траніцамі мы прыкрапляем салому (Забалоцце, Раг.).

ВЕТРАНІ́ЦА *ж.* воспа (*ветраная*). На хлопца ветраніца напала (Пярэдзелка, Лоеўск.); Пасля ветраніцы застаюцца слядочкі (Піркі, Браг.).

ВЕ́ТРЫЦЬ *незак.* 1. веяць *(збожжа)*. Трэба ве́трыць жыта ды везці ў млын (Пераро́ў, Жытк.); Я сятонні жыта сваё ве́трыла (Стараград, Раг.); Цётка мая ве́трыла жыта на дварэ, а ёй у вока папала парушынка (Заспа, Рэч.); 2. дзьмуць *(аб ветры)*. Так і ве́трыць каля яго хаты (Перароў, Жытк.); 3. *перан.* круціцца. А вона коло его всё і ве́трыць (Перароў, Жытк.).

ВЕ́ХА *ж., бат.* 1. цыкута. Ве́ха — ета паганая трава, ена расце дзе-нібудзь па балоту, дак еслі скаціна ее з'есць, дак можа пагібнуць (Ручаёўка, Лоеўск.); Ад ве́хі скаціна можа пагібнуць (Пярэдзелка, Лоеўск.); 2. пладаносная частка сцябла проса. Як уродзіцца проса, дак ве́хі аж да зямлі гнуцца (Холмеч. Рэч.); 3. вехаць. От уткнуць на палку ве́ху, і адну, дзве, тры пастаўяць з ветак, як мятла, рой і зав'ецца (Баравікі, Светл.).

ВЕ́ХАЦЬ I *ж.* 1. мачала. Ве́хаць жа — гэта пук саломы або пыраю (Марозавічы, Б.-Каш.); Наша дзяжа просіць ве́хця і нажа (Асінаўка, Чач., тое ж: Мормаль, Жлоб.; Уць, Добр.; Целяшы, Гом.); Нарвала сабе ўчора травы на ве́хці (Бабовічы, Гом., тое ж: Апанасаўка, Гом.; Быч, Карм.; Грушаўка, Церах.; Галоўчыцы, Нар.; Меркулавічы, Чач.; Марозавічы, Б.-Каш.; Ракопаўка, Добр.; Холмеч, Рэч.; Ухаў, Ветк.); Тук з пасуды добра ве́хцем змываць (Заспа, Рэч., тое ж: Астрагляды, Браг.; Баравікі, Светл.; Залессе, Чач.; Любань, Б.-Каш.; Марозавічы, Б.-Каш.; Маркавічы, Гом.; Насовічы, Добр.); 2. хвошч. Ве́хаць і ёсць хвошч такі, завецца яшчэ хвашчанка (Асінаўка, Чач.).

ВЕ́ХАЦЬ II *ж.* няшмат, мала. Засталося ў гумне ве́хаць жыта (Баравікі, Светл.).

ВЕ́ХЦІК *м., памянш. да* ве́хаць *у* 1 *знач.* Што ты шкрабеш ногцямі чыгун, вазьмі ве́хцік дай муй (Навінкі, Калінк., тое ж: Іванаўка, Хойн.; Кароткавічы, Жлоб.; Уваравічы, Б.-Каш.); Памый гладыш ве́хцікам (Дзям'янкі, Добр., тое ж: Неглюбка, Ветк.).

ВЕЦІНА́Р *м.* ветэрынар. Вецінáра нада пазваць (Неглюбка, Ветк.); Ідзі к вецінáру карове бокі пабіла (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* віцінáр.

ВЕ́ЦЬЕ *н., зборн.* насенне. Усё вéцье было сабрана ў бачурку (Замосце, Петр.).

ВЕ́ЯНКА *ж.* арфа. Вéянка — гэта што зерне веюць (Насовічы, Добр.).

ВЁТЛА *ж.* лаза. Увесь агарод абсадзілі сёлета вётламі (Злодзін, Маз.).

ВІД I *м.* твар. А від жа его які красівы (Марозавічы, Б.-Каш.); Від жа ў яе нішто (Перароў, Жытк., тое ж: Пясчанікі, Жытк.; Буйнавічы, Маз.; Тураў, Гом.).

ВІД II *м.* паштоўка. Пагледзі, екі прыгожы прынеслі від (Буйнавічы, Маз.).

ВІДРЫ́НА *ж.* адрына. Я схаджу ў відрыну і набяру саломы (Багуцічы, Ельск.).

ВІ́ДУЧЫ *прысл.* хутка. Учора Алесь прышоў віду́чы (Карчовае, Хойн.).

ВІДЗЕ́ЛЬЦА *н.* відэлец. Дзесь нема майго відзéльца (Галоўчыны, Нар.). *Параўн.* відзёлка.

ВІДЗЁЛКА *ж., тое, што* відзéльца. Дай мне відзёлку, я тут крышанчык мяса вазьму (Заходы, Лельч.); Яна раскладвала відзёлкі, лыжкі (Амелькаўшчына, Хойн., тое ж: Бабовічы, Гом.; Навінкі, Калінк.); Мяса ядзім рукамі, а калі і відзёлкамі возьмеш (Маркавічы, Гом., тое ж: Дуброўка, Добр.; Славань, Светл.).

ВІ́ДЗІК *м.,* памянш. *да* від II. Ві́дзік з кветкамі (Іванаўка, Хойн.); Сын з арміі прыслаў ві́дзік, на тым ві́дзіку цвяты (Палессе, Чач.); Прысылаў Макар з салдатаў мне колькі раз розныя ві́дзікі, не забуваў (Буйнавічы, Маз.); Хто табе, Валя, ві́дзікаў прыслаў? (Белы Пераезд, Петр.).

ВІЗІ́РА *ж.* прасека. Па візіры трактарам успашуць пясок (Баравікі, Светл.).

ВІ́КІШЧА *ж.* салома *(вікавая).* Ві́кішча скачалі ўчора ўдзень (Калінін, Хойн.). *Параўн.* ві́чанка.

ВІКО́ВІШЧА *н.* поле *(пасля ўборкі вікі).* То ж і вікóвішча ёсць (Ручаёўка, Лоеўск.); Будуць араць вікóвішча (Бывалькі, Рэч.); На вікóвішчы добрае што не сеюць, віка ўсю зямлю ўсмактвае (Пагоннае, Хойн.). *Параўн.* ві́чанне, ві́чышчэ ў 2 знач.

ВІЛА́КІ *толькі мн.* дрэва *(разгалінаванне).* Так то бервяно можна добрае найсці, а вот з вілакáмі для калодзежа цяжэй (Быч., Карм.).

ВІ'ЛАЧНІК (вілашнік) *м.* 1. вілкі. Вілачнік стаяў у куце (Вышалаў, Петр.); 2. ручка *(вілок)*. У маёй вілкі зламаўся вілачнік (Піркі, Браг.); Палка ў вілках называецца вілашнік (Асінаўка, Чач., тое ж: Бабовічы, Гом.; Петравічы, Раг.; Холмеч, Раг.); На драўляны вілачнік надзяюць жалезныя вілкі (Баравікі, Светл., тое ж: Грабаў, Петр.; Запясочнае, Лельч.; Заходы, Лельч.; Забалоцце, Раг.; Марозавічы, Б.-Каш.; Маркавічы, Гом.; Насовічы, Добр.; Церахаўка, Добр.); К вілкам зрабілі новы вілашнік (Амелькаўшчына, Хойн., тое ж: Апанасаўка, Гом.; Асінаўка, Чач.; Кароткавічы, Жлоб.; Любань, Б.-Каш.; Багданавічы, Карм.; Заспа, Рэч.; Меркулавічы, Чач.; Церахоўка, Добр.); Для вырабу вілашнікаў лепш падыходзіць бяроза (Уць, Добр.); Дліннымм вілашнікам ямчэй вымаць гаршкі (Залессе, Чач.); 3. месца *(каля печы для вілак)*. Вілачнік, ці качарэжнік, каля печы блізка, каб лягчэй вілкі браць (Марозавічы, Б.-Каш.); У вілачніку сабралася смецце (Насовічы, Добр., тое ж: Церахоўка, Добр.); Венік у вуглу ў вілашніку стаіць (Апанасаўка, Гом., тое ж: Целяшы, Гом.; Бабовічы, Гом.).

ВІЛЬГО'ТА *ж.* выгода, вальготнасць. Цяпер вільгóта маладым і старым (Быч, Карм.).

ВІ'ЛЬНІК *м. тое, што* вілачнік (вілашнік) *у 2 знач.* Хуценька памый вільнік (Насовічы, Добр.).

ВІ'ЛЬЧЫК *м.* вяршыня *(дрэва)*. Усё абрубалі, астаўся адзін вільчык (Неглюбка, Ветк.); Глядзі, як хутка залез у самы вільчык (Тульгавічы, Хойн.).

ВІЛЮ'ЖКА *ж.* узор *(вязанне)*. Світары мы ў вілюжку вяжам (Каравацічы, Рэч.).

ВІ'ННЫ *прым.* вінавáты. Хіба етае дзіця віннае? (Шарын, Ельск.).

ВІНЕЎКА *ж.* гатунак *(груш)*. Вінёвак няма ў нас, хіба ў калхозным садзе (Піркі, Браг.).

ВІРГЛІ'НА *ж.* вяргіня. У палісадніку цвялі віргліны (Капань, Рэч.)

ВІРО'ТНЫ *прым.* падобны. Наш Міхалка — віротны бацька, ну проста адзін твар (Безгінавічы, Маз.).

ВІРХНЯ'К *м.* бэлька. Вірхняк дзержа луткі на распор (Косаль, Карм.).

ВІР'Я'НКА *ж.* валяр'ян. З вір'янкі лякарства дзелаюць (Неглюбка, Ветк.).

ВІТО'К *м.* рой. Вітóк павіс на дрэве (Холмеч, Рэч.).

ВІТУ'ХА *ж.* фасоля *(уюнок)*. Вітýха ўрадзіла ў гэты

год (Астрагляды, Браг.); Віту́ху трэба садзіць каля плоту (Капараўка, Рэч.).

ВІТУ́ШКА *ж., памянш. да* віту́ха. Пара ставіць колля пад фасолю-віту́шку (Залессе, Чач., тое ж: Забалоцце, Раг.); Віту́шку выгадна садзіць: яна дае добры ўраджай (Казялут, Хойн.); Пойдзем прынясём цапкоў для віту́шкі (Халочча, Чач.).

ВІХРАВА́ТЫ *прым.* шчаціністы. У Ганны віхрава́тая свіння (Неглюбка, Ветк.)

ВІЦІНА́Р *м., тое, што* вецiна́р. К нам прыехаў новы віціна́р і сённі ўколы каровам даваў (Бабовічы, Гом., тое ж: Сяўкі, Лоеўск.); Яго скінулі з работы з віціна́ра, дак у калгас ходзіць (Ручаёўка, Лоеўск.); Вадзіла карову к віціна́ру, нешта захварэла (Азяраны, Раг.); З віціна́рам сённі пра карову гаварыла (Неглюбка, Ветк.).

ВІЦІНА́РКА *ж.* ветэрынарка. Схадзі пазаві віціна́рку (Заходы, Рэч.).

ВІ́ЧАНКА *ж., тое, што* вікішча. Вічанку звозілі ў стагі (Майскае, Жлоб.).

ВІ́ЧАННЕ *н., тое, што* віко́вішча. Калі скосяць віку, застаецца ві́чання (Літвінавічы, Чач.).

ВІ́ЧЫШЧЭ *н.* 1. віка. Ві́чышчэ далі каровам (Верасніца, Жытк.); 2. *тое, што* віко́вішча. Ві́чышчэ засеялі просам (Верасніца, Жытк.). *Параўн.* ві́чанне.

ВІШ *м.* 1. іней. Як рана віш усёлета (Неглюбка, Ветк.); 2. трава *(леташняя)*. Трэба прывезці вазок вішу на падсцёл карове (Багуцічы, Ельск.); Хома, вазьмі вішу да падсцелі карові (В. Бярэзнікі, Жытк., тое ж: Мілашэвічы, Лельч.).

ВІША́НКА *ж.* матрац. Напхай віша́нку сенам (Славань, Светл.).

ВІША́Р *м., бат.* пажарніца. Віша́р у лесе расце, яго каторая карова есць, а каторая і не (Марозавічы, Б.-Каш.); Віша́р на нізкіх месцах расце, як арэй, толькі кружочкамі (Холмеч, Рэч.)/атава. Некалькі вазоў укасіў віша́ру, дык нема чым прывезці (Грушаўка, Ельск.); Саўгас летам усяго сена не пакосіць, будзем зімою віша́р касіць (Асінаўка, Светл.).

ВІШЭ́ЦЬ *незак.* вянуць. У садзе ў цяні бульба пачала вішэ́ць (Астрагляды, Браг.).

ВО́Б'ЕДЗІ *толькі мн.* аб'едкі Во́б'едзі ў гной выкінь. Некалі вясною сена не будзе, то і воб'едзям будзе рада, а цяпер перабірае (Пераpоў, Жытк., тое ж: Пясчанікі, Жытк.).

ВО́БЛЕВЕНЬ *м.* галалёдзіца. Ужо ўчора во́блевень пакрыў галінкі дрэў. Ух жа велікі во́блевень буў пазалетась (Піркі, Браг.). *Парайн.* во́блівень, во́бліў.

ВО́БЛІВАК *м.* вылівак. У мяне толькі адзін раз буў во́блівак (Піркі, Браг.).

ВО́БЛІВЕНЬ (во́бліў) *м., тое, што* во́блевень. Во́блівень такая, што не прайсці (Неглюбка, Ветк.); Пройдзя дождж зімой і пасля замірзая — ета і во́бліў (Палессе, Чач.); Закачанелі ад во́бліву дзераўцы (Янова, Ветк.).

ВО́БМЕШКА *ж., толькі адз.* мука *(для корму жывёлы)*. Трэба было во́бмешкі змалоць да пачаць карміць кабанчыка (Дзвіжкі, Ельск.).

ВО́БУЙ *м.* абутак. Палажыла во́буй у куток (Неглюбка, Ветк.); Летнего во́бую прывезлі ў магазін багата (Холмеч, Рэч.).

ВО́ГЛАМ *прысл.* толькі. Во́глам тры штучкі (Славань, Светл.).

ВО́ГНІК *м., тое, што* вагня́к. Во́гнік быстра праходзіць (Піркі, Браг.); Высыпаў во́гнік па ўсяму твару (Баравікі, Светл., тое ж: Холмеч, Рэч.; Буйнавічы, Лельч.; Ручаёўка, Лоеўск.; Малыя Аўцюкі, Калінк.); Балячкі вакол рта завуцца во́гнікам (Гармавічы, Жлоб.).

ВО́ДЗЕВО (во́дзяка) *прысл.* тут. Да калхозаў мы жылі во́дзево, у Ражку, ля саўхоза (Прыстанскае, Камарынск.); Во́дзяка травы багато (Ломыш, Хойн.).

ВО́ЖКІ *ж., толькі мн.* лейцы. Во́жкі закруціліся за аглаблю (Норкаўшчына, Карм., тое ж: Асінаўка, Чач.; Кароткавічы, Жлоб.); Няма ў мяне во́жак (Забалоцце, Ветк.); Глянь, конь пераступіў во́жкі (Неглюбка, Ветк., тое ж: Дубраўка, Добр.); Во́жкамі правіў малы хлопец (Стаўбун, Ветк., тое ж: Марозавічы, Б.-Каш.).

ВО́ЖЫЧЫХА *ж.* самка *(вожыка)*. Во́жычыха з важыняткамі (Наглюбка, Ветк., тое ж: Навінкі, Калінк.).

ВО́ЛАС *м.* рана. Што мне рабіць, што во́лас ніяк не зажывае (Буйнавічы, Лельч., тое ж: Баравікі, Светл.); У майго яшчэ дзеда быў во́лас (Забалацце, Раг., тое ж: Бабовічы, Гом.).

ВО́ЛЕК *м.* (во́лека *ж.*) верхняя частка калоды. Спачатку ў калодзе разьлічваюць во́лек — гэта верх яе (Піркі, Браг.); Во́лека знаходзіцца ўверху калоды (Кароткавічы, Жлоб.); Прывезлі калоды, а ў іх адразу разлічылі во́лекі (Малыя Аўцюкі, Калінк.).

ВО'ПУХ *м.* (во́пухаль *ж.*) пухліна. Мой малы ўпаў з печы, дык во́пух з лоба ніяк не сходзіць (Буйнавічы, Лельч., тое ж: Ручаёўка, Лоеўск.); Во́пухаль у мяне наназе ўжэ палягла (Хутар, Светл., тое ж: Грабаў, Петр.; Бабовічы, Гом.); У мяне сільная во́пухаль на руцэ (Ломыш, Хойн., тое ж: Марозавічы, Б.-Каш.; Бабовічы. Гом.).

ВО'РАК *м.* мяшочак (*для сыру*). Без во́рока сыру не зробіш (Галоўчыцы, Нар.).

ВО'РАТА *толькі адз.* памылка (*пры снаванні кроснаў*). Нешто ты цяпер во́рото за во́ротом робіш (Тонеж, Лельч.).

ВО'РЧЫК *м.* конь (*прыпрэжаны*). Упражы во́рчыка. (Неглюбка, Ветк.).

ВО'СВА *ж.* аса. Во калі-та нядаўна заляцела во́сва ў хату, дык напужала маіх унукаў да смерці (Халочча, Чач.).

ВО'СЕЦЬ *ж.* сушылка (*для збожжа*). У во́сеці сушылі віку, гарох (Бывалькі, Рэц.); У во́сець звозілі лён (Пагоннае, Хойн.)

ВО'ТВЕДЫ *толькі мн.* наведванне (*парадзіхі*). Пячы наліснікі да хадзем у во́тведы (Махновічы, Маз.).

ВО'ТКІДЗЕНЬ *м.* верацяно (*з пражай*). Напрала два во́ткідні (Славань, Светл.).

ВО'ТЧЫМ *м.* айчым. Во́тчым міне біў як сідараву казу (Любань, Б.-Каш., тое ж: Багданавічы, Карм.); У во́тчыма было двое дзяцей, да нас чэцвера, а нічога сабе — мірыліся (Краўцоўка, Гом.); Пасынак з во́тчымам паехалі на завод (Ваявода, Гом.).

ВО'ЦЦІЧ *м.* пчаляр. Во́цціч у нас звалі (Неглюбка, Ветк.).

ВО'ЧАПКА *ж.* ручка (*у кашэлі*). Во́чапка парвалася (Махновічы, Маз.).

ВО'ЧКА *ж.* газоўка. Запаліла во́чка і чытала да раняя (Шылавічы, Б.-Каш.).

ВРУ'НА *ж.* рунь. Можна па вру́не і тавар паставіць, як падмерзне трохі (Баравікі, Светл.).

ВУГНА'ТЫ *прым.* гугнявы. У мяне матка вугна́тая (Неглюбка, Ветк.).

ВУДА'Р *м.* вудзільшчык. А з яго добры вуда́р выйдзя (Стаўбун, Ветк.).

ВУДЗІ'ЛА *н.* вудзільна. От сабе ж вудзіла зрабіў (Ручаёўка, Гом.).

ВУ'ДКА *ж.* вудачка. Ву́дка добрая, калі зроблена

з арэшніка (Піркі, Браг., тое ж: Стаўбун. Ветк.; Старажоўцы, Жытк.; Багданавічы, Карм.).

ВУЖА'КА I *ж.* вуж. Вужáкі нада баяцца (Неглюбка, Ветк.).

ВУЖА'КА II грыб *(ядавіты)*. Вужáкі не ядуць (Неглюбка, Ветк.). •

ВУЖА'ЎКА (вужáчка, вужóўка) *ж.* грыб *(ядавіты)*. Здалёк падумала, што суравежкі, а аказалісь вужáўкі (Забалоцце, Б.-Каш., тое ж: Ліпнякі, Лоеўск.); Яшчэ не знае грыбоў, прынёс адных вужáвак (Перароў, Жытк., тое ж: Баравое, Лельч.); Адны вужáчкі растуць (Хвойнае, Хойн.); У нас усе паганыя грыбы завуць вужáчкамі (Піркі, Браг.); Вужóўкі беленькія, чубаценькія на лугу, як апенькі (Баравікі, Светл.); Столькі вужóвак, ены, мабыць, мне ўвесь дзень у вачах стаяць будуць (Карацічы, Рэч.).

ВУЖНІ'ШЧА *н.* вяроўка. Вужнíшчам замахну да падстрашу трохі (Астрагляды, Браг.).

ВУ'ЗВАРАТ *м.* выган, выпас. На вýзвараце цяля прыпыні (Прудок, Калінк.).

В'УЙМА *прысл.* шмат. Вýйма народу сабралась на калхозным дварэ (Зялёныя Лукі, Гом.).

ВУ'ЛАЧКА *ж.* вуліца *(маленькая)*. Дзей жа тая вýлачка, што прадсядацель жыве? (Жгунь, Добр., тое ж: Галубіца, Петр.); У той вýлачцы ты не праедзеш (Тульгавічы, Хойн.).

ВУ'ЛЕЧКА *ж.* качаня. Вýлечка згубілася (Карчовае, Хойн.).

ВУ'ЛЛЕ *н.* вулей. Вýлле скінула з дуба і спаліла (Пясчанікі, Жытк.).

ВУ'НЕКА (вýньдзека) *часц.* вунь. Вýнека коні бегаюць (Стаўбун, Ветк.); Пайду, дзеткі, ўжэ, вýньдзека і карова ўжэ мая йдзе (Холмеч, Рэч.).

ВУ'ПІЦЬ *зак.* выпіць. Я адна келюшку вýпіла і галава разбалелась (Нова-Мазолаў, Жлоб.).

ВУСА'Ч *м.* чалавек *(вусаты)*. Паглядзі, які вусáч пайшоў (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВУ'СЕЎКІ *толькі мн.* рэшткі *(ад прасейвання мукі)*. Вусеўкі аддай свінням (Цешкаў, Нар., тое ж: Ляскавічы, Петр.; Холмеч, Рэч.).

ВУ'СКАРКА (вýскварка) *ж.* скварка. Еш вýскаркі, а то астануцца (Ляскавічы, Петр.); Будзем есць бульбу з вýскаркамі (Пясочная Буда, Добр.); Еш вýскваркі, а ўсё тук мачаеш (Грабаў, Петр.).

ВУ'СЦЯНАК *м.* затычка. Дзірачка ў скрыні была, яе затыкалі ву́сцянком (Барталамееўка, Ветк.).

ВУСЯКА'ЦЦА *незак.* высмаркацца. Фёдар вусякаўся на вуліцы (Запясочча, Жытк.).

ВУТА'К *м.* самец *(качкі)*. Вутак наскрозь багата дзержаць, а вутакоў — два-тры (Ручаёўка, Лоеўск.).

ВУ'ТВА *ж.* качка *(дзікая)*. Ек мы пасцілі каровы, то й найшлі ву́тву (Дзяржынск, Лельч., тое ж: Навінкі, Калінк.).

ВУ'ТНУЦЬ *зак.* стукнуць. Ён першы мяне ву́тнуў, а я даў здачы (Багуцічы, Ельск.).

ВУХАВА'ДНЫ *прым.* сварлівы. То яна ж баба вухава́дная (Палессе, Чач.).

ВУ'ЦЕРАБ *м.* поле *(пасля выкарчоўвання)*. Багато на ву́церабу паработалі (Астрагляды, Браг.).

ВУ'ЦІРКА *ж.* ручнік. Штой-та ты выціраісся навалкай, во ж вісіць ву́цірка (Палессе, Чач.). *Параўн.* выціра́льнік, вы́цірка.

ВУ'ЦЯЦЬ *зак.* выцяць, стукнуць. А ён мяне ні разу не ву́цяў (Камаровічы, Петр., тое ж: Антонаў, Ельск.).

ВУЦЯНЁНАК *м.* качаня. Слабенькі вуцянёнак, сядзіць ціхенька (Халочча, Чач., тое ж: Бабовічы, Гом.). *Параўн.* вуцяня́.

ВУ'ЦЯНУЦЦА *зак.* выцяцца. Ох, і моцна я ву́цянулася (Асінаўка, Светл.).

ВУЦЯНЯ' *н., тое, што* вуцянёнак. Наверна, адно вуценя́ заблудзілася, бо не ўсе дома (Марозавічы, Б.-Каш., тое ж: Неглюбка, Ветк.); Трэба ўжы вуценя́т пакарміць (Каравацічы, Рэч., тое ж: Аравічы, Хойн.).

ВУЧЫ'ЦІЛКА *ж.* настаўніца. Да нас у школу новая вучы́цілка прыехала (Асінаўка, Чач.).

ВУША'НКА *ж.* шапка. Гэтая ж вуша́нка падыходзіць майму ўнуку (Крупейкі, Лоеўск., тое ж: Багданавічы, Карм.); У мяне нема вуша́нкі (Забалоцце, Раг.); А нука, разбойнік, вярніся дамой і надзень вуша́нку (Рудня, Чач., тое ж: Кароткавічы, Жлоб.); Зімой хлопцы усе носяць вуша́нкі (Баравікі, Светл., тое ж: Р.-Каменева, Лоеўск.; Раманавічы, Гом.).

ВУША'ТКА I *ж.* бочка *(драўляная з ручкамі)*. У вуша́тцы ў нас заўсёды ёсць квас (Хвойнае, Хойн.).

ВУША'ТКА II *ж.* курыца *(з вушнымі пачасцямі)*. Загані вуша́тку ў хлеў (Неглюбка, Ветк.).

ВУША'ЦІЦ *м.* збанок. Наліла малако ў вуша́ціц (Майскае, Жлоб.).

ВУ'ШЛЫ *прым.* растаропны. Вушлы хлопец (Грушаўка, Добр.).

ВУШНІ'К *м.* доктар. Пайшоў да вушніка (М. Аўцюкі, Калінк.).

ВУШНЯ'К *м.* вушак. Во, дзеўкі, хоць будзеце знаць, што такое вушняк (Піркі, Браг.); Прыхіліўся к вушняку (Апанасаўка, Гом.); Трэба вушняк пакрасіць (Марозавічы, Б.-Каш., тое ж: Хвойнае, Хойн.); Прыдзелай дзверы да вушнякоў (Багданавічы, Карм., тое ж: Забалоцце, Раг.).

ВУ'ШЫ I *толькі мн.* маска *(на вочы каню)*. Апусці вушы каню (Насовічы, Добр.).

ВУ'ШЫ II *толькі мн.* ручкі *(у кошыку)*. За вушы ўдваіх трэба брацца (Піркі, Браг.).

ВЫ'БАВІЦЬ *зак.* даведацца, дазнацца. Хто ў яго калі выбавіць што-небудзь (Тулькавічы, Хойн.); У таго хлопчыка хіба што выбавіш (Там жа).

ВЫ'БАІНА *ж.* выбоіна. Ну й выбаіна (Марозавічы, Б.-Каш.); На гэтай дарогі многа выбаін (Бабовічы, Гом.); У выбаінах загрузла машына (Наглюбка, Ветк.).

ВЫ'БЕГАЦЦА *зак.* набегацца. Выбегалася за каравай, што чуць дамоў прыплялася (Крыўск, Б.-Каш.).

ВЫБІРА'ЛЬНІЦА *ж.* жанчына *(якая рве лён)*. Выбіральніцы патаміліся (Неглюбка, Ветк.).

ВЫБІРА'ЦЬ *незак.* выразаць, аздабляць. Ён добрыя ўзоры выбірае на вокнах (Піркі, Браг.).

ВЫБУХТО'РВАЦЬ *незак.* выліваць. Не выбухторвай усяе вады (Шылавічы, Б.-Каш.).

ВЫ'ВАРАТНІК *м.* вываранень. І як я ўляцеў у той вываратнік (Насовічы, Добр.).

ВЫ'ГЛЯДКА *ж.* люстэрка. Маша, падай мне выглядку (Радомля, Ельск.).

ВЫ'ГЛЯДЫ *толькі мн.* агледзіны. Выгляды адзін раз бываюць (Бабовічы, Гом.).

ВЫ'ДРА *ж., перан., асудж.* жанчына *(неахайная, непрыгожая, нахабная)*. Ну й дачка ў цябе выдра (Дубраўка, Добр.).

ВЫ'ДУБІЦЬ *зак.* выцягнуць. Гэта ж камень выдубіў на бераг. Учапіўся такі вокунь, што не мого выдубіць (Перароў, Жытк.); Угруз конь, насілу выдубіў на бераг (Пясчанікі, Жытк.).

ВЫ'ДУКАЦЬ *зак.* навучыць. Лёнька іх тут усіх выдукае (Баравікі, Светл.); Добра настаўнік маіх выдукаў за лета (Хвойнае, Хойн.).

ВЫ'ЖЛА *ж., перан.*, асудж. жанчына *(хітрая)*. Выжла гэтая праклятая (Агароднія, Добр.).

ВЫ'ЖЫМКІ *толькі мн.* макуха. А выжымкі ідуць на корм (Стаўбун. Ветк.).

ВЫ'ЗВЕЗДЗІЦЬ *зак.* вызарыцца. Глянь на неба, як сёдні вызвездзіла (Гарадзец, Раг., тое ж: Холмеч, Рэч.; Ручаёўка, Лоеўск; Лучын. Раг.).

ВЫКАБЛУ'ЧВАЦЦА *незак.* выкручвацца, выхваляцца. І чаго ён выкаблу́чваецца (Перароў, Жытк.); А ты ўсё выкаблу́чваешся (Навасёлкі, Петр.).

ВЫ'КАЛАТ *м.* 1. абмалот. Заўтра трэба зрабіць вы́калат (Багданавічы, Карм.); 2. салома. Сусед прывёз добрую ахапку вы́калату для подсцілу (Багданавічы, Карм.).

ВЫКАЛУ'ПЛІВАЦЬ *незак., перан.* выматваць, атручваць. Што яна мне душу ўсю выкалу́плівае (Быч, Карм.).

ВЫ'КАНАХАЦЬ *зак.* выпрасіць. Прасіў, прасіў, чуть вы́канахаў — во які чалавек (Быч, Карм.).

ВЫКАРЧАВА'ННЕ (выкарчыва́нне) *н.* выкарчоўванне. Выкарчава́нне дзераваў і пнёў рабілася бульдозерам (Пагост, Жытк.); Выкарчыва́нне ціпер добра ідзець (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВЫ'КАТ *м.* дэкальтэ. Міронава вы́кат вялікі здзелала (Маркаль, Жлоб.).

ВЫ'КАТАЦЬ *зак.* забраць. Я ў цебе вы́катаю да грама (Палессе, Чач.).

ВЫ'КУРЫЦЬ *зак.* напаліць *(печ)*. Вы́курыць печ няма часу (В. Нямкі, Ветк.).

ВЫ'МЯРХАЦЦА *зак.* прагаладацца. Быстра ты ўжо вы́мархалася (Быч, Карм.); Дзіва што на касьбе вы́мірхаліся (Харашоўка, Добр.).

ВЫ'НАСАК *м.* зносак. Вы́насак, ён маленькі і потым знай, што курыца ўжо ня будзе несціся (Халочча, Чач.).

ВЫНО'СІСТЫ (выно́слівы) *прым.* высокі, тонкі. Ета дзерава выно́сістае (Неглюбка, Ветк.); Сасну выно́слівую прывезлі (Стаўбун, Ветк.).

ВЫ'ПУСТАК *м.* пярэзімак. Яшчэ яна была вы́пусткам, а ўжо ацялілася (Грэбень, Жытк.).

ВЫ'РВА *ж.* яма *(ад даждж)*. Дождж — залівень пайшоў, усю зямлю знясло, вы́рву такую здзелаў (Быч, Карм.)/вір. Чалавека ў вы́рву зацягнула (Бабовічы, Гом.).

ВЫ'РУБ *м.* 1. зруб. Вы́руб у нас не вельмі высокі

(Кароткавічы, Жлоб.); Не рабіце ніскі, а высокі выруб, каб светла ў хаце было (Халочча, Чач., тое ж: Днепрын, Рэч.); 2. засечка. Панарабіў вялікіх вырубаў, што зра (Піркі, Браг.); Глыбокі выруб не дзелай (Бывалькі, Рэч.); 3. высека. У вырубе за ракой пачалі саджаць саджанцы (Кароткавічы, Жлоб.).

ВЫ'САЛАПІЦЦА *зак., неадабр.* выказацца. Во любіць высалапіцца куды не трэба (Зладзін, Маз.); Сёння Андрэй добра высалапіўся на сабранні (Там жа).

ВЫ'СЕРБАЦЬ *зак.* з'есці. Рыгор высербаў весь суп (Хільчыцы, Жытк.).

ВЫ'СКРЫПАЦЦА *зак.* з'явіцца. Глядзі колькі жукоў выскрыпалася на картоплі, нельга адбіцца (Піркі, Браг.).

ВЫСО'ТНІК *м.* падасінавік. На абед звару высотнікаў, учора набралі багата (Даманавічы, Калінк.).

ВЫ'СЦЯГНУЦЦА *зак., неадабр.* памерці. Каб ён высцягнуўся (Ж.-Буда, Добр.); Каб яны ўжэ высцягнуліся (Пракопаўка, Добр.).

ВЫХАДЖА'ВЫ *прым.* вынаходлівы. Чалавек быў выхаджавы (Быч, Карм.).

ВЫ'ХАПІЦЦА *зак.* выбегчы, выйсці. Каровы на двор выхапіліся (Палессе, Чач.).

ВЫХВАЛЯ'КА *аг., зневаж.* хвалько. Выхваляка хваліцца, а не работая (Халочча, Чач.).

ВЫ'ХВАЦЕНЬ *м.* корж. Кума, я сягодні такіх выхватняў напекла, што дзіву дасіся (Горваль, Рэч.).

ВЫЦІРА'ЛЬНІК *м.* (выцірка *ж.*), *тое, што* вуціркa. Як пазадзелаюць выціральнікі, дык еля патмываіш (Азяраны, Раг.); Выціральнік ужо трэба вымыць (Хвойнае, Хойн.); Выціркі і вышываныя бываюць і простыя (Слабада, Ветк.).

ВЫ'ЧУХАЦЦА *зак.* ачуняць. Як напала ліхарадка, дык ледзь вычухала (Белы Пераезд, Петр.).

ВЫ'ШАПЦІЦЦА *зак.* высахнуць. Весь часнок вышапціцца за зіму (Быч, Карм.).

ВЫ'ШКРЭБАК I *м.* сын *(апошні)*. Ён жа ў мене вышкрэбак, астатнія дзеткі ўжо разлецеліся, а гэты са мной (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВЫ'ШКРЭБАК II *м.* хлябок *(рэштак цеста)*. Асталося трохі цеста, дак я вышкрэбак спекла (Маркавічы, Гом.).

ВЫ'ШЛІГАЦЬ *зак.* астудзіць. Вецер вышлігаў хату, і ноччу дужа халодна (Башыца, Б.-Каш.).

ВЫШПІГО′УВАЦЬ *незак.* выведаць. Мікола зможа вышпігоўваць усё (Хойн.); А ты што вышпігоўваеш? (Паганцы, Светл.)

ВЫШЫВА′НКА *ж.* вышыванне. А ў яе новая кофта з вышыванкай (Чырвоная Буда, Добр.).

ВЫ′ШЫМКАЦЬ *зак.* выгнаць. Вышымкаў я іх (Піркі, Браг.).

ВЫ′ЯМКА *ж.* фортачка. Зімой заўсёды ў нас адкрыта выямка. Зачыні выямку, бо дуе моцно (Буйнавічы, Маз.).

ВЯДЗЬМА′Ч *м.* чараўнік. Вядзьмач на чалавека вядзьмуе (Неглюбка, Ветк.).

ВЯ′ЗАНКА *ж.* 1. хустка *(вязаная)*. У яе была вельмі цёплая вязанка (Пянчын, Б.-Каш.); Вязанку закруці, на дварэ ж халодна (Марозавічы, Б.-Каш., тое ж: Стаўбун, Ветк.); Раней вязанкі самі рабілі (Нісімкавічы, Чач.); 2. звязка *(чаго-небудзь)*. На від дак і дзед стары, а кажды дзень несе з лесу вязанку дроў (Завайць, Нар., тое ж: Марозавічы, Б.-Каш.); І адкуль тыя людзі столькі вязанак лёну нясуць (Піркі, Браг.).

ВЯ′ЗАНКІ (вязёнкі) *толькі мн.* рукавіцы *(вязаныя)*. Вазьмі вязанкі, на сенажу будзе добра (Марозавічы, Б.-Каш.); Гэта вязёнкі, іх далі сыну на рабоце (Раманавічы, Гом.); Вазьмі вязёнкі ў лес (Салтанаўка, Б.-Каш.); У вязёнках зімой цяплей, таго што ўсе пальцы ўмесь (Рудня, Чач.).

ВЯ′ЗНІК *м.* зараслі *(вязу)*. Мае малые сённі ў вязніку ўплуталіся (Бабовічы, Гом.).

ВЯЗЬ *ж.* рэмень *(які звязвае цапільна з ручкай цэпа)*. Малаці, не бойся. Вязь моцная (Углы, Ельск.).

ВЯЗЬМО′ *н.* перавясла. Вязьмо лежыць ля снапоў (Неглюбка, Ветк.); Для скручвання снапоў дзелаюць вязьмо (Стаўбун, Ветк.); Вязьмом звязваюць сноп (Неглюбка, Ветк., тое ж: Ліцвінавічы, Чач.).

ВЯЛІЗА′ЗНЫ *прым.* велізарны. Гэта, мабыць, самы вялізазны дуб (Перароў, Жытк., тое ж: Салаўёў, Б.-Каш.); Вялізазны — вялізазны кабан (Пясчанікі, Жытк.).

ВЯ′ЛІЦА *ж.* дрэва *(сухастойнае)*. Вяліца доўга шчэ стаяла (Баравікі, Светл.).

ВЯ′ЛІЦЬ *незак.* біць *(валёнкі)*. Трэба було вяліць валёнкі (Піркі, Браг.).

ВЯНЗЭ′ЛАК *м.* клунак. Сколькі б баб ні ехала, усе з вянзэлкамі (Тульгавічы, Хойн.).

ВЯНГЕ́РКА *ж.* сліва *(гатунак)*. Самыя смачныя слівы — вянге́ркі (Пагост, Жытк.).

ВЯРАЎЧА́НЫ *прым.* вяровачны. Аброць можа быць раменнай і вераўча́най (Холмеч, Рэч).

ВЯРБНЯ́К *м., толькі адз.* зараснік *(вярбы)*. З вербняка́ сдубчыкі такія рубаюць, кашы плятуць (Холмеч, Рэч.).

ВЯРЗЦІ́ *незак., неадабр.* гаварыць *(абы-што)*. Ён вярзе́ на яго, а ён хоць ба што — смяецца (Быч, Карм.); Што ты вярзе́ш, заплюшчыўшы вочы (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВЯРНА́ЦЦА *незак.* вяртацца. Не бегі за мной, усё роўна прыдзецца верна́цца (Макарычы, Петр.).

ВЯРНЯ́КАЦЬ *незак.* дакучаць. А ты сядзі і не верня́кай (Мялешкавічы, Маз.).

ВЯРО́ЎЧЫНА *ж., толькі адз.* вяроўка. Як вазьму вяро́ўчыну, ох і адлупцую (Кабанаўка, Жлоб.).

ВЯРТЛЯ́Г *м.* вал *(сена)*. Вон вяртля́г пад капой сабраўся (Бабовічы, Гом.).

ВЯТУ́ТЫ *толькі мн.* баранкі. У лаўку вярту́ты прывезлі (Кашарава, Петр., тое ж: Макарычы, Петр.).

ВЯРХНЯ́К *м.* 1. *тое, што* вірхняк. Верхня́к, ён распірае вушнякі. Яго забіваеш добра малатком (Баравікі, Светл.); Атшліфуй вярхня́к у акне (Бабовічы, Гом., тое ж: Рудня, Чач.); 2. камень *(верхні ў жорнах)*. Верхня́к знасіўся ужэ, бо буў дзеравянны, у яго насыпалі зярно і круцілі (Холмеч, Чач., тое ж: Кароткавічы, Жлоб.).

ВЯРЦЁБЫ *толькі мн.* вір. У рэчкі кольцамі вярцёбы круцяцца (Бабовічы, Гом.).

ВЯРЦЯ́ЧКА *ж.* казяўка *(вадзяная)*. Вярця́чкі і на балоце ёсць (Неглюбка, Ветк.).

ВЯРШКО́ЎКА *ж.* дошка *(аполак)*. Вяршкоўкі можна выкарыстоўваць замест шалёвак (Баравікі, Светл.); Не хапіла трохі вяршко́ўкі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВЯРШЫ́НА I *ж.* верх *(чаго-небудзь)*. Вярши́ня чуць відная, такая вялікая гара (Лучын, Раг.).

ВЯРШЫ́НА II *ж.* смятана. Скінуць з глячка вярши́ну (Неглюбка, Ветк.).

ВЯСЕ́ЛЬНІК *м.* удзельнік *(вяселля)*. От багато було ў Зыноўкі вясе́льнікаў, мо душ сто (Баравое, Лельч.).

ВЯСЁЛКІ *толькі мн.* дзіцячы сад. Унучка мая ў вясёлкі ходзіць (Піркі, Браг.).

ВЯСНЯ́НКА I *ж.* апенька. Хварэю ад таго часу, як вясня́нкі паявіліся (Марозавічы, Б.-Каш.).

ВЯСНЯ'НКА II *ж.* вяснушка. Вяснянкі на твары (Неглюбка, Ветк.).

ВЕСЯЛУ'Н *м.* весяльчак. З гэтым весялуно́м нідзе не прападзеш (Жгунь, Добр.).

ВЯТРА'НКА *ж.* воспа *(ветраная)*. Цела абсыпала ветра́нка (Гармавічы, Жлоб.); Ветра́нкі ціпер пашці німа (Забалоцце, Раг.); Раней вятра́нкай часта хварэлі дзеці (Баравікі, Светл.); У два гады хварэў ветра́нкай (Малыя Аўцюкі, Калінк., тое ж: Марозавічы, Б.-Каш.; Бабовічы, Гом.).

ВЯЧЭ'РНІЦА *ж.* зорка *(першая)*. Вячэ́рніца зашла (Насовічы, Добр.); Пасля ўзыходу вячэ́рніцы сталі паказвацца іншыя зоркі (Івакі, Добр.).

## Г

ГАВАРА' *ж.* размова, гутарка. Усяку гавару́ запісаць трэба (Турбінка, Маз.).

ГАВАРУ'ШКА I *ж.* апенька *(вясенняя)*. О, палядзі, якая гавару́шка вырасла. Холадна яшчэ, а яна вылезла ўжо. Гавару́шкі растуць рана вясной, як толькі сьнег далоў (Ліпнякі, Лоеўск.); У гавару́шак верх белы, а пад нізам чорныя (Ручаёўка, Лоеўск.).

ГАВАРУ'ШКА II *ж.* радыё. Выключы гавару́шку. У кожнай хаце гэтыя гавару́шкі (Сяўкі, Лоеўск.).

ГАДАВІ'К *м.* маладая істота *(адзін год)*. Гадаві́к ужо ладны, а ўсё бегае за кабылай (В. Крушынаўка, Раг.); Ужо гадаві́к быў, чагосьці здох *(пра парася)* (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* гадуне́ц, гадуно́к.

ГАДО'ЎНЫ *прым.* моцны. Мой кабан гадо́ўны, не хварэе (Дворышча, Хойн.).

ГАДУНЕ'Ц *м.* (гадуно́к *м.*) *тое, што* гадаві́к. Глянь ты, які добры гадуне́ц, аж люба глянуць. Меншага кабана прадайма, а гадунка́ карміцьмем на сала (Шарын, Ельск.). *Парайн.* гадунец.

ГАДУ'ХА *ж.* гаспадыня. Муха-гаду́ха абед варыла, дзяцей карміла (Дзятлавічы, Гом.).

ГАЙДА'К *м. толькі адз.* танец. Як заскачам жа мы: мой муж — казака, а я гайдака́ (Дзятлавічы, Гом.).

ГА'ЙНІЦЬ *незак.* ганьбіць. Што яго га́йніш на ўсё сяло (Баравікі, Светл.).

ГАЙНО' *н.* 1. логава. Свінням пайду саломы ў гайно́ ўкіну (Стаўбун, Ветк.); 2. гняздо. У дупле пад карой было гайно́ (Літвінавічы, Карм.).

ГАЙСТРЫ'ЦЬ *незак.* вайстрыць. Я напільнікам пілу гайстру́ (Ручаёўка, Лоеўск.).

ГА'ЙСЦЕР *м.* бусел *горны.* Гайстро́ў у нас мала, няма гор у нас (Бабовічы, Гом.).

ГА'КАЦЬ *незак.* стукаць. Што гэта ў Міколы такое га́кае пут пувеццю? (Піркі, Браг.); Людзі спаць кладуцца, а ў іх га́каюць на ўсю (Запясочча, Жытк.).

ГА'КНУЦЬ *зак.* выпіць. Іван учора адразу цэлы глёк гарэлкі га́кнуў (Зарэчча, Жлоб.).

ГА'ЛА *н., толькі адз.* балота. Паехаў у га́ла па сена (Пудакоў, Хойн.).

ГАЛАГО'Л *м.* балабон. Галаго́л на шыю чаплялі каровам, яно і чутно, дзе яны (Холмеч, Рэч.).

ГАЛАГУ'Н *м.* певень. Галагу́н пракляты, толькі і знае ў агароды лазіць (Пераpоў, Жытк.).

ГАЛА'НКА *ж.* грубка. Гала́нка складзена стоўбікам у мяне (Руднае, Хойн.).

ГАЛАЎКІ' *толькі мн.,* ільняное валакно *(другога гатунку).* У мяне не лён, а адны галаўкі́ былі (Харомцы, Акц.).

ГАЛАШЧО'К *м.* галалёд. Ета сьнег ужэ утопчэцца, тады дождж пойдзе, ото й галашчо́к (Холмеч, Рэч.).

ГА'ЛАЧКА *ж.* 1. кавалак. У адной га́лачцы маленькай і хунт бывае. Га́лачкамі мел прадаюць (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. клёцкі з цёртай бульбы. Га́лачкі ў малако кідаю (Насовічы, Добр.).

ГАЛЕ'НЬ *м.* дзяркач. Гале́нем мост труць, каб чысты быў, ды шчэ трохі і пяском рачным, жоўтым пасыпаюць (Касцюкоўка, Гом.). *Параўн.* галя́к.

ГАЛДУ'Н *м.* варэнік *(з мясам або грыбамі).* Трэба зрабіць сёння галдуно́ў (Кароткавічы, Жлоб.).

ГА'ЛІ *толькі мн.* халявы. Га́лі некалі насілі кавалерысты замест абмотак (Катловіца, Браг.).

ГАЛІ'ЦА *ж.* рукавіца *(з палатна).* Зімой у галі́цах холадна (Зялёныя Лукі, Гом.).

ГА'ЛІЦЦА *незак.* кваліцца, зайздросціць. Хто га́ліцца на чужое, той свайго мець не будзе (Жгунь, Добр.).

ГАЛО'СНЫ *прым.* гучны. Пад ясненькімі свечамі, пад гало́снымі званамі (Дзякавічы, Жытк.).

ГАЛО'ЎНЯ *ж.* галавешка. Гало́ўні астаюцца ў печы, калі асінай паліш. Так і завем — гало́ўня (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* галу́за 1.

ГАЛУ'БКА *ж.* фарба *(блакітная).* Для падсіньвання бялізны прадаецца галу́бка (Падасоўе, Чач.).

ГАЛУ′ЗА I *ж., тое, што* галóўня. Абгарэлы, як галýза, ляжыць (Астрагляды, Браг.); Трэба галýзы затушыць, ды ў печы канчаць паліць (Асінаўка, Светл.).

ГАЛУ′ЗА II *аг.* 1. чалавек *(неразвіты, дурны)*. З гэтага галýзы нічога не будзе (Загор'е, Б.-Каш.); 2. чалавек *(спрытны)*. Не дзеўка, галýза нейкая (Мормаль, Жлоб.); 3. чалавек *(неахайны)*. Ну й галýза, заўсёды расхрыстаны, брудны, жах (Палессе, Чач.).

ГАЛТЭ′ЛЬ *ж.* арнамент *(на аканіцы)*. Дзелаем галтэ́ль, бо без галтэ́лі не глядзіцца задрыжка (Карма, Добр.).

ГА′ЛЦІ *толькі мн.* галушкі. У нас на снеданне — гáлці (Дубраўка, Добр.).

ГА′ЛЫ *толькі мн.* ногі. На мае гáлы гэтыя туфлі цесныя (Багуцічы, Ельск.).

ГАЛЫ′Ш *м.* (галь *ж.*) месца *(пустое, голае)*. Там, дзе пасеялі моркву, адзін галы́ш (Стара-Высокае, Ельск.); Вунь за сялом галь, самі бачылі, там лесу няма (Ручаёўка, Лоеўск.).

ГА′ЛЬКА *ж.* спадніца *(ніжняя)*. Давай я выперу гáльку, а то гразная (Макарычы, Петр.).

ГАЛЮ′ЧКА *ж.* галіна *(дрэва)*. Такую добрую галючку вецер зламаў. Бяжы галю́чкі ў садзе пазбірай. Такія вялікія галю́чкі Цімох паадсякаў з яблынь, аж жалка (Шарпілаўка, Гом.).

ГАЛЯ′К I *м., тое, што* галéнь. Патрэбны добры галя́к ды гарачая вада — і будзе чыста (Казацкія Балсуны, Ветк.).

ГАЛЯ′К II *м.* чалавек *(бедны)*. Галя́к быў, галякóм застаўся. Такіх галякóў цяпер мала ў нас (Шарпілаўка, Гом.).

ГАМАЗІ′Н *м.* (гамазéя *ж.*) свіран, склад. У памешчыка быў гамазíн, туды ўвосень сыпалі хлеб (Барталамееўка, Ветк.); Пашоў ён к цару і пытае, дзе жыта сыпаць. А цар сказаў: у гамазéю, а ня ўлезя ў гамазéю, дак каля гамазéі сып! (Перарост, Добр.).

ГАМАНЯ′КАЦЬ *незак.* гаварыць. Стаяў доўга, гаманя́каў з Іванам, а потым: «Пастой, я і з табою хачу пагаманя́кацъ» (Хвойнае, Хойн.).

ГАМА′РКА *ж.* ніжняя ручка ў прадольнай піле. Заўтра калодку рэзаць будам: трэба пілу змазаць, гамáрку надзець (Углы, Нар.).

ГАМА′РНЯ *ж.* будынак *(вялікі)*. Такую гамáрню паставіў — і ўсё яму цесна (Грушаўка, Добр.).

ГАМО'Н *м.* канец, смерць. Богам цябе прашу, не ідзі туды, там табе гамо́н будзе (Стаўбун, Ветк.).

ГАМУ'ЗАМ *прысл.* гуртам. Івана толькі гаму́зам можна паваліць (Лукі, Жлоб.).

ГАМУ'ЛА *ж.* ежа *(посная, з бульбы і мукі)*. У пост толькі гаму́лу і рабілі, елі (Баравікі, Светл.).

ГАНА'К *м.* рабочы *(землечарпалкі)*. Ой, дзевачкі, да нас ганакі́ прыехалі працаваць, і той гана́к тут, што летась быў (Аравічы, Хойн.).

ГАНАПЛЕ'ЧКА *ж.* устаўка *(каля каўняра)*. Ганапле́чку прышываюць, каб плечы не рваліся так быстра (Барталамееўка, Ветк.).

ГАНАРЫ'ЦЬ *незак.* ганарыцца. Ой, частуе, ганару́е, не людзей,— сам для сябе (Салтанаў, Рэч.).

ГАНА'ЧКА *ж.* сякера. Я вельмі добра навайстрыў гана́чку (Горваль, Рэч.).

ГА'НІ (га́нкі) *толькі мн.* сходы. Вышла пані на новыя га́ні (Дзятлавічы, Гом.); Га́нкі ў вас высокія (Маркавічы, Гом.); Куры паселі на га́нках і сядзяць (Кароткавічы, Жлоб.).

ГАННЯ' *ж.* зграя. Цэлая ганння́ ваўкоў пад вокнамі бегала. Яны ж зімой кучамі бегаюць (Марозавічы, Б.-Каш.).

ГАНЧАКІ' *толькі мн.* хвалі. Па рэчцы пабеглі ганчакі́ — малыя баркі (Дзятлавічы, Гом.).

ГАНЧУ'РКА *ж.* мурза. І дзе ты бегаеш, ганчу́рка малая, жах на цябе глядзець (Маркавічы, Гом.).

ГАНЬБА' *ж.* паляванне *(на звера з сабакамі)*. Заўтра ганьба́ будзе (Каранёўка, Гом.).

ГАНЬБІ'СТЫ *прым.* ганарысты. Брыгадзірка наша новая хоць і маладая яшчэ, але вельмі ж ужо ганьбі́стая (Кароткавічы, Жлоб.).

ГА'НЯ *ж.* цапля. Я тым летам знайшоў убітую га́ню (Ліпляны, Лельч.).

ГАПЕ'ЛЬКА *ж.* пяцелька. Нерахо, прышый гапе́льку, а то вечно ў цебе расхварэстано грудзіна (Бярэзнікі, Жытк.).

ГАПЛІ'ЧКА *ж.* гузік. *(драўляны самаробны)*. Тады на кажухі гаплі́чкі нашывалі (Апанасаўка, Гом.).

ГАРАВА'ННЕ *н.* багацце. Глядзіць на сваё гарава́нне ды радуецца (Перароў, Жытк.); Жылі добра, а пачалася вайна — усё гарава́нне прахам пайшло (Перароў, Жытк.); Адно гора з-за гаравання, каб нічога не было, цяпер бы не лаяліся (Пагост, Жытк.).

ГАРАВА́ЦЬ *незак.* працаваць. Цяпер я болей стаў гараваць, багацейшы стаў (Узнаж, Светл.).

ГАРА́НКА *ж.* ручка *(нажа)*. Зрабіў сабе гаранку во (Бабовічы, Гом.).

ГАРАНО́К *м.* комін. Разваліўся гаранок, і нільзя печ тапіць (Башыца, Б.-Каш.).

ГАРАПО́ЧАК *м.* пасудзіна *(з падмазкай)*. Дзе той гарапочак дзеўся, скавародку няма чым падмазаць (Любань, Б.-Каш.).

ГАРА́ТНІК *м.* гаротнік. Вось ужо дык гаратнік, большага я яшчэ не бачыў (Забалоцце, Раг.).

ГАРАХАВІ́ШЧА *н.* гарохавішча. На гарахавішчы добрая зямля, гарох зямлю ўдабрае (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* гарахоўе.

ГАРАХВЯ́НКА *ж.* салома *(гарохавая)*. Гарахвянку звозілі ўчора з поля (Майскае, Жлоб.).

ГАРАХО́ЎЕ *н. толькі адз., тое, што* гарахавішча. Гарахоўе засеялі ў гэтым годзе грэчкай (Запясочча, Жытк.).

ГА́РАЦ *м.* гарнец. Вылез аттуля ксёндз, усё роўна як чорт удзелаўся ў сажу — ведама, гарцаў дваццаць яе там было (Шарахоўскія Буды, Раг.).

ГАРА́ЧКІ *толькі мн.* абед *(пасля пахавання нябожчыка)*. З могілак усе ідуць на гарачкі (Багданавічы, Карм.).

ГА́РБА *ж.* воз *(вялікі)*. У нас гарбамі бульбу возяць (Шарпілаўка, Гом.).

ГАРБА́К (гарбыль) *м.* аполак. Гарбакі нада ў кучу скласці. (Халочча, Чач.); Во, гэта гарбак,— не падняць (Халочча, Чач.); Вон ляжыць гарбыль, бачыш? (Піркі, Браг.).

ГАРДАВА́ЦЬ *незак.* пагарджаць. Будзь ласкава, не гардуй, перахрысці майго ўнука (Багуцічы, Ельск.).

ГАРДАВІ́НА *ж.* гатунак *(каліны)*. У гардавіны вельмі салоткія ягады (Пагост, Жытк.).

ГАРКАЦІ́ННЕ *н.* гаркавасць. Не суп, а адно гаркацінне (Халочча, Чач.).

ГАРКУ́ША *ж.* грыб *(з чырванавата-карычневай, варонкападобнай шляпкай і бугарком пасярэдзіне)*. Гаркуша гэта, не бяры яе. Гаркушы трэба мачыць некалькі дзён, а потым саліць можна (Даманавічы, Калін.).

ГАРЛАВІ́НА *ж.* горла. Гарлавіна ў сына баліць усё (Піркі, Браг.); У гарлавіне сціснула, не магу каўтаць (Макрэц, Браг.).

ГАРЛАДА'ЎКА *ж.* дыфтэрыт. Памерла мая меньшанькая ў вайну, у яе гарладаўка была (Баравікі, Светл.).

ГАРЛАХВА'Т *м.* крыкун. Гарлахват на сваім стаіць (Дубраўка, Добр.).

ГАРЛЕ'КАЦЬ *незак.* галёкаць, крычаць. Ну і гарлеча Сымон, чутна аж на тым полі (Шалухоўка, Калінк.).

ГАРЛЯ'НІК *м.* гладыш. Я ў гарляніку сырыквашу дзяржу (Ніўкі, Добр.). *Параўн.* глёк, глёчык.

ГАРЛЯЧО'К *м., памянш. да* гарлянік. Сабрала гарлячок смятаны (Ніўкі, Добр.).

ГАРНІ'З *ж.* карніз. Каб малыя дзеці не разбілі лямпу, я часта ставіла яе на гарніз (Любань, Б.-Каш.).

ГАРО'ДЧЫК *м.* кветнік. І вы сабе ўжо зрабілі гародчык (Капараўка, Рэч.); У мяне ўляцелі куры ў гародчык і чыста ўсё выграблі (Пагост, Жытк.).

ГАРО'ЎЛЯ *ж., толькі адз.* гаротнасць. Зноў пачынаецца тая ж самая гароўля (Тульгавічы, Хойн.).

ГАРУ'НА *ж., толькі адз.* маток рознакаляровых нітак. Якая прыгожая гаруна! (Антонаў, Ельск.)

ГАРУНО'К *м.* бядак. Памятаю, што і ў тыя часы быў Сямён гарунок (Гарадзец, Б.-Каш.).

ГА'РУСАЎКА *ж.* хустка *(гарусавая)*. У мяне была вельмі красівая гарусаўка (Капань, Рэч.); Я даўно ўжо хачу купіць гарусаўку (Стаўбун, Ветк.).

ГАРЦ *м.* 1. гарнец. Насыпаў гарц крупаў (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. бутэль *(трохлітровы)*. Тры літры бутылка, бусел такі, дак гарц зваўся (Барталамееўка, Ветк.). *Параўн.* гарчык.

ГАРЦАВЕ'НЬ *м., толькі адз.* пасудзіна *(0,25 вядра)*. Кажуць у цябе вельмі добры гарцавень, мо б ты мне яго пазычыла (Завайць, Нар.); На вяселле вунь ён прынёс гарцавень віна (Баравікі, Светл.).

ГАРЧА'К *м., толькі адз.* трава *(высокая, з вузкім лісцем)*. Гарчак белым і малінавым цвіце (Марозавічы, Б.-Каш.); Гарчак росце по-пуд плотамі, его му рвалі свінням (Падварак, Лельч.)

ГА'РЧЫК *м., памянш. да* гарц. Насця, пазыч мне гарчык мукі (Крыўск, Б.-Каш.); Кабану ўсыпала гарчык аўса (Запясочча, Жытк.).

ГАРШКО'ЎКА *ж.* ануча. Дзе дзелася гаршкоўка, нечым выняць чытуна (Залясочнае, Лельч.).

ГАРШЧО'ЧНІК *м.* ганчар. Мо ж гаршчочнікі прыйдуць на базар (Краўцоўка, Гом.).

ҐА́РЫ́ *толькі мн.* сані *(трактарныя)*. На ґа́ры наклалі цэлы стог сена (Вуглы, Ельск.).

ГАРЫ́НА *ж.* нітка *(для вышывання)*. Бяры чырвоную гары́ну да зашый ручнік (Залясочнае, Лельч.); Куплю я табе якой хочаш гары́ны, толькі вышывай (Крупка, Маз.).

ҐА́РЫСТ *м.* бусел. Ґа́рыст ходзіць па балоту. (Неглюбка, Ветк.).

ГАРЭ́Й *прысл.* больш. Спалохаліся людзі яшчэ гарэ́й, баяцца й з хаты высунуцца (Лучыцы, Петр.).

ГАРЭ́ЙШЫ *прым.* горшы. Самаю гарэ́йшаю прыкміетаю бывае, калі ўпадзе з рук веньчальная жуковіна, бо тагды не хібіць хто-небудзь памерці (Лучыцы, Петр.).

ГАРЭ́ЛІК *м.* бульба *(прыгарэлая зверху)*. Вазьмі хоць адзін гарэ́лік, ён смачны (Пераро́ў, Жытк.); Баба толькі гарэ́лікі і есць (Заспа, Рэч.); Гарэ́лікі адкінь свінням ву той чавун (Іванаўка, Хойн.).

ГАРЭ́ЛІШЧА *н.* пажарышча. А Іван на гарэ́лішчы ўжэ даміну пастроіў, люба глянуць (Шарпілаўка, Гом.).

ГАСНІ́К *м.* газоўка. Пара гасні́к ужо паліць (Баравікі, Светл.); Ці ета ў гасніку газы няма, што не гарыць? (Баравікі, Светл.).

ГАСПО́ДА *ж.* гаспадарка. Калі я не пазнаю гэтаго, то не вернуса да гаспо́ды (Лучыцы, Петр.).

ГАСЦІ́НЧЫК *м. памянш. да* гасці́нец. Заўтра бацька прыедзя, гасці́нчыка прывязе (Шарпілаўка, Гом.).

ГАЎЯ́ДА *н.* скаціна. Ось і чуюць людзі, што за ракою пашла пошасць ламаць людзей, а паморак косіць гаўя́да (Лучыцы, Петр.).

ГВАЗДЗЁ *н., зборн.* гвоздзі. Распрануўся ён і стаў па сцянах гваздзё забіваць (Шарпілаўка, Гом.).

ҐЕ́ВАЛА *аг.* чужаніца. От ґе́вала дзера́венская, дык ґе́вала (Баравікі, Светл.).

ҐЕ́ЙКА *ж.* дарагая. Не, мая ґе́йка, як сама чаго не здзелаеш, дык ніхто за цябе не здзелае (Грушаўка, Добр.).

ҐЕ́КАЦЬ *незак.* гагатаць *(пра гусей)*. Ужо даюць аб сабе знаць гусі: прыдуць да варот і ґе́каюць (Забалоцце, Б.-Каш.).

ҐЕ́ЛЛЕ *н.* балота. На ґе́ллі бачыла вутак, яны часта туды ходзяць (Піркі, Браг.).

ҐЕ́НЬБА *ж.* губа. Чаго сядзіш развесіла ґе́ньбу? Мілашэвічы, Лельч.). *Параўн.* гры́ба.

ГЕЧ *прысл.* шмат, многа. Гуркоў геч нарасло. От ты,

донька, геч падрасла. Геч грыбоў насушыла (В. Аўцюкі, Калінк.).

ГІБЛЕ́ЦЬ *незак.* псаваць. Куркі грабуць, гускі шчыплюць, на стале каравай гі́блюць (Дзякавічы, Жытк.).

ГІДАВА́ЦЬ *незак.* гадзіцца. Я дык гіду́ю браць вужоў у рукі (Шарпілаўка, Гом.).

ГІЗЮКІ́ *толькі мн.* вочы. Як спужаўся, ды як вытрашчыў гізюкі́ (Мормаль, Жлоб.).

ГІ́РКА *ж.* гладыш *(адбіты зверху)*. Поўная гірка малака (Хвойнае, Хойн.).

ГІРО́ЎКА *ж.* лілія. Можа вам белых гіро́вак прынесці? (Піркі, Браг.).

ГІ́ЦАЛЬ *м.* клін *(калоць дровы)*. Каб узяў гіцаль, ураз раскалоў (Шупейкі, Светл.).

ГЛАДЫ́ШКА *ж.* гладыш. Вазьмі тую глады́шку, у якой малако скісла (Ляскавічы, Петр.); З глады́шкай ходзім па ягады (Капань, Рэч.).

ГЛАМО́ЗДА *ж.* бязглуздзіца. Гламо́зду гаворыш, і слухаць не хочу (Навасёлкі, Петр.).

ГЛА́СНА *прысл.* гучна. Чуеце, як гла́сна колакал звоніць (Дзятлавічы, Гом.).

ГЛА́СНЕНЬКА *прысл., памянш. да* гла́сна. Красна дзевіца сядзіць, яна гла́сненька крычыць: «Хто мяне пярэймець, за сябе замуж возьмець» (Дзятлавічы, Гом.).

ГЛЕ́ВЕШ *м.* хлеб *(ацесліва)*. Ну а етая уге булка — настаяшчы глёвеш (Грабаў, Петр.).

ГЛЕ́ЙКІ *прым.* ацесліва. Гле́йкі хлеб сёння (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* глёўкі.

ГЛЁК (глёчык) *м. тое, што* гарля́нік. Вазьмі глёк, налі малака, бацьку. Еты глёчык такі добры (Шарпілаўка, Гом.).

ГЛЕЎКАТА́ *аг.* чалавек *(рахманы)*. У Паліны Мішка такая глеўката́, што далей некуды (Крыўск, Б.-Каш.).

ГЛЁЎКІ *прым., тое, што* гле́йкі. Хлеб глёўкі сягодні ў мяне, ня падышоў, дак і глёўкі (Шарпілаўка, Гом.).

ГЛІНЯ́НКА *ж.* міска *(гліняная)*. Вазьмі гліня́нку да пакармі з яе курэй (Навінкі, Калін.).

ГЛІ́ЦА *ж.* ігліца. Калі маладыя хвойкі, дык гліцу каровам на муку малолі (Гармавічы, Жлоб.).

ГЛО́ВЕНЬ *м.* бэлька *(над дзвярыма)*. Гло́вень — ета, што над дзвярамі, во бачце? Перакладзіна паміж вугламі — ета гло́вень (Піркі, Браг.).

ГЛО́СНІК *м.* рэпрадуктар. Гло́снік раніцай у шэсць гадзін мяне будзіць (Нісімкавічы, Чач.).

ГЛУМІ'ЦЦА *незак.* здзекавацца. Узяў верх над ёю, ды і глу́міцца (Перароў, Жытк.); І не жыві з ім, хіба мало шчэ глуміўся? (Пясчанікі, Жытк.).

ГЛУ'ПАСЬ *ж.* цемрадзь. Бывала, у глу́пась ніхто не смеў і блізка падысці к млыну (Лучыцы, Петр.).

ГЛУША'К *м.* дарога *(глухая)*. Даводзілася мне глушако́м на Магілёў ехаць (Быч, Карм.).

ГЛУШНЯ' *аг., толькі адз.* глушак. Анька, ты як глушня́, трэцці раз гавару, а ты ні атвячаіш (Іскра, Чач.).

ГЛУШЫ'ХА (глушы́ца) *ж.* самка *(глушца)*. Ого, глушы́ха добра крыламі лопае! (Дзяржынск, Лельч.); Глушы́ца нясе свае яйца на зямлі і загрэбвае (Ліпляны, Лельч.).

ГЛЫБАЧЫ'НА *ж.* глыбіня. Тут такая глыбачы́на, утапіцца можна (Дзятлавічы, Гом.).

ГЛЫБАЧЭ'ЗНЫ *прым.* глыбінны. У нас калодзезь глыбачэ́зны (Дубраўка, Добр.).

ГЛЫ'ЖКА *ж.* камяк. Глы́жку зляпіў, дый запусціў глы́жкай (Забалоцце, Раг.); Сыраватыя камы стаўкла, дак асталіся глы́жкі (Халмеч, Рэч.).

ГЛЫКАНУ'ЦЬ *незак.* глытнуць. Нада іці вады глыкану́ць, а то ў році перасохла (Шылавічы, Чач.).

ГЛЯДЗЕ'ЛКІ *толькі мн.* вочы. Чаго ты глядзе́лкі вылупіў (Загор'е, Б.-Каш.).

ГЛЯЎКА'Ч *м.* чалавек *(непаваротлівы, тоўсты)*. Гляўка́ч ужо з'явіўся (Тулыгавічы, Хойн.).

ГМАТ *м.* сяннік. Гма́таў ніякіх няма. Няма на чым спаць класці (Навасёлкі, Петр.).

ГМУЗАВА'ЦЬ *незак.* рабіць *(абы як)*. Яна гмузу́е свой рад і бяжыць першая (Піркі, Браг.).

ГМЫЛЬ *ж.* бацвінне. Ідзі насабірай парасёнку гмы́лі (Дзям'янкі, Добр.).

ГНАЯ'ЎКА *ж.* апенька. Гная́ўка белая такая. Калісь раслі ў каноплях (Піркі, Браг.).

ГНЕ'НУЦЬ *зак.* стукнуць. Немец ботам як гне́нуў (Нова-Мазола, Жлоб.). *Параўн.* гнузданýць, грабанýць, гра́кнуць.

ГНЁТ I *м.* груз. На гуркі абавязкова палажы гнёт, а то прападуць (Крыўск, Б.-Каш.).

ГНЁТ II *м.* чалавек *(скупы)*. Такі гнёт век нічога не дасць (Хальч, Ветк.).

ГНІ'ЛКА *ж.* груша *(гнілая)*. Як гнілка — можна есці, смачныя тады (Хватнае, Хойн.); Калі калацілі грушыну, адны гнілкі падалі (Шарпілаўка, Гом.).

ГНУЗДАНУ'ЦЬ *зак. тое, што* гнёнуць. Уцякай, а то як гнуздану́ (Грушаўка, Добр.).

ГНЯТО'К *м., памянш. да* гнёт I. Колісь у міне гуркі добрыя былі, бо клала я гнято́к (Прысеншчына, Б.-Каш.).

ГО'ДКІ *толькі мн.* абед *(праз год пасля пахавання нябожчыка)*. На го́дкі бацьку сабралі не толькі родных (Зенькавіна, Карм.).

ГО'ЙДА *ж.* чалавек *(высокі)*. Такая го́йда, а рабіць не ўмее (Перароў, Жытк.).

ГО'МЗАЛА *аг.* чалавек *(балбатлівы)*. Як прыйдзе тое го́мзала, дык ніяк няможна адчапіцца ад яго (Стаўбун, Ветк.).

ГОН I *м.* круг *(300 м)*. Трактар зрабіў гон (Стаўбун, Ветк.); Прабег тры го́ны і ўпаў, ета ж бегць бягом кіламетр цэлы (Бярозкі, Браг.).

ГОН II *м.* бег *(сабакі па сляду звера)*. Вось у гэтага сабакі добры гон (Халочча, Чач.).

ГО'ПНУЦЬ *зак.* стукнуць. Як го́пну, дык і душа вунь (Піркі, Браг.).

ГО'РАНЬ (го́рна I) *ж.* муліне. Як багата го́раня ў цябе! (Замосце, Калінк.); Купі ў лаўцы го́рны, усякай навезьлі (Махновічы, Маз.).

ГО'РНА II *прысл.* дрэнна. Го́рна зрабіласё яму (Лучыцы, Петр.).

ГО'РШНІ *толькі мн.* прыгаршчы. Насыплеш дзве го́ршні, разьвядзеш вадою і пячэш (Капань, Рэч.).

ГО'РШЧЫК *м.* гаршчок. Да калі хочаш усе нашы мужыцкія парадкі ведаць, то скажы зварыць го́ршчык кашы (Багуцічы, Ельск.).

ГО'РЫЦЬ *незак.* біць, лупцаваць. Навошта ён тое дзіця го́рыць (Ламачы, Хойн.).

ГО'ЦАЦЬ *незак.* грукацець. Ноч сёння го́цала нешта ў сцяну (Востраў, Раг.).

ГРА'БАЛКА *ж.* грабарка. Учора ехаў Хвядос на гра́балцы (Кароткавічы, Жлоб.); У саўгасе сена грабуць гра́балкамі (Стаўбун. Ветк.).

ГРАБАНУ'ЦЬ *зак., тое, што* гнёнуць. Кажу свайму старому: не пярэч мне, не лайся, а то грабану́, што і ногі задзярэш (Шырокі, Б.-Каш.).

ГРАБЕ'Ц *м.* сахор. Грабцо́м гной з воза ськіваюць (Холмеч, Рэч.).

ГРАБЁНКА *ж., уст.* грабёнка 1. для крыцця саламянай страхі. Пад грабёнку крыяць крышы (Карма,

Добр.); 2. для расчэсвання валос. Грабёнкаю расчэсвалі валасы, канаплі (Арэвічы, Хойн.); 3. для збірання ягад. Грабёнкаю нагроб поўны кашэль чарніц (Антонаў, Ельск.); 4. вяршок *(у вуллі)*. Новыя грабёнкі трэба зрабіць у вуллі (Холмеч, Рэч.).

ГРАБЦЫ′ *толькі мн.* прыстасаванне *(да касы для касьбы грэчкі)*. Бывала я грабцáмі адзін сваю пайку грэчкі выкошваў (Быч, Карм.).

ГРА′ВЕЛЬ *толькі адз.* гравій. Дарога ў нас гразная, нада хоць грáвелю прывезьці (Бабовічы, Гом.).

ГРАДАВІ′К *толькі адз.* серада *(пасля вялікадня)*. На градавікá усё зьбіло градам, і ат таго ня работаюць (Ламачы, Хойн.).

ГРАДКІ′ *толькі мн.,* саскі *(у сукі)*. Іш яе, учапіліся за градкі сабачаняты (Каранёўка, Гом.).

ГРАЗЛІ′ЎКА *ж.* месца *(гразкае)*. Ехаў, ехаў, пры- язджае к гразліўцы (Кісцяні, Раг.).

ГРА′КНУЦЬ *зак., тое, што* гнéнуць. Учора Сцяпан грáкнуў сваю жонку так, што з яе кроў палілася (Антонаў, Ельск.). *Параўн.* гнузданунь, грабануць.

ГРАМАЗДА′ *ж.* куча. Звалілі цэлую грамазду цэглы і паехалі (Асавец, Маз.).

ГРАМАТУ′Х *м.* певень. Граматýх ускочыў на плот і крычыць (В. Нямкі, Ветк.).

ГРАМІ′ДЛА *аг.* чалавек *(нязграбны, няздатны)*. А грамíдла ёй папаўся, луччага і не было (Забалоцце, Раг.); У Насці не дзеўка, а грамíдла нейкая (Шарпілаўка, Гом.).

ГРАНА′Я *(нядзеля)* дзевяты тыдзень *(пасля вялікадня)*. Посьлі паскі пройдзя восем нядзель, а дзевятая нядзеля гранáя будзя (Ліпнякі, Лоеўск.).

ГРАНІ′ЧЫЦЬ *незак.* узрыхляць. Калі бульба ўзыходзіць яе гранічаць (Дзямяхі, Рэч.).

ГРА′НКА *ж.* градка. Вуполола п'яць грáнок сёння (Верасніца, Жытк.).

ГРАНО′К *м.* стрыж *(чорны)*. Гранóк чорненькі (Бабовічы, Гом.).

ГРА′ЦА *ж.* матыка. Абкапала грáцай палавіну гарода (Калінін, Хойн.).

ГРАЧА′НІШЧА *н., толькі адз.* поле *(пасля ўборкі грэчкі)*. Грэчку косяць, а на грачáнішчы шчэ падрасьце трава, і яе косяць жывёле (Холмеч, Рэч.).

ГРАШО′ЎКА *ж.* іголка *(тоўстая)*. Грашóўкай лоўко шыць (Старажоўцы, Жытк.).

ГРО'НДЫ *толькі мн.* нары. Што за гро́нды ў цябе пад хатай стаяць (Навасёлкі, Петр.).

ГРУ'БА *ж.* грубка. У хаце сёння цёпла, бо добра натапілі гру́бу (Навасёлкі, Петр.); Мы каля гру́бы сушылі абутак (Рудня, Чач.).

ГРУБА'Я *прым.* цяжарная. Насця зноў груба́я (Хвойнае, Хойн.).

ГРУД *м.* 1. узгорак. На гру́дзе разлажылі сена, каб сохла (Н.-Гута, Гом.); 2. лоўж. Во груд ляжыць пад хлявом, трэба спаліць (Халочча, Чач.).

ГРУ'ДКА I *ж.* 1. камяк *(зямлі)*. Не кідайце гру́дкі, бо ў вокны пападзіцё (Дзвінскі, Ельск.); 2. кавалачак *(цукру)*. Укінь у чай гру́дку сахару (Неглюбка, Ветк.); 3. грудзі *(пчалы)*. Ёсць у пчалы і гру́дка. Вось яна. Глядзі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ГРУ'ДКА II *прысл.* дрогка. Гру́дка было ехаць па той дарозе (Буйнавічы, Лельч.).

ГРУЗДЗІ'ЛА *н.* цуглі. Груздзі́ла чапляецца да аброці (Холмеч, Рэч.).

ГРУЗЛЯ'ЦЬ *незак.* грузнуць. Ня едзь па той дарозі, а то будзіш грузля́ць увесь час, а то і не вылязіш (Бабовічы, Гом.).

ГРУПАВО'ДКА *ж.* брыгадзір *(жанчына)*. Яна была групаво́дкай і тры тысячы атрымала (Піркі, Браг.).

ГРЫ'БА *ж., тое, што* гéньба. Пракусіў сабе ніжнюю гры́бу (Марозавічы, Б.-Каш.).

ГРЫБА'ТЫ *прым.* губаты. У каго ён такі грыба́ты ўдаўся (Марозавічы, Б.-Каш.); Ох, ты грыба́ты (Неглюбка, Ветк.).

ГРЫБО'ВІЧКА *ж.* жанчына *(якая любіць хадзіць па грыбы)*. Той, хто добра бярэ грыбы, то грыбо́вічка называецца (Ручаёўка, Лоеўск.).

ГРЫБЕ'НІКІ маслякі. А грыбéнікаў у хвойніку колькі хочаш (Астрагляды, Браг.).

ГРЫБКО'ЎКА *ж.* страва *(з грыбамі)*. Хвядот, вазьмі на вячэру адну грыбко́ўку, бо нічога не варыла больш (Амелькаўшчына, Хойн.).

ГРЫБО'ЎНІК *м.* пірог *(з грыбамі)*. Пусты пірог не такі смашны. Я часта начыняла пірагі грыбамі, грыбо́ўнік рабіла (Любань, Б.-Каш.).

ГРЫ'ВА *ж.* 1. узгорак. Тая хата на гры́ві стаіць (Камаровічы, Петр.); 2. месца *(сухое сярод балота)*. Я касіў і гроб сена, выграб усё на гры́ўку (Холмеч, Рэч.).

ГРЫ'ЗНІК *м., бат.* чыстацел. Гры́зьнік ета тое, што

і падтыннік. Ён чарачкамі цвіцець (Марозавічы, Б.-Каш.).

ГРЫ'ЗЦІ *незак.* 1. скубці. А ты сабе запомні, што карова, конь, цяля грызу́ць траву, гусь шчыпле, а кура скубе (Дуброва, Петр.); 2. шамацець. Так ужо грызу́ць, што нельга спаць. Дзе той кот? (Неглюбка, Ветк.).

ГРЫ'НДЖАЛЫ *толькі мн.* сані. Новыя гры́нджалы зрабіў (Хвойнае, Хойн.).

ГРЭ'ПНУЦЦА *зак.* упасці. Тады было цёмна і я як грэ́пнуўся на мёрзлую зямлю (Запясочнае, Маз.).

ГРЭ'ЧЫШНІК *м.* заяц *(які нарадзіўся, калі сеюць грэчку)*. Калі сеюць грэчку, у балацянцы можна не аднаго грэ́чышніка знайсці, яны тады сама маленькія (Каранёўка, Гом.).

ГУБА' *ж.* 1. балота *(вузкае)*. Уся губа́ шчэ стаіць няскошана (Завайць, Нар.); 2. мера *(зямлі)*. У майго суседа було дзве губы́ зямлі (Бярозкі, Браг.).

ГУ'БКА І *ж.* мера *(палатна)*. Гу́бка — ета пяць локцяў (Піркі, Браг); Ты языком і сорак гу́бак наччэш (Кірава, Жлоб.); Ета сцена ў мене шэсць гу́бак, а тая — восем (Ручаёўка, Лоеўск.).

ГУ'БКА ІІ *ж.* мачалка *(з гумы)*. Дай мне гу́бку, буду мыцца (Лукі, Жлоб.).

ГУ'БКА ІІІ *ж.* (губя́к *м.*) нараст *(на дрэве)*. Гу́бка расце ў лесе на пнях, на паваленых дрэвах ена расце (Ручаёўка, Лоеўск.); Губя́к расце на бярозавым пне (Холмеч, Рэч.).

ГУБЯКІ' *мн.* агульная назва грыбоў. Учора дзеці губякоў прынеслі, дык я цэлы вечар з імі правазілася, пракаўбасілася (Мілашэвічы, Лельч.).

ГУ'ГА *ж.* прычоска *(жаночая)*. Глянь, якая ў яе гу́га (Рафалаў, Браг.).

ГУЖВА' *ж.* прывязка. Гу́жву з лазы круцяць і прывязваюць вулей ці яшчэ што (Холмеч, Рэч.).

ГУЗ *м.* ніжняя частка снапа. Падгніў гуз (Неглюбка, Ветк.).

ГУ'ЗІК *м.* бручка. Сёлета сільна добрыя павырасталі гу́зікі (Піркі, Браг.).

ГУЗКІ' *толькі мн.* камель *(снапа)*. Гузка́мі ў рукі, як натыркаям, аж баляць (Быч, Карм.).

ГУ'ЙМА *прысл.* вельмі многа. Яны рыбы налавілі гу́йма (Ворнаўка, Карм.).

ГУ'КАЦЦА *незак.* бегаць *(пра свінню)*. Свіння перастала есці, бо стала гу́кацца (Карчовае, Хойн.).

ГУЛЕ'Ц *м.* гуляка. Во гулёц ужо прыйшоў (Хвойнае, Хойн.); А што ў етага гульца на ўме — толькі гулі (Шарпілаўка, Гом.).

ГУ'ЛІК *м.* аладка *(з мёрзлай бульбы).* З'ясі гу́лік і наеўся. Пасля вайны сабіралі мёрзлую бульбу і пяклі гу́лікі (Зялёныя Лукі, Гом.).

ГУЛІ'ШЧА *н.* гульбішча. Ета ж во, дзе дзявоцкае гулі́шча е (Шарпілаўка, Гом.).

ГУ'ЛЬКА *ж.* паплавок *(у рыбалоўнай сетцы).* Гу́лька лёхкая, над вадой гу́лькі плаваюць; сетка ў вадзе, а гу́лькі зверху (В. Крушынаўка, Раг.).

ГУ'ЛЬКАЦЬ *незак.* балбатаць *(пра індыка).* Калі індзюк гу́лькае, то мясістая нарась над дзюбкай наліваецца кроўю (В. Крушынаўка, Раг.); Раздражнілі, дак бач, як гу́лькае (Піркі, Браг.).

ГУЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. сябраваць. Калісь хлопяц з дзеўкай гуля́ў, а ціпер вы ж павыдумувалі — дружаць ці шчэ што (Ліпнякі, Лоеўск.); 2. танцаваць. Мая дачка вельмі хараша гуля́е на музыках (Запясочнае, Маз.); 3. бегаць *(пра карову).* Карова толькі раз у год гуля́е (Ручаёўка, Лоеўск.).

ГУМНІ'ШЧА *н.* месца *(дзе стаяла гумно).* Гумні́шча зарасло травой ужэ (Бабові́чы, Гом.); А на гумні́шчы лён добры ўдаўся (Багдановічы, Карм.).

ГУРКО'ЎНІК *м.* агурочнік. Папускаў гурко́ўнік косы, дык няма знаць якія (Халочча, Чач.). *Парайн.* гуро́чнік.

ГУРКО'ЎНІШЧА *н., толькі адз.* поле *(пасля ўборкі гуркоў).* Яна на гурко́ўнішча пашла (Бабовічы, Гом.).

ГУРО'ЧНІК *м., тое, што* гурко́ўнік. У мяне такі харошы гуро́чнік (Марозавічы, Б.-Каш.).

ГУРЫ'НА *ж.* ніткі *(баваўняныя).* Ты дай мне гуры́ны, каб ручнік выткаць (Высокія Стралкі, Раг.).

ГУ'СКА І *ж. бат.* 1. лілія *(белая).* Паехаў на чаўне, ды нарваў гу́сак цэлы пук (Перароў, Жытк.); 2. капытнік. Гу́скі евінням на балотах ірвуць (Дубраўка, Добр.).

ГУ'СКА ІІ *ж.* двойка. Сёння я схапіў дзве гу́скі (Дубраўка, Добр.).

ГУСТЫ'Ш (гусцэ́ж) *м.* гушча. Налі мне густы́шу болей (Кароткавічы, Жлоб.); Унук выцягаў увесь гусцэ́ж з супу (Залессе, Чач.).

ГУСЦЕ'ННЫ *прым.* 1. найгусцейшы. Зварыла сягодні гусце́нны суп (Шарпілаўка, Гом.); 2. непраходны *(пра лес).* І трэба ж ім ехаць цераз гусце́нны лес (Церахоўка, Добр.).

ГУСЦЕ′ЧА *ж., толькі адз.* гушчар. Во гусьцéча — ні праехаць, ні прайсці (Карма, Добр.). *Парайн.* гушчэ́ча.

ГУТА′ЛКА (гутатáлка) *ж.* арэлі. Зачапі за баньку лейцы, вазьмі дошку — будзе гутáлка (Пясчанікі, Жытк.); На агародзе мой зрабіў дзецям гутатáлку (Рудня, Жытк.).

ГУТАТА′ХАЦЦА (гутатáцца) *незак.* калыхацца. Як дзеўкі козлы зьдзелаюць, калышуцца і песьні пяюць, гутатáхаюцца (Прыбар, Гом.); А тады на бярэзіну ўскочыла і давай гутатáцца (Барталамееўка, Чач.).

ГУШЧЭ′ЧА *ж., тое, што* гусцéча. Вядзе іх у гушчэ́чу да ў тхлань (Лучыцы, Петр.).

ГЭ′СТЫ *займ.* гэты. Сумна стала чалавеку ў гэ́стуй нетры (Лучыцы, Петр.).

ГЭ′ПНУЦЬ *зак.* ударыць. Да як усхапіў яго за грудкі, ды і гэ́пнуў аб зямлю, ажно змей па пояс у той ток урэзаўся (Навасёлкі, Петр.).

ГЭ′РЧЫК *м.* прайдзісвет. Даўно знаюць гэткіх гэ́рчыкаў (Палессе, Чач.).

## Д

ДАБІ′РКІ *толькі мн.* заканчэнне *(уборкі лёну)*. У калхозе заканчываюць дабіркі, як студэнты прыяжджаюць (Зенькавіна, Карм.).

ДАБІ′ТНЫ *прым.* кемлівы. Ён дабітны такі быў: і плотнік, і хату паставіў (Баравікі, Светл.)/пранырлівы. Ну і дзеўка выросла: такая дабітнáя, ад усіх (Хальч, Ветк.).

ДАБРА′К *м.* баравік. Саб'е дабрáк і не пабача (Ліпнякі, Лоеўск.); У нас усе збіраюць дабракí (Бабовічы, Гом.); У лесе многа дабракóў найшла (Капань, Рэч.). *Парайн.* дабрэ́к, дóбрык.

ДАБРО′ЧЫ *прым.* дыхтоўны. Там пад Цёмным лесам сасняк дабрóчы (Піркі, Браг.).

ДАБРЭ′К *м. тое, што* дабрáк. Дабрэ́к — самы харошы грыб (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* дóбрык.

ДАБЭ′РА *ж.* гатунак *(бульбы)*. У скараспелцы вады болей, чым у дабэ́ры (Быч, Карм.).

ДАВЕ′ЛЬНІК *м.* шыбенік. Давéльніка знялі з віселіцы (Бабовічы, Гом.).

ДАВЕ′СЦІ *зак., перан.* раззлаваць. Давядзéш ты мяне да таго, што шкуру спушчу (Баравікі, Светл.).

ДАВІ′ВАНКА *ж.* від верацяна. Я тры ручайкі зматала ў адну давíванку (Тонеж, Лельч.).

ДАВІ´ЦЦА *незак., перан.* працаваць *(цяжка)*. Я от даўлюся дзень і ноч, а ты лынды б'еш (Насовічы, Добр.).

ДАГНА´ЦЬ *зак., перан.* дапячы. Дагнáлі мне твае госці за нядзелю (Дзвіжкі, Ельск.).

ДАГРЫ´ЗЦІ *зак.* 1. загрызці. Каб яго ваўкі дагрызлі (Насовічы, Добр.); 2. *перан.* даканаць. Дагрыз-такі дзеўку ірад (Насовічы, Добр.).

ДАГРЭ´БЦІСЯ *зак.* дайсці. Мо к вечару як даграбýся да Церахоўкі (Насовічы, Добр.).

ДАГУ´ЛКІ *толькі мн.* гулянне *(у канцы свята)*. Гэта ўжо дагýлкі гулялі, а сабраліся, як і ў першы хрысцінны дзень (Касцюкоўка, Гом.).

ДАДА´МАЎСКІ *прым.* рамачны *(вулей)*. Дадáмаўскія вуллі і рамачныя — адно і тое (Піркі, Браг.).

ДАДО´ЛЬНІЦА *ж.* кашуля *(доўгая)*. Даўно сам у кашулі-дадóльніцы бегаў, а цяпер — дырэктар (Капань, Рэч.).

ДАДО´МКУ *прысл.* дадому. А ну, дадóмку, чэрці! (Стралічаў, Хойн.). *Параўн.* дамóўкі.

ДАЖВЯ´КАЦЬ *зак.* даесці. Ты што, бяззубы? У школу пара ісці, а ніяк не дажвякаеш (Насовічы, Добр.).

ДАЖДЖА´НКА *ж.* вясёлка. А пасля дажджу — дажджáнка на усё неба (Белы Пераезд, Петр.).

ДАЖЫ´НА *ж., толькі адз.* дажынкі. Гаварыў брыгадзір, што пойдам дні два на дажынку (Быч, Карм.).

ДАЗАРЭ´ЗУ *прысл.* вельмі. А маёй дзеўцы безразмерныя чулкі дазарэзу трэба на вечар (Шылавічы, Б.-Каш.).

ДАЗЛЯ´ЦЬ *незак.* дапякаць. Не дазляй мяне, а то як узлюся, дак дам ужо (Палессе, Чач.).

ДАЙСЦІ´ *зак., перан.* змардавацца. Дайшóў ужо гусак і сам (Піркі, Браг.).

ДАКО´ПІНЫ *толькі мн.* 1. дакопка *(бульбы)*. На дакóпіны братавая ўчора прыехала (Насовічы, Добр.); 2. святкаванне дакóпкі *(бульбы)*. Прыходзь на дакóпіны: чарку вып'еш (Беразнякі, Петр.); *Параўн.* дакóпкі.

ДАКО´ПКІ *толькі мн.* 1. *тое, што* дакóпіны. Кончыліся дакóпкі, людзі цяпер лягчэй уздыхнулі (Зенькавіна, Карм.); 2. святкаванне *(пасля дакопкі бульбы)*. Як дакóпкі спраўлялі, дык увесь калгас збіраўся (Баравікі, Светл.).

ДАКО´СЫ *толькі мн.* дакоскі. Каб трохі паднажалі, дык ужо б і дакóсы адгулялі (Беразнякі, Петр.).

ДАКУ´ТЛІВЫ *прым.* дакучлівы. Ён такі дакýтлівы, як дождж асенні (Быч, Карм.).

ДАКУ'ТНА *прысл.* дакучліва. Так дакўтна на душэ — хоць утапіся (Палессе, Чач.).

ДАЛЕ'ТАШНІ *прым.* мінулагодні. Далёташняй зімой у Брагінскім раёне быў ды не заехаў (Піркі, Браг.).

ДАЛІНА' *ж. толькі адз.* роўная прастора зямлі. Ад вёскі да самага лесу даліна́ (Кароткавічы, Жлоб.).

ДАЛО'НЯ *ж.* далонь. У мяне дало́ня ўжо ўся ў маршчынах (Рафалаў, Брат.).

ДАЛО'ЎКА *ж.* падлога. Як ілле да самай дало́ўкі прыгнула міску (Піркі, Браг.); Не стаў дзіця на дало́ўку (Пракопаўка, Гом.).

ДАЛЯЧЭ'ЗНА *прысл.* далёка *(вельмі)*. Ён ад нас далячэ́зна жыве (Дубраўка, Добр.).

ДАМАВІ'НА *ж.* труна. Сам сабе дамаві́ну Дзюдзюн зрабіў (Пясчанікі, Жытк.).

ДАМАВЫ' *наз.* дамавік. Раней людзі ў дамаво́га верылі (Зенькавіна, Карм.).

ДАМАВУ'ХА *ж.* гаспадыня *(дамашняя)*. Усё лета за дамаву́ху была (Нямкі, Ветк.).

ДАМЕ'Р *м.* участак *(прысядзібны, дабаўлены)*. На даме́ры такая бульба харошая (Стаўбун, Ветк.).

ДАМО'ЎКА I *ж.* дом. Наша дамо́ўка далёко (Н. Гута, Гом.); Ідзе і не пазнае сваёй дамо́ўкі (Піркі, Браг.).

ДАМО'ЎКА II *ж.* мыш *(дамашняя)*. Дамо́ўка пераносіць заразныя балезні (Літвінавічы, Карм.).

ДАМО'ЎКІ *прысл. тое, што* дадо́мку. Ідзі, мама, дамо́ўкі (Насовічы, Добр.).

ДАНО'СЧЫВАСЦЬ *толькі адз.* гаўканне *(паляўнічага сабакі на звера)*. Яго дано́счывасць вельмі мне ў ахоце памагае (Піркі, Браг.).

ДАНУ'ТКА *выкл.* Што ты! Дану́тка! Не верыцца зусім (Ветлін, Раг.).

ДАПА'СЦІ *зак.* 1. дабрацца. Дапа́лі аж да Прыпяці й найшлі сена (Хойнікі); 2. натрапіць. Ніяк не дападу́ сабе на спадніцу краму (Крыўск, Б.-Каш.).

ДАПА'ШКІ *толькі мн.* заканчэнне *(ворыва)*. Дапа́шкі вось і к канцу падходзяць (Зенькавіна, Карм.).

ДАПІНА'ЦЦА *незак.* цягнуцца. Будзем дапіна́цца вобраць (Быч, Карм.).

ДАПО'ЛКІ *толькі мн.* 1. заканчэнне *(праполкі)*. Дапо́лкі тады ўжо, калі баразна ці дзве засталіся (Касцюкоўка, Гом.); 2. святкаванне *(заканчэнне праполкі)*. Дапо́лкі ў нас не празнавалі (Там жа).

ДАПЭ'ЎНІЦЦА *зак.* пераканацца, упэўніцца. Трэба

было ўжо дапэўніцца, што б другі раз не ісці (Дзвіжкі, Ельск.).

ДАРАЗУ′МІЦЦА *зак.* дадумацца. Іду: што такое? Не даразу́млюся ніяк (Быч, Карм.).

ДАРО′ЖКА I *ж.* сцежка. Ідзі вон той даро́жкай (Кароткавічы, Браг.)/разора. А паміж радамі даро́жку астаўляюць (Сямёнаўка, Рэч.).

ДАРО′ЖКА II *ж.* 1. палавік. Ідзі павыбівай даро́жкі (Аравічы Хойн.)/сурвэтка. Вышытую даро́жку на дыван ложаць (Багдановічы, Карм.); 2. спосаб вязання. У даро́жку мы чулкі вяжам (Каравацічы, Рэч.).

ДАРО′ЖКА III *ж.* снасць *(рыбалоўная).* Даро́жка таксама з кручкоў робіцца (Піркі, Браг.).

ДАРО′ЖКА IV *ж.* фігура гапака. Адзін выйдзе мужчына і танцуе: даро́жка — скача так у прысядкі (Піркі, Браг.).

ДАРЭ′М *прысл.* дарма. Дарэ́м, ой, саўсім дарэ́м узяла (Холмеч, Рэч.).

ДАСА′ДЗІЦЦА *незак.* журыцца. Даса́дзіцца нешта чалавек (Баравікі, Светл.).

ДАСВЕ′ТАК *м.* (дасве́цце *н.*) досвітак. Бачыш, ужо дасве́так (Піркі, Браг.); От як мы сёння рана паўставалі — у дасве́цці (Холмеч, Рэч.).

ДАСЕ′ЎКІ *толькі мн.* заканчэнне *(сяўбы).* Ужо на дасе́ўкі Васіль вярнуўся дадому (Баравікі, Светл.).

ДАСКА′ *ж.* 1. дошка. Прынёс дамоў даску́. А на верх палажылі абразаныя доскі (Халочча, Чач.)/дошка *(пральная).* Каб вымыць добра, на до́сцы тры (Залессе, Чач.); 2. клетка *(грудная).* Во, баліць грудная даска́ (Залессе, Чач.).

ДАСТАВА′ЦЬ *незак., перан.* даганяць. Хутка ты таго зайца даста́неш (Баравікі, Светл.).

ДАСУ′ЖЫ *прым.* шустры. Новы настаўнік такі дасу́жы (Дуброўка, Добр.).

ДАСЮ′ЛЬ *прысл.* да гэтага месца, часу. Як дасю́ль дайшоў — ні з места (Насовічы, Добр.); Паехаў мой хлопец, і дасю́ль пісьма няма (Насовічы, Добр.). *Параўн.* до́сюль.

ДАТЫКА′ЛЬНЫ *прым.* датканы. Вось як вяжацца датыка́льнае палатно (Кароткавічы, Жлоб.).

ДАТЫКА′ЦЬ *незак.* заканчваць *(ткаць).* А мы ўжо свае кросны датыка́ем (В. Стралкі, Раг.).

ДАТУ′МКАЦЦА *зак.* дадумацца, здагадацца. Пакуль я дату́мкаўся, а яго и след прастыў (Быч, Карм.).

ДАЎБА'НКА *ж.* лодка. Учора прыцягнуў сабе дуб, буду новую даўбáнку дзелаць (Шохаўка, Чач.). *Парайн.* дуб *у* 1 *знач.*

ДАЎБЕ'НЬКА *ж. памянш. да* даўбня́, таўкачык. Дзе даўбéнька, што бульбу таўклі (Ст. Краснае, Рэч.).

ДАЎБЕ'ШКА *ж.* таўкач. Удар мне кабана даўбéшкай, а шыла я сам уваткну (Асінаўка, Светл.). *Парайн.* даўбня́.

ДАЎБІ'ЦЬ *незак.* 1. дзяўбці (*аб птушках*). Насып пшаніцы курам, хай даўбу́ць (Дзям'янкі, Добр.); 2. даўбці. Дзіркі трэба даўбíць (Піркі, Браг.).

ДАЎБНЯ' *ж.* 1. *тое, што* даўбéшка. Дурань стары: тукае даўбнёй, нібы ў ступу (Неглюбка, Ветк.); 2. *зневаж.* чалавек *(нязграбны)*. Чаго ён з гэтай даўбнёй жыве? (Насовічы, Добр.).

ДАЎГАЛЫ'ГІ *прым., зневаж.* даўганогі. Я б можа і пайшла за яго, но ён такі даўгалы́гі (Ветлін, Раг.).

ДАЎГАМУ'ДЫ *прым., зневаж.* даўгатвары. Такі ўжо даўгаму́ды, не дай госпадзі (Неглюбка, Ветк.).

ДАЎГІ' *прым.* доўгі, высокі. Які хлопец даўгí выцягнуўся (Неглюбка, Ветк.)

ДАЎГУНЕ'Ц *м.* гатунак *(агуркоў)*. Мо дасі мне насення даўгунцóў? (Даманавічы, Калінк.).

ДАЎНЕ'ННА *прысл.* даўно *(вельмі)*. Я ўжо даўнéнна хадзіла ў клуб (Дуброўка, Добр.).

ДА'ЦЦА *незак.* удацца. Дáўся нейкі лізбень: ні туды ні сюды (Востраў, Раг.).

ДА'ЧКА *ж.* участак *(сенажаці, поля)*. Сёлета далі дáчку далёка (Неглюбка, Ветк.).

ДАЧУ'ЦЦА *зак.* даведацца. Дачу́ўся ўсіх навасцяў (Лукі, Жлоб.).

ДАШЧА'НІК *м.* бочка *(драўляная)*. Дашчáнікі скрозь былі вялікія (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* дашчáнка *ў* 1 *знач.* дашчáнь.

ДАШЧА'НКА *ж.* 1. *тое, што* дашчáнік. Пасадзіла дашчáнку жыта (Дзякавічы, Жытк.). *Парайн.* дашчáнь; 2. дашчанік *(лодка)*. Пакатаемся давай на дашчáнцы (Уб.-Рудня, Лельч.).

ДАШЧА'НЬ *м.* бочка *(для салення гародніны)*. Паехалі к Ніне, а там на дашчáнь гаворацць шчань (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* дашчáнік, дашчáнка *ў* 1 *знач.*

ДАШЧЭ'ЧКА *ж.* гонта. Крыюць і дашчэ́чкай і шыферам; чым зможам, тым і крыем (Косаль, Карм.). *Парайн.* дор, дрáнка II.

ДВАЙНІ́К I *м.* 1. яйцо *(з двума жаўткамі)*. Мая кура маладзенькая ўвесь час нясе двайнік (Завайць, Нар.); У нікаторых яйках часта бываюць двайнікі (Халочча, Чач.); 2. дрэва *(з двума стваламі)*. Вырас двайнік, прышлося пііліць дрэва (Бабовічы, Гом.).

ДВАЙНІ́К II *м.* від рубанка. Бяры двайнік, стругай, толькі адчапіся (Піркі, Браг.).

ДВАЙНІЧО́К *м.* гаршчочак-спарыш. Два гаршчочкі злітыя вместа завуцца двайнічкóм (Асінаўка, Чач.). *Парайн.* двайнючка, двайняты I.

ДВАЙНЁВЫ *прым.* двайны, здвоены. Двайнёвы гурок, як два разам (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* двайнясты.

ДВАЙНЁВЫЯ *наз.* блізняты. У яе ж двайнёвыя, трудна сарудаваць з імі (Быч, Карм.). *Парайн.* двайнюкі, двóйня I.

ДВАЙНЮ́К *м.* гурок *(здвоены)*. Глянеш, а вон тэй зросся з гэтым — двайнюк (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* двайняты II, двóйня II.

ДВАЙНЮКІ́ *тое, што* двайнёвыя. У мае сястры нарадзіліся двайнюкі (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* двóйня, I.

ДВАЙНЮ́ЧКА *ж., тое, што* двайнічóк. Пастаў двайнючкі на прыпечак (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* двайняты I.

ДВАЙНЯ́К *м.* двайнік *(двухпудовая гіра)*. Ды ён двайняк адной рукой, а ты — пудовая! (Кароткавічы, Жлоб.).

ДВАЙНЯ́СТЫ *прым., тое, што* двайнёвы. Для хаты нашай двайнястае дрэва (Неглюбка, Ветк.).

ДВАЙНЯ́ТЫ I *толькі мн.* гаршкі-спарышы. Пастаў у печ, донька, двайняты (Піркі, Браг.). *Парайн.* двайнічóк, двайнючка.

ДВАЙНЯ́ТЫ II *толькі мн., тое, што* двайнюк. На градзе багата гуркоў-двайнят (Залессе, Чач.).

ДВАНАЦЦАЦІРУ́ЧКА *ж.* каса *(на 12 далоней)*. Узяў у суседа дванаццацірýчку (Піркі, Браг.).

ДВАЯ́К *м.* вілы *(двухрогія)*. Ты паклаў двайк на воз? (Майскае, Жлоб.).

ДВАЯРУ́ЧНІК *м.* рубанак *(з двума ручкамі)*. У магазін прывезлі дваярýчнікі (Баравікі, Светл.).

ДВО́ЙКІ *толькі мн.* здвоеныя *(сляды зайца)*. Во касы ўцякаў: двóек наставіў, такія роўненькія (Ручаёўка, Лоеўск.).

ДВО́ЙНЯ I *толькі адз., тое, што* двайнёвыя. У маёй

цёткі двойня радзілася (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* двайнюкі.

ДВО'ЙНЯ II *ж., тое, што* двайнюк. У мяне на градзе ёсць некалькі двойняў (Забалацце, Раг.). *Параўн.* двайняты II.

ДВО'РАК *м.* дварышча. А я на дворку стаяла, калі ён прышоў (Піркі, Браг.).

ДВУСЦЕ'НКА *ж.* павець. Двусценка — ета калі адна сцяна і крыша над ёй паміж двума будынкамі (Пярэдзелка, Лоеўск.).

ДВУХГАДАВІ'К *м.* двухгадовы *(конь)*. Першы раз сёння паставіў у плуг двухгадавіка (Б.-Крушынаўка, Раг.).

ДВУХКА'ТНЫ *прым.* двухсхільны. Ды бываюць аднаскатныя, двухскатныя стрэхі (Піркі, Браг.).

ДВУХКВО'РТАВЫ *прым.* двухстворкавы. У Тані нашай двухквортавыя дзверы (Кароткавічы, Жлоб.).

ДВУХРА'ДКА *ж.* гатунак *(ячменю)*. У нас во двухрадку пасадзілі. Нічога, добры ячмень (Калінін, Хойн.).

ДВУХРО'ЖНЫЯ *прым.* двухрогія. Двухрожныя вілы не для навоза, а для сена (Піркі, Браг.).

ДЖА'НЫ *прым.* кволы. Хлопчык у цябе такі джаны, што саломінай зламаеш (Грушаўка, Добр.).

ДЖО'ГАЛА *н.* крэсіва. Дай-ка джогала свайго, а то маё падмачыў (Барталамееўка, Ветк.).

ДЖО'ГАЦЬ *незак.* скакаць, сваволіць. Цішэй ты там, а то джогае, аж хата ходарам ходзіць (Быч, Карм.).

ДЖЫГА'ЛА *н.* шыла, швайка. Усе кагалам, і бацька з джыгалам (Грушаўка, Добр.).

ДЗВЕНАЦЦАЦЯРЫ'К *м.* 12-лінейная лямпа. Дзвенаццацярык — ета ўжо такая бальшая лампа (Піркі, Браг.).

ДЗВЕ'НЬКАЦЬ *незак.* назаляць. Што ты дзвенькаеш? Што ты душу матаеш (Камаровічы, Петр.).

ДЗЕВЯ'ТКА *ж.* каса *(на 9 далоней)*. Ты дзевятку вазьмі, зручней (Марозавічы, Б.-Каш.).

ДЗЕВЯ'ТНІК *м.* (дзевятуха *ж.*). Абрадавае свята (у дзевяты чацвер пасля вялікадня). Дзевятнік як прыдзе, дык яшчэ цяжэй становіцца (Баравікі, Светл.); На дзевятуху ў лесе знойдзеш дзевяць чарнічын (Баравое, Лельч.).

ДЗЕВЯЦІ'НЫ *толькі мн.* памінкі *(на дзевяты дзень пасля пахавання)*. Сёння дзевяціны па майму суседу (Неглюбка, Ветк.).

ДЗЕВЯЦЬСІ'Л *м. бат.* дзівасіл. Дзевяцьсіл — на горках расце, цвіце жоўтым цветам (Ручаёўка, Лоеўск.).

ДЗЕВЯЦЬСІ'ЛЬНЫ *прым.* дзівасільны. Дзевяцьсільны корань у мяне ёсць (Пярэдзелка, Лоеўск.).

ДЗЕД I *м.* прадзед. А мы бацькавага дзёда тожа дзедам завом (Насовічы, Добр.).

ДЗЕД II *м.* сноп *(першы зжаты)*. Першы сноп, або дзед, ставім пасерадзіне, а кругом другіе снапы, і ўсё называецца бабкай (Холмеч, Рэч.).

ДЗЕД III *м.* бабка *(з бульбы)*. Сёння я спяку дзёда (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* дранка I, драчо́нка.

ДЗЕ'ДКІ *толькі мн.* чартапалох. Побацце, людзі добрыя, у адных дзёдках прышоў (Падварак, Лельч.).

ДЗЕ'ЖКА *м.* бочка. Муку трымалі ў дзёжках такіх круглых, драўляных (Піркі, Браг.).

ДЗЕ'ЖНІК *м.* века *(дзяжы)*. Таня, ідзі накрый дзёжнікам дзежку (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* дзяжні́к.

ДЗЕ'ЙКАЦЬ *незак.* распускасць *(чуткі)*. Дзёйкаюць, што грошай дабавяць (Неглюбка, Ветк.).

ДЗЕЛЬ *прысл.* дзе-небудзь. Ты дзель назбірай груш і яблык і нахавай (Хойнікі).

ДЗЕЛЯ'НКА *ж.* свежына *(што даюць суседзям)*. Занясі дзеля́нку Хадоры (Жлобін). *Парайн.* дзялёнка.

ДЗЕРАВЕ'НЕЦ *м.* вясковец. Дзеравёнцы цяпер не хужай гарадскіх жывуць (Воранаўка, Карм.).

ДЗЕ'РАВО *н.* скабка. Выцягні мне дзёраво (Вуглы, Ельск.).

ДЗЕРАВЯ'НІКІ *толькі мн.* калодкі драўляныя *(абутак)*. Я такіх дзеравя́нікаў ужо не на́сіў (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* дэраўя́нікі.

ДЗЕРБАЛЫ'ЗНУЦЬ *зак., іран.* выпіць *(гарэлкі)*. Залішне дзербалы́знуў ты сёння (Камсамольскае, Рэч.).

ДЗЕРБІНА' *ж.* аблога. Дзербіна́ дзеда Якава зарасла карчамі (Пагоннае, Хойн.).

ДЗЕРГА'Ч (дзерка́ч I) *м.* драч. Дзерга́ч дзярэ — агонь кладзе, агонь патух — дзёргач папух (Піркі, Браг.); Е такія птушкі дзеркачы́ (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* дзярга́ч, дзярун.

ДЗЕРГА'Ч II *м.* венік *(змецены)*. Пашаруй падлогу дзеркачо́м (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* драч 1, дзярка́ч.

ДЗЕРУ'Н *м.* дранік. Дзеруны́ са смятанай вельмі смачныя (Вуглы, Ельск.). *Парайн.* дзяру́н, дран, драчо́нік.

ДЗЕСЯ́ТКА I *ж,* дошка *(таўшчынёй 10 мм).* Сюды якраз улезе яшчэ адна дзеся́тка (Багданавічы, Карм.).

ДЗЕСЯ́ТКА II *ж.* участак *(воранай зямлі).* Трэба поле на дзеся́ткі падзяліць (Неглюбка, Ветк.).

ДЗЕСЯ́ТУХА I *ж.* свята *(у дзесятую пятніцу пасля вялікадня).* Мы купілі карову якраз на дзеся́туху (Халочча, Чач.).

ДЗЕСЯ́ТУХА II *ж.* шклянка *(50 г.).* Гарэлку п'юць дзеся́тухамі (Баравікі, Светл.).

ДЗЕ́ТУХА *ж.* квактуха. Дзе́туха водзіць куранят (Лядцы, Светл.).

ДЗЕЎБАЛЫ́СНУЦЬ *зак. груб.* стукнуць. Маўчы, а то як дзеўбалы́сну па лбу ложкай (Крыўка, Раг.). *Параўн.* дзярбалы́знуць.

ДЗЕ́ЦІШЧА *м.* дзіця. Дзе́цішча за цябе пацапаецца — лішняя работа (Баравікі, Светл.).

ДЗЁНКА *ж.* дошка *(кухонная).* Не ведаеш, хто дзёнку ўзяў? (Нямкі, Ветк.).

ДЗЁР *м., толькі адз.* адзёр. Паклалі ў бальніцу, а ў яго дзёр (Малыя Аўцюкі, Кал.).

ДЗЁРКА *ж., толькі адз.* мука *(вальцаваная).* Дзёрку трэба перадзіраць (Піркі, Браг.).

ДЗІБА́СТЫ *прым.* высокі. Яна ў цябе такая дзіба́стая (Піркі, Браг.).

ДЗІВАВІ́ЖЭ *прысл.* зайздрасна. І сваё ўсё е, а ў чужой хаце ўсё дзівавíжэ (Махнавічы, Мазг.).

ДЗІКА́Р I *м.* дзікун. Ты, як той дзіка́р (Неглюбка, Ветк.).

ДЗІКА́Р II *м.* камень. Ты шчэ мне ліні на дзіка́р (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* дзіча́к.

ДЗІКАРЫ́ *толькі мн.* пчолы *(дзікія).* Дзікары́ самі ў падполле заляцелі (Гародзец, Гом.).

ДЗІКУ́Н *м.* дзік. Дзікуны́ аж у гарод заходзяць (Каранёўка, Гом.).

ДЗІЧА́К *м., тое, што* дзіка́р II. Дзіча́к халодны, дык і пара не йдзе (Кавака, Браг.).

ДЗІЧЫ́НЫ *прым.* дзікавы. Тут, наверна, дзічы́ны статак прайшоў (Забалоцце, Б.-Каш.). *Параўн.* дзючы́ны.

ДЗІФЦЯРЫ́Я *ж., толькі адз.* скарлаціна. Так пячэ яго, і горла баліць. Мо дзіфцяры́я? (Палессе, Чач.).

ДЗУРАЁМ (дзуралём) *прысл.* ручаём. Вунь як вада дзуралём льецца (Зладзён, Маз.); Дзураём бяжыць кроў з носа (Крупец, Добр.). *Параўн.* дзюрко́м, дзюрчако́м.

ДЗЫ́ГАЦЬ *незак.* 1. бегаць. Уперадзе дзеці дурней-

шыя былі: дзы́гаюць без штаноў (Палессе, Чач.); 2. бадзяцца. Увесь дзень дзы́гае па вуліцы (Бабовічы, Гом.).

ДЗЮ′БКА *ж.* астрыё. Трэба дзю́бку натачыць (Баравікі, Светл.).

ДЗЮ′ЖЫН *м.* тузін. Дайце дзю́жын яблак (Баравікі, Светл.).

ДЗЮРКО′М (дзюрчако́м) *прысл., тое, што* дзураём, дзуралём. Вясной тут дзюрко́м бяжыць (Шырокі, Б.-Каш.).

ДЗЮЧЫ′НЫ *прым., тое, што* дзічы́ны. У бок лесу дзючы́ны статак пайшоў (Кароткавічы, Жлоб.).

ДЗЯБЁЛЫ *прым.* дужы, моцны. Яшчэ зіму перазімуе — дзябёлы стары (Быч, Карм.).

ДЗЯВІ′ЧКІ *толькі мн.* вечарынка *(перад вяселлем).* Мы з сяброўкай хадзілі на дзяві́чкі (Зенькавіна, Карм.). *Параўн.* дзяві́чнік.

ДЗЯВІ′ЧНІК *м., тое, што* дзяві́чкі. Перад вяселлем у хаце нявесты вечарынка бывае — дзяві́чнік называецца (Касцюкоўка, Гом.).

ДЗЯВУ′ЛЯ *ж., зневаж.* дзяўчына. Такой дзяву́лі пара ўжо на работу хадзіць (Пясчанікі, Жытк.).

ДЗЯГА′ *м.* 1. аснова *(лапця).* Дзягу́ спляцеш, а тады і ўвесь лапаць (Кароткавічы, Жлоб.); 2. лаза *(для пляцення лапцей).* Я набраў дзяго́ў і буду лапці плесці (Харомцы, Акц.). *Параўн.* дзя́жка.

ДЗЯДЗІ′НЕЦ I *м.* зруб *(у калодзежы).* Калодзеж высах, нада дзядзі́нец здзелаць (Чарверня, Жлоб.). *Параўн.* дзяці́нец.

ДЗЯДЗІ′НЕЦ II *м., толькі адз.* хвароба. Калі б на цябе дзядзі́нец падкінуўся (Бывалькі, Рэч.). *Параўн.* дзяці̀нец II.

ДЗЯ′ДЗІНКА *ж.* дзядзіна. Змітрачыха — ета ж мая дзя́дзінка (Быч, Карм.). *Параўн.* дзя́дна, дзя́нна.

ДЗЯДКАВА′ТЫ *прым.* з тоўстым камлём *(аб дрэве).* Сосны дзядкава́тыя бываюць у лесе, а места дзяды называюць (Стралічаў, Хойн.).

ДЗЯ′ДНА *ж., тое, што* дзя́дзінка. Ой, дзя́дна мая, калі ты прыйшла? (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* дзя́нна.

ДЗЯДО′К *м.* апора *(страхі).* Дзядкі нада крапіць добра (Холмеч, Рэч.)/апора *(коміна).* Вазьмі жалязяку на дзядка́ (Быч, Карм.).

ДЗЯДУ′Н *м.* дзед. Унь дзяду́н ідзе (Неглюбка, Ветк.).

ДЗЯДЫ′ *толькі мн.* чацвер *(вялікоднага тыдня).* На дзяды́ са стала нічога не ўбіраюць (Беразнякі, Петр.).

ДЗЯ'ЖКА *ж., памянш. да* дзяга́ *ў* 1 *знач.* Антон, падай дзя́жку (Вуглы, Ветк.).

ДЗЯ'ЖКІ *толькі мн.* трэскі. Дзя́жкамі падпалі ў печы (Баравікі, Светл.).

ДЗЯЖНІ'К *м., тое, што* дзе́жнік. Закрый дзяжнікам цеста (Харомцы, Акц.).

ДЗЯЛУ'Н *м.* працаўнік. Ён і мінуты не пасядзіць, такі дзялу́н (Быч, Карм.).

ДЗЯЛЁ'НКА *ж., тое, што* дзяля́нка. Пабег Пятрок к Валодзю, панёс дзялёнку (Быч, Карм.).

ДЗЯЛЯ'НКА *ж.* 1 надзел *(зямлі, сенажаці)*. Тут толькі сенакосныя дзяля́нкі (Баравікі, Светл.); 2. участак *(лесу для высечкі)*. Хай ляснік завядзе на дзяля́нку (Багданавічы, Карм.); участак лесу пасля высечкі. На дзяля́нку будзем кароў ганяць (Палессе, Чач.).

ДЗЯ'ННА *ж., тое, што* дзя́дзінка. Дзя́нна мая прыехала (Камаровічы, Петр.). *Парайн.* дзя́дна.

ДЗЯРБАЛЫ'ЗНУЦЬ *зак., тое, што* дзеўбалы́снуць. Так, дзярбалы́зну, што не ўстанеш (Грушаўка, Добр.).

ДЗЯРБЕ'ННІК *м., бат.* плакун *(трава)*. Калі горла баліць, то дзярбе́ннікам топім (Марозавічы, Б.-Каш.).

ДЗЯРВЯ'НІКІ *толькі мн.* абутак *(на драўляных падэшвах)*. Дзярвя́нікі стукаюць, нібы кожаныя (Нісімкавічы, Чач.).

ДЗЯРГА'Ч (дзяргу́н) *м., тое, што* дзерга́ч 1. Дзярга́ч на балоце жыве (Мілевічы, Жыт.); Дзяргуны́ праз нядзелю прыляцяць (Каранёўка, Гом.).

ДЗЯРЖА'ЛНО *н.* дзяржанне *(у вілах)*. Ніяк не зро-
ДЗЯРКА'Ч І *м., тое, што* дзерга́ч 1. Як задзярэ дзяржа́нка.

ДЗЯРЖА'Н *м.* матавіла. Схадзіце дзяржа́н папрасіце (Грушаўка, Добр.).

ДЗЯРЖА'НКА *ж.* дзяржанне *(у граблях)*. Абстругай дзяржа́нку ў граблі добрую (Даманавічы, Калінк.). *Парайн.* дзяржэ́лно.

ДЗЯРКА'Ч І *м., тое, што* дзерга́ч 1. Як задзярэ дзярка́ч, будзе скора цёпла (Лядцы, Светл.). *Парайн.* дзерка́ч, дзярга́ч, дзяргу́н.

ДЗЯРКА'Ч ІІ *м., тое, што* дзерка́ч ІІ. Выкінь еты дзярка́ч з хаты (Станькоў, Раг.). *Парайн.* драч 1.

ДЗЯРКА'Ч ІІІ *м., іран.* задзіра. Сідор такі дзярка́ч, што ні с кім ні ўжыве (Прудок, Калінк.). З етым дзяркачом аніхто не хоча дружыць, усе яго баяцца (Быч, Карм.). *Парайн.* дзяру́н ІІ.

ДЗЯРНІ'НА *м.* пласт (*узаранай зямлі*). Во дзярніна ўся ў зямлі (Чкалава, Гом.).

ДЗЯРУ'ГА I *ж.* посцілка (*саматканая*), коўдра. Бяры дзяру́гу, пойдам на траву (Палессе, Чач.); Накрый дзяцей дзяру́гай (Неглюбка, Ветк.)/грубы саматканы матэрыял. Дзяру́га, якой пол мыю, у сенях (Багуцічы, Ельск.).

ДЗЯРУ'ГА II *ж., лаянк.* растропа. Каб цябе радзімцы забілі, дзяру́га ты праклятая! (Палессе, Чач.).

ДЗЯРУ'Н I *м., тое, што* дзеру́н. I ў васкрэснік зраблю дзяруно́ў (Буйнавічы, Маз.). *Парайн.* дран, драчо́нік.

ДЗЯРУ'Н II *м., зневаж. тое, што* дзярка́ч III. Не будзь, Сашка, дзяруно́м (Кароткавічы, Жлоб.).

ДЗЯ'СЛЫ *толькі мн.* дзясны. Дзя́слы баляць, папякла (Жыткавічы).

ДЗЯ'ТЛАЎКА *ж., толькі адз.* канюшына (*дзікая*). Дзя́тлаўка дак белымі цветочкамі цвіце (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* дзя́цельнік.

ДЗЯ'ТЛІК *м.* шклянка (*100 г*). Дастаў Цімох у Юдашкінай два дзя́тлікі, выпіў, дак лягчэй стала (Палессе, Чач.).

ДЗЯ'ЦЕЛЬНІК *м., толькі адз. тое, што* дзя́тлаўка. Насабірай дзя́цельніку трусам (Асінаўка, Светл.).

ДЗЯЦІ'НЕЦ I *м., тое, што* дзядзі́нец I. Робяць калодзец, а далей капаць не можно — робяць дзяці́нец (Ручаёўка, Лоеўск.).

ДЗЯЦІ'НЕЦ II *м., тое, што* дзядзі́нец II. Цэлы тыдзень малога дзяці́нец мучыў (Піркі, Браг.).

ДЗЯЦІ'НЕЦ III *м.* дзядзі́нец. Гані-ка, брат, курэй, на дзяці́нец, хай травы паядзяць (Хракавічы, Браг.).

ДЗЯ'ЧЫЦЬ *незак., іран.* гаварыць. Можа ні так, а я ўсё дзя́чу (Быч, Карм.).

ДЗЯ'ЎКАЦЬ *незак., груб.* гаварыць (*абы што*). От не дзя́ўкай ты (Холмеч, Рэч.).

ДЗЯЎЧУ'Р *м., зневаж.* каханак. Дзяўчу́р, не хадзі за дзяўчаткамі (Дуброўка, Добр.).

ДЛЯ *прысл.* каля. Сядзь для мяне, неслух (Насовічы, Добр.).

ДМУ'ХАЦЬ I *незак.* чмыхаць. Перастань ты дму́хаць сваім носам, надаеў ужо (Марозавічы, Б.-Каш.).

ДМУ'ХАЦЬ II *незак., перан.* патураць. Дму́хаюць на іх, так яны і не слухаюцца нікога (Пракапаўка, Гом.).

ДО'БРЫК *м., тое, што* дабрак. Набрала адных до́брыкаў, буду ў пост капусту варыць (Майскае, Жлоб.).

ДО'ЙКА I *ж.* 1. даенне *(кароў)*. Як на ферме кароў многа, дык до́йка пад свет (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. даярка. Я працавала до́йкаю на ферме цалюткіх дзесяць гадоў (Салаўёў, Б.-Каш.).

ДО'ЙКА II *ж.* сасок *(у каровы)*. Трэба карове до́йкі памуць, а то вельмі гразныя (Ручаёўка, Лоеўск.).

ДО'ЛІ *прысл.* унізе. Пастаў вядро до́лі (Быч., Карм.).

ДОЛІ'НА *ж.* заліўны луг. У долі́не цепер не поросла трава (Верасніца, Жытк.).

ДО'МКА *прысл.* дома. А фельшарка ўсё до́мку прымала (Піркі, Браг.).

ДО'НЦА I *н.* ніжні слой *(цыбуліны)*. До́нца трэба зрэзаць, намачыць, а потым садзіць (Капараўка, Рэч.).

ДО'НЦА II *н.* прасніца. Была б кудзелька, а до́нцы взаймы возьмем (Казацкія Баўсуны, Ветк.).

ДО'НЬКА (до́ня) *ласк.* дачушка. Мая до́нька, ты ж дагледзь парася ў абедзе (Заспа, Рэч.); Збегай, до́ня, прынясі вады (Крыўск, Б.-Каш.). *Параўн.* доча I.

ДОПІ'РУ *прысл.* нядаўна. Ён во допі́ру быў тут (Вуглы, Ельск.).

ДОР *м., толькі адз. тое, што* дашчэ́чка. До́рам хату пакрыю. (Хойнікі). *Параўн.* дра́нка II, дашчэчка.

ДО'СВІТКА *прысл.* досвіткам. Устала шчэ до́світка, глядзь — цялёнак ляжыць (Палессе, Чач.).

ДО'СЕЎКІ *толькі мн., тое, што* дасе́ўкі. Закончыліся до́сеўкі вельмі позна (Стаўбун, Ветк.).

ДО'СЮЛЬ *прысл., тое, што* дасю́ль. До́сюль дайшлі і сталі (Запясочча, Жытк.); Як пайшлі й до́сюль няма (Антонаў, Ельск.).

ДОЎЖ *м.* заткала *(уваходу ў вулей)*. Во ета даска і ё той самы доўж (Піркі, Браг.).

ДО'ЎЖЫК I *м.* жарало *(у калодзежы)*. Сама дзірка ў калодцы до́ўжыкам называецца (Баравікі, Светл.).

ДО'ЎЖЫК II *м.* доўгае бервяно *(у зрубе)*. Пакладзем до́ўжык — і замочым тады (Неглюбка, Ветк.).

ДО'ЎЖЫКІ *толькі мн.* гатунак *(агуркоў)*. До́ўжыкі пазней цвітуць, чым скараспелкі (Капараўка, Рэч.).

ДО'ХТАРШАЯ *ж.* доктарка. Да вайны ў міне до́хтаршая жыла (Бабовічы, Гом.).

ДО'ЧА I *ж., ласк., тое, што* до́нька, до́ня, Мая до́ча разумненькая, любіць мамку (Дубраўка, Добр.).

ДО'ЧА II *ж.* дача. До́чы такія панастроілі, люба глянуць (Піркі, Браг.).

ДРАБЁНКА *ж.* прылада *(для крыцця страхі).* Куды драбёнку задзелі? З чым работаць буду? (Марозавічы, Б.-Каш.).

ДРАБІ'ЛКА *ж.* сячкарня. Штось драбілка для сена плоха работае (Стаўбун, Ветк.).

ДРАБІ'НА *ж.* 1. лесвіца. Упаў з драбіны, то насілу ўстаў (Перароў, Жытк.); 2. бакавіна (калёс). Наваліў сена па драбіну, а кажа, каб мякчэй было (Запясочча, Маз.). *Парайн.* дра́бы, дрябіна.

ДРА'БКА *ж.* матыка. Дра́бкамі капаюць бульбу (Капань, Рэч.). *Парайн.* драпач, драпкач, драчка II.

ДРА'БКІ *толькі мн.* вілы *(для насыпання бульбы).* Дра́бкамі бульбу выграбаюць із зямлі і наверх (Там жа). *Парайн.* дра́йцы, дра́пцы.

ДРАБНАСЛО'ЙКА *ж., толькі адз.* від драўніны. Драбнасло́йка добра на дранку; можна драць да самага стрыжня (Суткоў, Лоеўск.).

ДРАБЦЫ' *толькі мн.* прыстасаванне *(для касы).* Касілі драбца́мі: к касе лапу с пальцамі дараблівалі, каб грэчка радкамі лажылась (Баравікі, Светл.).

ДРА'БЫ *толькі мн., тое, што* драбіна *ў 2 знач.* Нагрузіў дроў вышэй драб (Грушаўка, Добр.). *Парайн.* драбіна ў 2 знач. дрябіна.

ДРАВІ'ЦКА *ж.* цёлка *(першага ацёлу).* Той год была драві́цка, а цяпер другога цялёнка прывяла (Засінцы, Ельск.). *Парайн.* дрові́ца.

ДРАВО'ТНІК *м.* дрывотня. Там дзесьці каля драво́тніка яна стаяла (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* дрывя́тня.

ДРАВЯ'НЫ *прым.* стары *(пра дрэва).* У нашым лесе вельмі многа драўя́ных дрэў (Халочча, Чач.).

ДРА'ГАЦЬ *незак.* стукаць. Ён дра́гаў к нам, алі я не аткрыла (Ветлін, Раг.).

ДРА'ГЛІ *толькі мн.* квашаніна. Дра́глі вунесь у сенцы, штоб застылі добрэ (Вуглы, Нар.). *Парайн.* дрыжая́.

ДРА'ЙЦЫ *толькі мн., тое, што* дра́блі, дра́пкы. Раней сыпалі бульбу рукамі, а не дра́йцамі (Чарнейкі, Рэч.).

ДРАН *м., тое, што* дзеру́н. Драно́ў танюсенькіх напеклі (Заспа, Рэч.). *Парайн.* дзярун, драпуны́, драч II, драчо́нік, драчо́ны, дэру́н.

ДРА'НІЧНЫ *прым.* гонтавы *(цвік).* Дрэ́нічных цвікоў прывезлі, можна пачынаць работаць (Кароткавічы, Жлоб.).

ДРА'НКА І *толькі адз., тое, што* дзед III. Дзеці дужа

дра́нку любяць, дык мушу і варыць (Меркулавічы, Чач.). *Параўн.* драчо́нка/бульба *(цёртая).* Надзёрлі дра́нкі і начынілі кішкі (Капань, Рэч.).

ДРА́НКА II *ж.* гонта. Дра́нку прывезлі, будзем дах рабіць (Халочча, Чач.)/матэрыял *(для пляцення кошыкаў).* Чалавек мой сёння прынёс багата дра́нак і заўтра будзе плесці каробкі (Антонаў, Ельск.). *Параўн.* дашчэ́чка, дор.

ДРА́НЫ *толькі мн.* крупы. Дра́ны ўзяла ў лаўцы (Дзям'янкі, Добр.).

ДРАНЬ *ж., толькі адз.* гной. Садраў мазоль, і ўся дрань выйшла (Бабовічы, Гом.).

ДРАПА́К *м.* назва *(танца).* Дай драпака́, так скача сабе туды-сюды (Піркі, Браг.).

ДРАПАКІ́ *толькі мн.* граблі *(жалезныя).* Драпака́мі добра пурэй вуцягваць (Махновічы, Маз.).

ДРА́ПАЦЬ *незак. груб.* уцякаць. А чаго ты тады ад яго дра́паў, калі не баішся? (Цагельня, Раг.).

ДРАПА́Ч *м., тое, што* дра́бка. Вазьмі драпа́ч, паварушы зямлю пасля дажджу (Дземяхі, Рэч.). *Параўн.* драпка́ч, дра́чка II.

ДРАПКАВА́ЦЬ *незак.* рашо́ціць *(для тынкоўкі).* Надрала дранкі, буду драпкава́ць хату (Марозавічы, Б.-Каш.).

ДРАПКА́Ч *м., тое, што* дра́бка. Калі ўскапаюць зямлю, то яе дра́пкачом разбіваюць (Гармавічы, Жлоб.). *Параўн.* драпа́ч, дра́чка II.

ДРАПУНЫ́ *толькі мн.* драчоны. Сёні няўдачныя драпуны́ палучыліся (Макарычы, Петр.). *Параўн.* дран, драч II, драчо́нік, драчо́ны, дэру́н, дзерун, дзярун.

ДРАПЦЫ́ *толькі мн., тое, што* дра́бкі. Драпца́мі добра бульбу насыпаць (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* дра́йцы.

ДРА́ЦЦА *незак.* расці. Узяла парастак вінаграду, дык ён цяпер на крышу дзерэ́цца (Піркі, Браг.).

ДРАЦЬ *незак.* 1. разграбаць. Куры грады дзяру́ць — спасу нема (Насовічы, Добр.); 2. скубсці. Хадзіла к Еве пер'е драць на падушкі (Дубрава, Петр.); 3. пяршыць. Дзярэ́ ў горле, а чаго — не знаю (Халочча, Чач.); 4. забіваць, рэзаць. На свадзьбе ў жэніха нявесціны госці далжны задраць кура. Ежэлі не дадуць драць, нявесце — пазор (Марозавічы, Б.-Каш.).

ДРАЦЯ́НІК *м.* гаршчок *(аплецены дротам).* Драця́нік не паб'ецца, як упадзе (Нароўля).

ДРАЧ І. *м., тое, што* дзеркáч ІІ. Падай мне драч, трэба сажу з трубы вымесці (Чачэрск.). *Параўн.* дзяркáч.

ДРАЧ ІІ *м., тое, што* дран. Напяку драчоў на ўсіх (Паташня, Хойн.). *Параўн.* драпуны́, драчóнік, драчóны, дэру́н.

ДРА'ЧАЧКА *ж., памянш. да* дрáчка. Папрасі дрáчачку ў Арыны (Піркі, Браг.). *Параўн.* дрáчка І.

ДРА'ЧКА І *ж.* драчка *(кухонная)*. Памый дрáчку, бо там бульба засталася (Н. Гута, Гом.).

ДРА'ЧКА ІІ *ж., тое, што* дрáбка. Набі дрáчку, а то заўтра рана ў поле (Літвінавічы, Карм.). *Параўн.* драпáч, драпкáч.

ДРА'ЧКА ІІІ *ж.* 1 цяслярны інструмéнт. Дрáчкаю прыдзіраюць палены, каб шчыльна прылягалі (Засінцы, Ельск.); 2. *уст.* грабёнка. Пачашы кудзелю дрáчкай (Насовічы, Добр.).

ДРА'ЧКА ІV *ж.* паз. Убіраецца дрáчка, і тады падганяеш і ложыш (Ручаёўка, Лоеўск.)/сцёс *(у бервяне)*. Здзіраюць дрáчку, потым кладзецца роўна (Піркі, Браг.).

ДРАЧО'НІК *м., тое, што* дзерун. Сянні на абед думаю драчóнікі здзелаць (Быч, Карм.). *Параўн.* драпуны́, драчóны, дэру́н, драч ІІ.

ДРАЧО'НКА *ж., толькі адз., тое, што* дрáнка І. Дужа наравіцца яму драчóнка (Палессе, Чач.).

ДРАЧО'НЫ *толькі мн., тое, што* драпуны́. Сённі драчóнаў наемся па завязку (Востраў, Раг.). *Параўн.* драч ІІ, драчóнік, дзерун, дзярун, дэру́н.

ДРАЧЫ'ЦЦА *незак.* непакоіцца. От баіцца авадоў дай дрóчыцца (Засінцы, Ельск.).

ДРАЎСЁН *м., толькі адз.* драсён. Драўсён сустракаецца часцей каля возера (Пагост, Жытк.).

ДРОБНАМЕ'НЬКІ *толькі мн.* мешаніна. Сёння давала карове зранку дробнамéнькі (Хвойнае, Хойн.).

ДРО'ВІЦА *ж., тое, што* дравіцка. Она шчэ молода. Дае молока толькі ек дрóвіца (Мілашэвічы, Лельч.).

ДРУГА'К *м.* другая *(адроеная сям'я пчол)*. З другакóм я доўга намаяўся (Кароткавічы, Жлоб.).

ДРУЖЫ'НА *толькі адз.* удзельнікі (*вясельнага рытуалу)*. Дру́жына з маладым ік маладой ідзе (Гарывада, Рэч.).

ДРУК *м.* дубец, палка. Вазьмі друк і гані карову (Капань, Карм.). *Параўн.* дру́чка./рычаг. Бярвенне грузілі на воз друкáмі (Чырвоная Буда, Добр.). *Параўн.* дру́чка, дрын.

ДРУ′ЦА *ж., толькі адз.* каша *(з ячменю)*. Толькі дру́цы не вары (Барталамееўка, Ветк.).

ДРУ′ЧКА *ж., тое, што* друк *у* 1 *знач.* Донечка, пайдзі назбірай дручко́ў (Піркі, Браг.). *Параўн.* дрын.

ДРУЧО′К *м.* планка *(у драбінах калёс)*. Надзень дручо́к на баляскі (Неглюбка, Ветк.).

ДРЫВЯ′НЫ *прым.* драўляны. Дрывя́ны і баравы мох ідзе на пастройку (Гармавічы, Жлоб.).

ДРЫВЯ′ТНЯ *ж., тое, што* дравотнік. Сабраліся раніцой ля дрывя́тні і дагаварыліся (Забалоцце, Раг.).

ДРЫ′ГАЦЬ *незак.* крычаць. Чаго ты ўчора на ўсю вуліцу дры́гаў? (Ветлін, Раг.).

ДРЫЖАЯ′ *ж., толькі адз., тое, што* дра́глі. Я наварыла дрыжаі́ з кураціны (Хвойнае, Хойн.).

ДРЫ′ЗІНА *ж., толькі адз.* хлусня, плётка. Плёў, плёў нейкую дры́зіну (Амелька, Раг.).

ДРЫЛЕ́ЎКА *ж., толькі адз.* тралёўка. На дрыле́ўцы трактарыст многа не палучыць (Халочча, Чач.).

ДРЫ′ЛІК *м.* спадніца *(льняная)*. Ты сення ў дры́лік прынарадзілася (В. Стралкі, Раг.).

ДРЫМО′ТНІК *м., толькі адз.* трава *(лекавая)*. Ты што дрымо́тніку напіўся (Падварак, Лельч.).

ДРЫН *м., тое, што* друк *у* 1 *знач.* Біры дрын і бі так прама (Ветлін, Раг.). *Параўн.* дру́чка.

ДРЫ′ПАЦЬ *незак.* плесціся, ісці. Дры́пае ўжэ, нада яна тут (Насовічы, Добр.).

ДРЯБІ′НА *ж., тое, што* драбі́на I. Здзелай дрябі́ну новую, дымаход пачыніць трэба (Неглюбка, Ветк.).

ДУБ *ж.* 1, *тое, што* даўба́нка. Дуб — лодка здаровая, сядзіш і не шатаешся (Ручаёўка, Лоеўск.); 2. задняя частка лодкі. Дуб і е дуб, ето што ў лодцы ззаду (Ручаёўка, Лоеўск.).

ДУБАВА′ХА *ж.* круг *(на вадзе)*. Глянь, якая дубава́ха — на ўсю рэчку (Брагін).

ДУБАВІ′К *м.* грыб. Дубаві́к такі цёмны цветам, цвёрды і без ножкі (Даманавічы, Калінк.).

ДУБА′СІШЧА *н.* лес *(дубовы)*. У дуба́сішчы паддубовікаў шмат (Піркі, Браг.).

ДУ′БЕЛЬТ *заал., м.* дупель. Ду́бельты тут такуюць (Каранёўка, Гом.). *Параўн.* дуплана́цік.

ДУБЕ′ЦЬ *незак.* мёрзнуць. Так сённі холадна, што пальцы дубеюць (Пясчанікі, Жытк.).

ДУБНІ′К *м.* дубняк. Раньшай дубніку́ было багата (Быч, Карм.).

ДУБО'ВІК *м.* плытагон. Дубóвіку болей усіх плацілі (Кароткавічы, Жлоб.).

ДУ'БРАЎКА (дубрóўка) *ж., бат.* зуброўка *(расліна).* Ета трава такая лячэбная дýбраўка, ат жывата (Гармавічы, Жлоб.); Дубрóўка ў алешніку расце: верх яе не ўпатрабляюць (Баравікі, Светл.).

ДУБЯ'НКА *ж.* посуд *(з дубу для мёду).* Іванаву дубя́нку прынёс, а яны сцягнулі (Насовічы, Добр.).

ДУГА' *ж., толькі адз.* 1. вясёлка. Глядзі, дугá воду набірае (Буйнавічы, Маз.); 2. каромысла. Дугá плоскай робіцца, каб не муліла плячо (Любань, Б.-Каш.).

ДУ'ЖА *прысл.* вельмі. Дýжа многа бульбы сёлета (Неглюбка, Ветк.).

ДУКАВА'ЦЬ *незак.* вучыць. Цябе яшчэ дукавáць ды дукавáць трэба (Кабанаўка, Жлоб.).

ДУЛА'ТЫ *прым.* аброслы. Наша адна курыца дулáтая, як у штанах (Бабовічы, Гом.).

ДУ'ЛЬКА *ж.* кудзеля. Спрала дзве дýлькі (Пагоннае, Хойн.).

ДУ'ЛЯ *ж.* 1. гатунак *(груш).* У Міколы дýлі па кулаку растуць (Неглюбка, Ветк.); 2. *жарт.* кукіш. Дай ты яму дýлю пад нос і не разгаварывай (Ніўкі, Добр.).

ДУ'НУЦЬ *зак., перан.* уцекці. Хлопцы нашы як дýнулі, што з сабакамі не дагоніш (Быч, Карм.).

ДУПЛАНА'ЦІК *м., тое, што* дýбельт. Чалавек з Светлагорска прыяжджаў з ружжом, пытаў дупланáцікаў (Баравікі, Светл.).

ДУПЛЯ'ВЫ *прым.* дуплаваты. Уся бручка еты год дупля́вая (Бабовічы, Светл.). *Парайн.* дупля́ны, дупля́ты, дупляня́ты.

ДУПЛЯ'К *м.* (дупля́нка *ж.*). вулей *(з дупла).* Дуплякóў дваццаць у дзеда было; за тысячу прадалі (Насовічы, Добр.); Дупля́нак зараз менш ранейшага, ды і ў тых пчол няма (Піркі, Браг.).

ДУПЛЯ'НЫ (дупля́ты, дупляня́ты) *прым., тое, што* дупля́вы. Картошка і бруква бывае дупляная (Холмеч, Рэч.); Рэдзькі не паясі, бо ўся дупля́та (Сямёнаўка, Рэч.); Багата дупляня́тай бручкі ў брыгадзе (Неглюбка, Ветк.).

ДУРУКАВА'ТЫ *прым.* наравісты. Калі конь дурукавáты, дак і людзей убівае і воз абарачвае (Ручаёўка, Лоеўск.).

ДУРМА'Н *м., толькі адз.* піжма. Ета ў нас піжму дурмáнам дразняць (Холмеч, Рэч.).

ДУ́РНА *прысл.* дарэмна. Ду́рна ты хадзіла, ён жа цяпер у атпуску (Грушаўка, Добр.).

ДУРНАП'ЯН *м.* блёкат. Я раз дурнап'я́ну з'еў, дак на сценку лез (Насовічы, Добр.).

ДУРНІ́ЧНЫ *прым.* буяковы. Наварыла кісялю дурні́чнага, а есць ніхто не хоча (Забалацце, Раг.).

ДУРНЫ́ *(мох) прым.* багун. Калі багуну нанюхаесся, то галава баліць, таму дурны́ мох кажуць (Баравікі, Светл.).

ДУРО́НІК *м.* свавольнік. Такі дуро́нік, вока не спускай (Харашоўка, Добр.).

ДУРО́НЫ *прым.* свавольны. Ён надта дуро́ны ў яе, настаўніца казала (Харошаўка, Добр.).

ДУ́СЦІЦЬ *незак.* пасыпаць *(дустам)*. Кукурузу ду́сцілі, а ўсё раўно прапала (Быч., Карм.).

ДУХ I *м., толькі адз.* паветра (цёплае). Зачыні юшку, а то дух выйдзе (Дзвіжкі, Ельск.)/пара *(вадкасць)*. Паддай-ка ду́ху да пагуляй з венічкам (Чачэрск.)/пах. Ат пірагоў такі дух ідзе, аж галава кружыцца (Насовічы, Добр.).

ДУХ II *м.* пузыр *(у рыб)*. Калі рыба сушаная, то дух можна выняць, на спіцы пажарыць і есць (Старажоўцы, Жытк.).

ДУ́ХА *н.* свята *(рэлігійнае)*. На ду́ха ў хату прыносяць кляновыя веткі (Касцюкоўка, Гом.).

ДУХАВЫ́ *прым.* туалетны *(аб мыле)*. Ні порць духаво́га мыла, ні будзе чым ліцо памыць (Палессе, Чач.).

ДУ́ХВЕНЬ *м.* (ду́хвіна *ж.*) пах. Пад ду́хвень нільзя біць (Марозавічы, Б.-Каш.); Як дасць пад ду́хвіну, той і прылёг (Грушаўка, Добр.). *Параўн.* ды́хавіца, ды́хала, ды́хла.

ДУХМЕ́НЬ *ж.* сухмень. Такая духме́нь стаіць — нечым дыхаць (Бабовічы, Гом.).

ДУ́ЧКА I *ж.* 1. пячора. Як дождж пайшоў, мы ду́чкі зрабілі ў гарэ і схаваліся (Вуглы, Ельск.)/ямка. Пад ету яблыню ду́чку выкапай невялікую (Чыстыя Лужы, Добр.); 2. душнікі. На зіму закрылі ду́чкі (Ельск.). *Параўн.* душніца, душня́к.

ДУ́ЧКА II *ж.* «вочка» *(у бульбе)*. Ду́чкі будам перабіраць у бульбі (Чарнейкі, Рэч.).

ДУШАГРЭ́ЙКА *ж.* 1. камізэлька. Бульбу харашо капаць у душагрэ́йцы: і цёпла, і рукавы ні мішаюць (Барталамееўка, Чач.); Настаўнік такі красівы, і душагрэ́йка пад летнікам (Антонаў, Ельск.); 2. печка *(жалезная)*.

Селі перад душагрэйкай трохі рукі атагрэць (Быч, Карм.).

ДУШКІ′ *тольк мн.* кветкі *(духмяныя)*. Душкі тут па ўсяму полю растуць. Як вецер падуе, дак ены пахнуць вельмі красіва (Ручаёўка, Лоеўск.).

ДУШНІ′ЦА *ж., тое, што* ду́чка ў 2 знач. На зіму душніцы ўсе закрываем (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* душня́к.

ДУШНЯ′К *м.* 1. *тое, што* ду́чка I. Душнякі на то, каб воздух падходзіў пад пол (Ручаёўка, Лоеўск.); 2. запечак. Пакладзі рукавіцы ў душня́к, хай высахнуць (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* душніца.

ДУШО′ЎКА *ж.* мера плошчы *(каля 25 араў)*. Зжала я душо́ўку жыта, пацёрла сама (Дубраўка, Добр.).

ДЫ′БАЧКІ *толькі мн.* дыбкі. Стань на ды́бачкі і дастанеш (Замосце, Калінк.).

ДЫВА′Н *м.* посцілка. Каб трапкі не прападалі дарэмна, дыва́н выткала (Нісімкавічы, Чач.).

ДЫ′ЛІ I *толькі мн.* Нейкія ды́лі ў цябе, Прося, няроўныя (Вялікае Поле, Петр.).

ДЫ′ЛІ II *толькі мн.* брусы. Ды́лі прывезлі ад мельніцы і звалілі ля старое хаты (Вуглы, Ельск.).

ДЫМАКУ′Р *м.* дымар. Узяў дымаку́р і абышоў усе вуллі (Стаўбун, Ветк.).

ДЫ′МНІЦА *ж.* галлё *(зялёнае)*. Нарвала б ты ды́мніцы, а то камарэ з'ядзяць (Падварак, Лельч.).

ДЫМНЯ′К *м.* порах *(дымны)*. Дымняка́ магу даць, а бяздымнага ў самога няма (Каранёўка, Гом.).

ДЫНЕ′Т *часц.* не. Дынёт, няпраўда гэта (Лагуны, Добр.).

ДЫРЭ′КТАРКА *ж.* жонка *(дырэктара)*. Наша дырэ́ктарка такая ласкавая, абыходлівая (Н. Свет, Б.-Каш.).

ДЫ′ХАВІЦА *ж.* (ды́хала, ды́хла *н.), тое, што* ду́хвень, ду́хвіна. Ударыў пад ды́хавіцу, той і не зіхнуў (Багданавічы, Карм.); Стукнуў прама пад ды́хала, разбойнік (Чацвярня, Жлоб.); Во тут пад рэ́брамі ды́хла (Асінаўка, Чач.).

ДЫ′ШАЛЬ *м.* плуг. Ды́шаль, тое ж, што і плуг у нас. Гараюць (Ручаёўка, Лоеўск.).

ДЭ′МАН *м., перан.* шалапут. А нямытэй ты дэ́ман. Як вымажацца, ня паняць, хто такі (Быч, Карм.).

ДЭРАЎЯ′НІКІ *толькі мн., тое, што* дзеравя́нікі. Шчэ вайною калісь свекар дастаў мне дэраўя́нікі (Кірава,

ДЭРУ́Н *м., тое, што* дзерун. Сегонні дэруны́ на снеданне пекла (Дзяржынск, Нар.). *Параўн.* дзярун, дран, драпуны́, драч II, драчо́нік, драчо́ны.

## СКАРАЧЭННІ І УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

### 1. Назвы раёнаў Гомельшчыны

Акц.— Акцябрскі; Б.-Каш.— Буда-Кашалёўскі; Браг.—Брагінскі; Ветк.— Веткаўскі; Гом.— Гомельскі; Добр.— Добрушскі; Ельск.— Ельскі; Жлоб.— Жлобінскі; Жытк.— Жыткавіцкі; Калінк.— Калінкавіцкі; Карм.— Кармянскі; Лельч.— Лельчыцкі; Лоеўск.— Лоеўскі; Маз.— Мазырскі; Нар.— Нараўлянскі; Петр.— Петрыкаўскі; Раг.— Рагачоўскі; Рэч.— Рэчыцкі, Светл.— Светлагорскі; Хойн.— Хойніцкі; Чач.— Чачэрскі.

### 2. Граматычныя і стылістычныя паметы

аг.— агульны род; асудж.— асуджальнае; бат.— батанічнае; выкл.— выклічнік; груб.— грубае; дзеепр.—дзеепрыметнік; дзеясл.— дзеяслоў; ж.— жаночы род; заал.— заалагічнае; займ.— займеннік; зак.— закончанае трыванне; злучн.— злучнік; зневаж.— зневажальнае; знач.— значэнне, іран.— іранічнае; лаянк.— лаянкавае; ласк.— ласкальнае; лічэбн.— лічэбнік; м.— мужчынскі род; н.— ніякі род; неадабр.— неадабральнае; незак.— незакончанае трыванне; павел.— павелічальнае; памянш.— памяншальнае; пар. ст.— параўнальная ступень; параўн.— параўнайце; перан.— пераноснае; прым.— прыметнік; прыназ.— прыназоўнік; прысл.— прыслоўе; спец.— спецыяльнае; толькі адз.— толькі адзіночны лік; толькі мн.— толькі множны лік; уст.— устарэлае; часц.— часціца.

# ЗМЕСТ

Б 43 Беларуская мова і мовазнаўства. Міжвуз. зборнік. Вып. III. Мн., Выд-ва БДУ, 1975.

264 с.
(М-ва выш. і сярэд. спец. адукацыі БССР. Гомел. дзярж. ун-т).

У навуковых артыкулах зборніка даследуюцца пытанні гістарычнай лексікі, граматыкі, агульнага мовазнаўства, дыялекталогіі і інш. Аўтары артыкулаў ставяць і дастаткова пераканаўча вырашаюць многія праблемы і пытанні беларускага і параўнальнага мовазнаўства. Матэрыялы да дыялектнага слоўніка Гомельшчыны, змешчаныя ў зборніку, пададзены ў выглядзе слоўніка. Вартасць іх у тым, што гэта малавядомыя, або зусім невядомыя масаваму чытачу лексічныя багацці Гомельшчыны.— Літ. у падрад. заўвагах.

Б $\frac{70103-028}{М317-75}$ 60—75 4 Бел

На белорусском языке

БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫК
И ЯЗЫКОЗНАНИЕ

Межвузовский сборник

*Выпуск III*

Издательство Белорусского государственного университета им. В. И. Ленина.
Минск, ул. Кирова, 24.

Рэдактары В. В. Сербантовіч, А. І. Гутарава
Мастак В. Ц. Лапіцкі
Мастацкі рэдактар Л. Г. Мядзведзева
Тэхнічны рэдактар В. П. Безбародава
Карэктар Г. М. Новікаў

АТ 06176. Здадзена ў набор 6/I 1975 г. Падпісана да друку 3/VI 1975 г. Фармат 84X108 1/32. Папера друкарская № 3. Фіз. друк. арк. 8,25. Ум. друк. арк. 13,86. Ул.-выд. арк. 14,82. Заказ 17. Тыраж 500 экз. Цана 1 р. 49 к.

Друкарня Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна Мінск, вул. Кірава, 24.